КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 21 (342) ◂ 31 мая ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144




**ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ**

Стар. 4

**ЯК ЖЫВУЦЬ ПЕНСІЯНЕРЫ Ў ІЗРАІЛІ**

Падчас вандроўкі ў Зямлю Абяцаную мяне зацікавіў узровень жыцця былых савецкіх пенсіянераў, якія не зарабілі пенсію ў Ізраілі і замест яе атрымліваюць дапамогу па старасці

Стар. 6

**КУДЫ ІДЗЕ БАЛГАРЫЯ?**

Палітычны пат у Балгарыі, які склаўся пасля выбараў 13 мая, адчыняе перспектывы правым папулістам

Стар. 27

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КАРУПЦЫЯ ЯК ІНСТРУМЕНТ КІРАВАННЯ**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ З НАГОДЫ




# ШТУРМ ЗАХАДУ: ПАДМАННЫЯ МАНЕЎРЫ

Сяргей ПУЛЬША

**Як кажуць, адзін раз — памылка, два разы — выпадковасць, тры разы — тэндэнцыя. «Архітэктар дыялогу з Захадам», міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей трэці раз за месяц ухіліўся ад сустрэчы з заходнімі партнёрамі. Гэта значыць, ніякага празаходняга кірунку ў беларускіх уладаў няма.**

Першы раз Макей не паляцеў у Нью-Ёрк. Ён павінен быў там быць 13–14 мая на пасяджэнні высокага ўзроўню Генасамблеі ААН па агляду выканання Глабальнага плана дзеянняў па барацьбе з гандлем людзьмі. 13 мая павінна была адбыцца ягоная сустрэча з генсекам ААН Пан Гі Мунам. Аднак, паводле афіцыйнай версіі, больш важным для Макея было знаходзіцца ў Арменіі побач з прэзідэнтам Беларусі. Гэты візіт у Арменію, дзе Лукашэнка адкрыў казіно ды наведаў царкву, дагэтуль застаецца самым няўцямным візітам прэзідэнта наконт ягоных мэтаў і задач. Няўжо беларускі МЗС аддаў няўцямнаму візіту больш вагі, чым Пан Гі Муну?

Потым МЗС РБ заявіла, што Макей не паедзе ў Кракаў для ўдзелу ў сустрэчы кіраўнікоў МЗС краін «Усходняга партнёрства», якая праходзіла 17–18 мая. Між тым, прадстаўнік Пасольства Польшчы ў РБ паведаміў СМІ, што ў Кракаве чакалі менавіта Макея. «Пасля кансультацый з нашымі партнёрамі было прынята рашэнне аб запрашэнні беларускага боку. Запрашэнне перададзена на рукі спадару Макею, што прадугледжвае яго асабісты ўдзел у сустрэчы», — адзначыла крыніца «Інтэрфакса» ў пасольстве Польшчы.

І зараз — новы «пракідон» еўрапейцаў. 28 мая ў Брусэлі прайшло пасяджэнне рабочай групы па справах Беларусі ў межах Парламенцкай асамблеі «Усходняга партнёрства» «Еўранэст» з удзелам прадстаўнікоў беларускай апазіцыі ў якасці назіральнікаў. Запрашэнне на пасяджэнне рабочай групы было накіравана і Макею, але ён адмовіўся ехаць у Брусэль, паведаміў кіраўнік рабочай групы Яцэк Сарыюш-Вольскі. «Саму адмову міністра замежных спраў наведаць пасяджэнне рабочай групы, якое прысвечана Беларусі, тое, што ён не можа прыехаць і сесці за тым жа сталом, за якім сядзяць прадстаўнікі апазіцыі ці грамадзянскай супольнасці Беларусі, азначае, што ЕС і беларускім уладам размаўляць няма пра што», — адзначыў Сарыюш-Вольскі.

Што ж за хвароба спасцігла Макея? У першым квартале года ён, здаецца, у ляпёшку разбіваўся, каб правесці перамовы з пасламі еўрапейскіх краін, каб нармалізаваць адносіны з Захадам. А зараз ігнаруе свае ж дасягненні! Ну, сапраўды, на «Еўранэст» з удзелам толькі апазіцыі, а не афіцыйных парламентароў, можа, і не варта было б ехаць. Але ж не тры сустрэчы запар пракідваць!

Некаторыя СМІ выказалі меркаванне, што Макей паплаціўся за сваю «еўрапейскасць», выйшаў з даверу прэзідэнта і стаў «невыязным» з краіны. Але такое меркаванне, па словах палітычнага аглядальніка Рамана Якаўлеўскага, увагі не вартае. Па-першае, Макей не першы раз адмаўляецца ехаць на такія міжнародныя сустрэчы. Прыкладам, ён не паехаў на прэзентацыю старшынства Украіны ў АБСЕ, якая праходзіла ў Дубліне ў канцы мінулага года. Між тым, і туды Макей быў запрошаны асабіста, а замест яго паехаў намеснік — Аляксандр Міхневіч.

Па-другое, Макей — не такая самастойная фігура, каб за нешта паплаціцца. «Адмова ад сустрэчы з Пан Гі Мунам матывуецца тым, што Макей патрэбен прэзідэнту ў Ерэване. Гэта смеху вартае, але гэта ў чарговы раз паказвае, што ўсё ў Беларусі, у тым ліку і ў міжнародных адносінах, вырашае Лукашэнка. І не трэба ў гэтай сітуацыі называць Макея нейкай самастойнай фігурай, — гэта далёка не так», — лічыць Якаўлеўскі.

Паводле меркавання аглядальніка, справа ў тым, што афіцыйны Мінск насамрэч ніколі і ніякім чынам не імкнуўся наладзіць з Захадам нейкі «дыялог», лібералізавацца і аніякім чынам у бок Захаду рухацца не збіраецца.

Пра гэта, кажа Якаўлеўскі, сведчыць і інтэрв'ю Макея, якое ён даў «РИА Новости» напярэдадні 2 красавіка, Дня яднання Беларусі і Расіі. «Пасля гэтага інтэрв'ю ўсе высновы мясцовых палітолагаў, аналітыкаў і іншых мазгаведаў пра нейкую гатоўнасць Мінска наладзіць адносіны з Захадам можна выкінуць на сметнік. Тую размову я інакш як аплявухай ЕС і ЗША назваць не магу. Там усё раскладзена па паліцах, і ясна заяўлена аб нязменнасці пазіцыі афіцыйнага Мінска ў кантактах з Еўрасаюзам. Там ясна пазначана, што нармалізацыя адносінаў з Захадам магчымая толькі на ўмовах Мінска, а любыя кампрамісныя пазіцыі разглядаюцца як слабасць іншага боку», — зазначае Якаўлеўскі.

Нашто ж Мінску бачнасць дыялогу з Захадам? Здаецца, гэта проста звыклыя геапалітычныя арэлі беларускай улады, і «нармалізацыя адносінаў з захадам» скіраваная, перш за ўсё, у бок Расіі. Зараз менавіта ўсходні напрамак павінен з'явіцца для Беларусі прыярытэтам, менавіта на ім больш праблемных пытанняў і нявызначанасці. Таму афіцыйны Мінск і гуляе ў «нармалізацыю» на заходнім кірунку — каб, у выпадку чаго, у чарговы раз застрашыць Расію паваротам да Еўропы. І з таго ж меркавання Лукашэнка падвесіў пытанне расійскай авіябазы ў Беларусі. Магчыма, з таго ж імкнення — пакінуць пытанне базы падвешаным, Лукашэнка не паехаў на саміт АДКБ 28 мая ў Бішкеку. Там якраз было месца абмеркаваць вайсковае пытанне, але Лукашэнка пакінуў яго нявызначаным. Магчыма, як козыр на сустрэчы з Пуціным у межах пасяджэння Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета.

Пытанне толькі, наколькі такую пазіцыю «прасякае» Расія. Здаецца, пра такія арэлі яна даўно ведае, і імі мы ёй ужо надакучылі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### САЛІГОРСК. ЗАБАРОНУ ВЕЛАПРАБЕГА АБСКАРДЗЯЦЬ У ААН

**Салігорскі маладафронтавец Андрэй Тычына накіраваў у Камітэт па правах чалавека ААН скаргу на забарону велапрабегу ў падтрымку беларускай нацыянальнай сімволікі.**

Падрыхтоўку скаргі маладзён ажыццяўляў цягам некалькіх апошніх месяцаў пры падтрымцы мясцовага прадстаўніцтва Беларускага Хельсінкскага камітэту. Напрыканцы траўня ўсе дакументы былі дасланыя ў Камітэт па правах чалавека ААН.

У скарзе маладафронтавец прыводзіць усе акалічнасці, звязаныя з забаронай велапрабегу, ды просіць Камітэт прызнаць факт парушэння Рэспублікай Беларусь права на свабоднае выказванне свайго меркавання, гарантаванага часткай 2 артыкула 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, і права на мірныя сходы, гарантаванага артыкулам 21 пакта.

Андрэй Тычына таксама просіць, каб Камітэт ААН рэкамендаваў Рэспубліцы Беларусь забяспечыць яму эфектыўны сродак прававой абароны, уключаючы пакрыццё панесеных ім юрыдычных выдаткаў ды адпаведную кампенсацыю за панесеную шкоду, выкліканую парушэннем яго правоў.

Нагадаем, яшчэ ў траўні 2012 года прадстаўнік салігорскай філіі «Маладога фронту» звярнуўся ў Салігорскі райвыканкам з заявай аб правядзенні масавага мерапрыемства з нагоды чарговай гадавіны скасавання дзяржаўнага статусу бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня». Мясцовыя ўлады мірную акцыю ў выглядзе велапрабегу забаранілі. У пошуках праўды Андрэю Тычыне давялося прайсці праз суд Салігорскага раёна ды Мінскі абласны суд, але іх рашэнні былі не на карысць маладзёна. Да таго ж судовыя інстанцыі значна зацягвалі працэс, што не дазваляла маладафронтаўцу доўгі час звярнуцца па абарону сваіх правоў у міжнародныя інстанцыі.

### БАБРУЙСК. ВАСЬКОВІЧА ПАПРОСЯЦЬ НАПІСАЦЬ ПРАШЭННЕ АБ ПАМІЛАВАННІ

**Бабруйскія грамадскія актывісты непакояцца за палітвязня Яўгена Васьковіча, які надта часта трапляе ў карцар, месяцамі не дасылае ці не атрымлівае лісты. Таму яны вырашылі распачаць своеасаблівую акцыю: дасляць Яўгену як мага болей лістоў з просьбай напісаць прашэнне аб памілаванні.**

Маці хлопца Рушання Васьковіч, не верыць у тое, што гэта дасць плён.

«Я заводзіла гэтую тэму ў размовах з Жэнем, і не аднойчы. А ён злуецца, і кажа: «Мама, гэта не абмяркоўваецца!» Мне падаецца, што такія лісты яго яшчэ больш азлобяць, баюся, што не захоча зусім ліставацца. У нашых размовах Жэня прасіў, каб гэтае пытанне не ўздымалася ў СМІ», — кажа маці.

Галіна Смірнова, мясцовы каардынатар прафсаюза РЭП і адна з ініцыятараў такога ліставання, мяркуе, што верагоднасць пераканаць Яўгена ёсць.

«Я даўно і моцна хвалююся за Жэню, страшна падумаць, што там з ім адбываецца, і вельмі хацелася б, каб ён быў тут з намі. Гэтае пытанне ўзнялі на абласной канферэнцыі БХД, якая праходзіла ў Бабруйску. Мы падумалі, што калі Жэню напішуць, у першую чаргу, кіраўнікі яго партыі, напрыклад, Павел Севярынец. Гэта можа пераканаць хлопца. А яшчэ лепш будзе, калі як мага больш людзей напіша яму, наколькі важна, каб ён не марнаваў сваю маладосць у турме, а прынosіў карысць на свабодзе. Я згодная з Рушаннай Іванаўнай, такія лісты могуць азлобіць яго. Таму іх павінна быць сапраўды шмат, трэба шчыра пераканаць яго, сказаць яму: «Хопіць ужо, Жэня, ты ўсё нам даказаў, а зараз зрабі крок да вяртання», — сказала Смірнова.

Яна лічыць, што свой тэрмін пакарання Яўген ужо адбыў. Грамадская актывістка кажа, што менавіта ў гэтым трэба пераканаць маладога палітвязня.

Нагадаем, грамадскі актывіст Яўген Васьковіч асуджаны за акцыю салідарнасці пад Бабруйскім КДБ на сем гадоў пазбаўлення волі.

Даслаць ліст палітвязню можна на адрас: 212011 г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма №4.

### СЛОНІМ. ЗНІКЛІ ГРОШЫ НА ПОМНІК ЛЬВУ САПЕГУ

**Збор сродкаў на помнік знакамітай гістарычнай асобе, канцлеру ВКЛ і слонімскаму старасту, Льву Сапегу быў распачаты ў 2008 годзе. З гэтай мэтай на рахунак Слонімскага райвыканкама, заведзены ў філіяле № 422 ААТ «АСБ Беларусбанк» (рахунак № 3632213340024 код 852, УНП 500010377), пералічалі грошы ад прадпрыемстваў Слоніма, прыватных асобаў, прадпрымальнікаў.**

Мінула пяць гадоў. Скульптарам Іванам Міско, які родам са Слонімшчыны, даўно распрацаваны праект помніка. Вось толькі куды падзеліся грошы? На гэтае пытанне пакуль ніхто не даў адказу.

Ні супрацоўнікі слонімскага філіялу № 422 «Беларусбанка», ні супрацоўнікі райвыканкама не могуць знайсці тыя грошы. Атрымліваецца, што рахунак райвыканкама існуе, а сродкаў няма. Хоць вядома, што слонімцы даволі актыўна пералічвалі грошы на помнік знакамітаму земляку.

**Паводле spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ДЗЯРЖАЎНЫЯ ВЕДАМСТВЫ АДПІСАЛІСЯ БАЖ

**Мінюст, МУС, Генпракуратура і Следчы камітэт, да якіх ГА «БАЖ» звярталася з нагоды арыштаў Ярашэвіча, Барбарыча і Галко, даслалі пісьмовыя адказы.**

Міністэрства юстыцыі, якое журналісцкая арганізацыя заклікала «забяспечыць галоснасць судовай вытворчасці», адказала, што «працэсуальныя пытанні судовага разбору не адносяцца да іх кампетэнцыі».

Міністэрства ўнутраных спраў сцісла паінфармавала, што «дзейнасць органаў унутраных спраў рэгламентавана законам «Аб органах унутраных спраў», і што «кантроль і нагляд ажыццяўляюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам». ГА «БАЖ», нагадаем, заклікала МУС «забяспечыць няўхільнае выкананне заканадаўства супрацоўнікамі міліцыі і спыніць выпадкі злоўжывання імі правамі і паўнамоцтвамі».

Генеральная пракуратура, якую журналісцкая арганізацыя прасіла зладзіць неадкладную праверку з нагоды затрыманняў і арыштаў калег, лічыць, што скардзіцца павінныя самі пацярпелыя: «Калі названыя ў Вашым звароце лічаць, што ў выніку прыцягнення да адміністратыўнай адказнасці парушаныя іх правы і законныя інтарэсы, яны маюць права самастойна звярнуцца з адпаведнымі скаргамі ў органы пракуратуры ці суд...»

Следчы камітэт заклікалі праверыць, ці не прысутнічаюць у дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі прыкметы злачынства, прадугледжанага арт. 198 КК (стварэнне перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналіста). «Паколькі ў сваёй заяве Вы не прыводзіце якіх-небудзь аб'ектыўных фактаў, якія ўказваюць на ажыццяўленне супрацоўнікамі органаў унутраных спраў і работнікамі суда крымінальна каральных дзеянняў, падстаў для правядзення Следчым камітэтам праверкі ў адпаведнасці з патрабаваннямі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ не маецца», — піша начальнік аддзела па рабоце са зваротамі грамадзян С. Тухто.

«Я б назвала гэтыя адказы менавіта адпіскамі, — кажа старшыня ГА «БАЖ» Жанна Літвіна. — Гэтыя лісты не наблізілі ўзаемаразумення журналістаў з міліцыяй і не знялі пастаўленых пытанняў. А між тым, сітуацыя з затрыманнямі і прысудамі нашым калегам вымагае дэталёвага разгляду і адэкватнага рэагавання з боку кіраўнікоў пэўных ведамстваў... Чаму ва Украіне справа пра напад на журналістаў бярэцца пад асаблівы кантроль МУС? Чаму ў Расіі стала магчыма ўвядзенне «картак бяспекі» для журналістаў, якія працуюць на вулічных акцыях? Чамусьці такі досвед працы сілавых ведамстваў усходніх суседзяў не робіцца прыкладам для нашых. А між тым, я ўпэўненая, надыдзе той момант, калі да абмеркавання гэтых балючых пытанняў усё роўна давядзецца вярнуцца...»

Нагадаем, што 13 мая ГА «БАЖ» накіравала старшыні Следчага камітэта Валянціну Шаеву, міністру юстыцыі Алегу Сліжэўскаму, міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу і генеральнаму пракурору Аляксандру Канюку афіцыйныя лісты і тэкст прынятай 8 мая заявы, з нагоды затрыманняў і прысудаў сябрам БАЖ Дзмітрыю Галко і Аляксандру Ярашэвічу, а таксама ранейшы аналагічны інцыдэнт з удзелам таго ж Ярашэвіча і Генадзя Барбарыча (па трое сутак кожнаму).

**Паводле прэс-службы БАЖ**

ЖКГ

## ЯКІЯ РЭФОРМЫ ПАТРЭБНЫ КАМУНАЛЬНІКАМ

**Рыгор Кастусёў у 1995–2001 гадах працаваў дырэктарам Шклоўскага раённага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а зараз з'яўляецца экспертам па ЖКГ праграмы «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі для Беларусі». Яму ёсць што сказаць пра рэформу ЖКГ. Прапануем экспертнае меркаванне экс-кандыдата ў прэзідэнты.**

— У камунальнай гаспадарцы рэформы наспелі даўно. На жаль, нават тыя этапы рэфармавання, якія былі запланаваныя беларускімі ўладамі, не ажыццявіліся. Яшчэ ў 2003 годзе была зацверджана дзяржаўная Канцэпцыя рэфармавання і развіцця ЖКГ. Далей пад яе прыняты шэраг праграмаў. Апошняя зацверджана на 2011–2015 гады. Існуюць і «паралельныя» праграмы «Чыстая вада», па энергазберажэнню, выкарыстанню мясцовых паліўных рэсурсаў.

Але можна смела сказаць: усё гэта правалена. Хаця парадокс у тым, што накіраваныя на іх сродкі «засвоеныя»! І галоўная прычына гэтага правалу банальная: дзяржава ніколі не можа быць настолькі паваротлівай, як прыватны бізнэс. А яго акурат у гэтай сферы і няма. Хаця ў канцэпцыі сказана: да 2015 года ўсе аб'екты жыллёва-камунальнай гаспадаркі будзе абслугоўваць прыватны бізнэс на ўмовах канкурэнцыі.

Наступная праблема — падрыхтоўка кадраў. Для ЖКГ кадры ў Беларусі фактычна не рыхтуюцца. Тры навучальныя цэнтры пры абласных упраўленнях — гэтага яўна не дастаткова.

Неабходна забяспечыць канкурэнцыю ў прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг. Менавіта канкурэнцыя дасць штуршок і для павышэння якасці, і паніжэння сабекошту.

Гэта галоўнае. Аднак ёсць яшчэ шмат пунктаў, якія трэба выканаць. Тут і асобая ўвага аб'ектам на сяле. Гэта і праблема перапрацоўкі смецця. Калі гэтую праблему не вырашыць у бліжэйшыя часы, то мы проста завалім краіну гарамі смецця, якія ўжо ёсць пад Мінскам.

Я заўсёды задаю пытанне — дзе дзяржава бярэ грошы, каб пакрыць тыя расходы, якія ідуць на камунальныя паслугі? Яна бярэ іх з бюджэту, з нашай кішэні! Таму ў рэформу жыллёва-камунальнай гаспадаркі неабходна ўнесці і такі пункт, каб тыя грошы, якія дзяржава забірае ў насельніцтва, вярнуць людзям праз фонды заработнай платы, пенсійныя фонды. І ўжо сам чалавек будзе распараджацца гэтымі грашыма.

Бо сітуацыя, калі дзяржава аплачвае за насельніцтва да 80 працэнтаў жыллёва-камунальных паслуг, больш выгадна багатым людзям, вялікім чыноўнікам, якія маюць у карыстанні жыллё з вялікімі плошчамі. А ў самым невыгодным становішчы аказваюцца малазабяспечаныя ў невялікіх кватэрах альбо сельскія жыхары, якія жывуць без водаправоду і каналізацыі. Таму менавіта чыноўнікі, якія жывуць у вялікіх кватэрах і больш за іншых спажываюць жыллёва-камунальныя паслугі — яны і імкнуцца гэтую сітуацыю замарозіць.

Тое, што адбываецца зараз на заканадаўчым узроўні, часам немагчыма зразумець. Правая рука не ведае, што робіць левая. 2 красавіка ўступіў у сілу новы Жыллёвы кодэкс. Збольшага яму можна даць станоўчую ацэнку, ёсць пазітыўныя зрухі. Але незаўважанай засталася адна падзея — літаральна за месяц да гэтага Саўмінам прынята «Праграма рэфармавання і развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі на 2011–2015 гады». І многія пункты праграмы супярэчаць новаму Жыллёваму кодэксу!

Зараз улады рыхтуюць новы ўказ аб наданні камерцыйнага статусу жыллю, якое яшчэ не з'яўляецца прыватызаваным. Людзей падштурхоўваюць прыватызаваць кватэры, але цяпер ужо за значна большыя сумы. Першасны прыватызацыйны разавы ўнёсак на працягу года пасля афармлення дакументаў на прыватызацыю павінен адпавядаць 10% ад кошту кватэры. Што для грамадзян, якія пражываюць у дамах, пабудаваных у 1980–1990 гадах, будзе раўняцца каля паўтары тысячы долараў. І калі людзі не прыватызуюць кватэры, то праз год ім давядзецца плаціць арэндную плату па рынкавым камерцыйным кошце.

Для чаго гэта робіцца? Проста ўлады спрабуюць выправіць свае хібы за кошт кішэняў беларускіх грамадзян.

**Паводле sn-plus.com**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



# АДПАЧНІЦЕ ПЕРАД ПРАЦОЎНЫМІ ПОДЗВІГАМІ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Бацькі і дзеці з нецярпеннем чакаюць канікулаў. І таму ва ўсіх ёсць праблема, як бавіць вольны час. Дзяржава больш-менш пра гэта падумала.**

Што тычыцца дзяцей, то пра некаторых з іх паклапацілася наша федэрацыя футбола разам з Мінадукацыі і ААТ «Белаграпрамбанк». У межах акцыі «Падары дзіцяці футбольны мяч!» яны наведаюць больш за 2 тысяч сельскіх і пасялковых школ ва ўсіх раёнах Беларусі і раздадуць футбольныя мячы амаль 22,5 тысячы першакласнікаў.

Футбольныя мячы будуць уручаны першакласнікам сельскіх школ, аграгарадкоў і пасёлкаў гарадскога тыпу на ўрачыстых лінейках, якія адбудуцца з 29 па 31 траўня. Мэта акцыі — у далучэнні дзясяткаў тысяч беларускіх дзяцей да самага масавага на планеце віду спорту.

«Дадзенае мерапрыемства ўжо стала добрай традыцыяй — другі год напярэдадні летніх вакацый першакласнікі ў сельскіх школах атрымліваюць футбольныя мячы. Але, у адрозненне ад мінулага года, геаграфія папоўнілася школамі ў пасёлках гарадскога тыпу. Гэтыя падарункі будуць спрыяць арганізацыі вольнага часу дзяцей, згуртаванню і выхаванню каманднага духу, фармаванню пачатковых спартыўных навыкаў і ўмацаванню здароўя. Як паказвае сусветны вопыт, менавіта хлопцы з правінцыі дзякуючы сваёй настойлівасці, працавітасці, самабытнасці часцей за ўсё ператвараюцца ў «зорак» першай велічыні», — паведамілі ў «Белаграпрамбанке».

Выбарка, канешне, дзіўная. Бо якраз сельскім дзецям летам справаў хапае: і з гародам дапамагчы, і жывёліну гадаваць, а некаторыя і падпрацоўваюць у калгасах. А вось «гарадскія» якраз «бадзяюцца па вуліцах», пра што неаднаразова заяўлялі нашы чыноўнікі, і нават стварылі для іх працоўныя лагеры.

Забаўку падрыхтавалі і дарослым. Не паспеў Віцебск ачомацца ад нашэсця «газпрамаўскіх» расіян, якія ледзьледзь не разнеслі горад па кавалачках, як яго чакае новае выпрабаванне. Як паведамляюць дзяржаўныя крыніцы, зараз у Віцебску назіраецца ажыятажны попыт на білеты «Славянскага базару». Нягледзячы на тое, што фестываль пройдзе ў сярэдзіне ліпеня.

Але цікавы рэйтынг мерапрыемстваў, на якія існуе попыт квіткоў. На першым месцы, канешне ж, адкрыццё і закрыццё «Базару», але ж адразу пасля яго ідзе гала-канцэрт «Шансон-ТБ». Ад шансону нязначна адстаюць сольныя канцэрты Крысціны Арбакайтэ і яшчэ адной «зоркі шансону» Алены Ваенгі.

На жаль, у нас паняцце «шансону» адрозніваецца ад французскага, дзе гэтым тэрмінам азначаюць немудрагелістыя куплеты. У нас шансон — музыка бандытаў, міліцыянтаў і «сінякоў», наскрозь прасякнутая турэмнай лірыкай. Што за публіка купляе квіткі на «Шансон-ТБ», і ці не ператворыцца «Славянскі базар» у «бандыцкі сходняк»? А што, «крыша» нармалёвая: маўляў, мы тут песенькі паслухаць сабраліся…

Тым больш, што квіткі на «Базар» можна купіць праз інтэрнэт. Гэтая паслуга даступная для жыхароў Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Балгарыі, Харватыі, Італіі, Славеніі, Германіі, Чэхіі, Грэцыі, Венгрыі, Канады, ЗША, Чылі, Кітая, Індыі, і, як ні дзіўна, Малайзіі.

А пакуль усе гуляюць у футбол ды слухаюць шансон, беларускае кіраўніцтва не спіць. Ёсць час заняцца састарэлымі праблемамі, якія ад іх не вырашэння з цягам часу сваёй актуальнасці не страчваюць. Беларускія ўлады вырашылі пачаць праект «Мінск-сіці» з нуля — паўторнага конкурсу на архітэктурную канцэпцыю забудовы гарадскога раёна.

Праведзены ў канцы мінулага года сумесны з «Ітэрай» конкурс быў прызнаны не адпавядаючым нейкай канцэпцыі. І вось з 27 траўня па 1 кастрычніка Мінгарвыканкам абвясціў новы міжнародны конкурс на архітэктурную канцэпцыю забудовы тэрыторыі ў межах старога аэрапорта «Мінск–1». Для ўдзельнікаў прадугледжаны грашовыя прызы. Пераможца атрымае 15 тысяч долараў, прызёры (2 і 3 месцы) — адпаведна 10 і 5 тысяч долараў за кошт сродкаў гарадскога бюджэту.

Цікава, чаму прызы плаціць горад, а не забудоўшчыкі? Бо менавіта ж забудоўшчыкі потым будуць увасабляць гэтую «архітэктурную канцэпцыю» ў жыццё? А калі ім гэтая канцэпцыя не спадабаецца? Намаляваць можна ўсё, а вось пабудаваць згодна з малюнкамі — значна складаней.

Таксама ўрад плануе наноў узняць пытанне па рэканструкцыі Нацыянальнага аэрапорта «Мінск» і распарадзіўся ліквідаваць установу «Дырэкцыя па будаўніцтве і рэканструкцыі аб'ектаў Нацыянальнага аэрапорта Мінск». Гэтае прадпрыемства было створана ў мэтах рэканструкцыі аэрапорта за кошт сродкаў звязанага кітайскага крэдыту на суму каля 600 мільёнаў долараў. Аднак запусціць праект так і не ўдалося, у першую чаргу з-за крызісу 2011 года, пасля якога беларуская ўлады перагледзелі многія праекты, у тым ліку і гэты, кошт якога да канца 2012 года вырас да 1,2 мільярда долараў.

У выніку беларуская ўлады публічна заявілі, што не маюць намер марнаваць такія грошы на аэрапорт, і заявілі, што адмаўляюцца ад паслуг і грошай Кітая. Але зараз прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч паведаміў, што знайшоў новую партыю інвестараў, якія зацікавіліся беларускім аэрапортам. Мясніковіч асабіста прыняў кіраўніка AEON Corporation Рамана Трацэнку і дырэктара ТАА «Новапорт» (кіраванне аэрапортамі) Сяргея Рудакова. Пасля сустрэчы Мясніковіч праінфармаваў Лукашэнку пра тое, што новыя інвестары нібыта гатовыя ўкласці каля 100 мільёнаў долараў.

«Лукашэнка ў цэлым падтрымаў гэтыя прапановы, і праз паўтара месяца ўрад павінен прадставіць адпаведны бізнес-план і праект інвестыцыйнай дамовы», — паведаміў Мясніковіч пра рашэнне Лукашэнкі.

Але 100 мільёнаў долараў — гэта не 1,2 мільярда, якія патрэбныя на рэканструкцыю аэрапорту. Трэба яшчэ грошы і яшчэ інвестары. Так што пакуль Мясніковіч і Лукашэнка з пераможнымі рэляцыямі паспяшаліся.

Але чым чорт не жартуе, можа, мы і самі здужаем? Бо, згодна ўказу аб рэканструкцыі аэрапорта, генеральным падрадчыкам яго рэканструкцыі з'яўляецца ААТ «Гроднапрамбуд». Толькі б не надарваўся…

Так што летам адпачываем, а з восені — на ўдарную будоўлю аэрапорта!

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ ДАРЭНКА



Вядомы тэлевядучы другі раз за месяц трапляе ў «Фігуры тыдня» як вялікі патрыёт Мінска. Раней ён заклікаў усіх рускіх, якія незадаволеныя замежнікамі-азіятамі на сваіх вуліцах, перасяляцца ў сталіцу Беларусі. Зараз жа аказалася, што гэтаму Дарэнка спрыяе не толькі словамі, але і на справе.

Дарэнка заўсёды хваліўся тым, што мае ў Мінску кватэру і перыядычна ездзіць у Беларусь паесці сала і выпіць настойкі. Аднак у ходзе яго судовых спрэчак з былой жонкай Марынай высветлілася, што Дарэнка яшчэ і вельмі сціплы мінчанін.

Некалькі месяцаў Дарэнка спрабуе развесціся з жонкай Марынай, каб распісацца з грамадзянскай жонкай Юляй, якая нарадзіла яму двух дачок. 17 красавіка ён развод, быццам бы, аформіў, аднак былая жонка Дарэнкі падала апеляцыю ў Кунцаўскі суд, патрабуючы аднаўлення шлюбу. У яе свой погляд на падзел сумесна нажытай маёмасці і аліменты на 13-гадовага сына Прохара.

«Не разумею яе прэтэнзій. Я аддаў ёй чатыры кватэры ў Мінску, дзве кватэры ў Маскве, дамы ў Барвісе і на Ніколінай Гары», — наракае Дарэнка ў інтэрв'ю часопісу «СтарХит».

Гэта значыць, у Мінску ў яго было аж чатыры кватэры! І ў іх жа хтосьці жыў! Значыць, Дарэнка з'яўляецца не толькі буйным інвестарам у жыллёвае будаўніцтва сталіцы, але і паспрыяў паляпшэнню дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне.

### ЖАНА БІРЫЧ



Самую прыемную навіну напярэдадні адпускнога сезону паведаміла намеснік старшыні Мінгарвыканкама Жана Бірыч. Паводле яе слоў, мінскія ўлады адмовіліся ад падвышэння тарыфаў на праезд у грамадскім транспарце горада да канца 2013 года.

«Далейшае павышэнне тарыфаў не чакаецца», — паабяцала Жанна Бірыч.

Праезд у сталіцы з 25 мая падаражэў на 17,5% — да 2000 рублёў. Раней улады заяўлялі пра намер давесці кошт праезду да 2 300 рублёў да канца года.

Гэта радасная навіна і для рэгіёнаў, паколькі павышэнне кошту праезду ў рэгіёнах традыцыйна ўвязвалася з павышэннем кошту ў Мінску. А значыць, па ўсёй краіне да канца года кошт талончыка мяняцца не павінен.

### АНДРЭЙ МЕЗІН

Беларускі галкіпер Андрэй Мезін застаўся без працы. Ён не атрымаў прапановы аб працягу супрацоўніцтва ад клуба Кантынентальнай хакейнай лігі «Трактар» (Чэлябінск), у якім ён выступаў у сезоне 2012/13. Пра гэта інфармуюць расійскія СМІ, спасылаючыся на менеджара чэлябінскага клуба Яўгена Цыбука.

У 38-гадовага ўраджэнца Чэлябінска Андрэя Мезіна з мясцовым «Трактарам» скончыўся кантракт 30 красавіка 2013 года, і кіраўніцтва клуба вырашыла не пралангаваць пагадненне, бо робіць стаўку на больш маладых галкіпераў ужо ў наступным сезоне.

У пятым чэмпіянаце КХЛ Андрэй Мезін выходзіў на пляцоўку ў форме ўральцаў толькі ў 11 матчах, дзе прапусціў 21 шайбу. Працэнт адбітых ім кідкоў склаў 91,7%. У плэй-оф (Кубку Гагарына) Мезін не гуляў. «Трактар» жа дабраўся да фінальнай серыі, у якой саступіў маскоўскаму «Дынама» ў шасці матчах.



▸ НЯСКОРАНЫЯ

# ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Напэўна, калі б не палітыка, ён бы адбыўся як выдатны геолаг. На час выпуску з геалагічнага аддзялення геафаку БДУ Павел Севярынец сабраў калекцыю, дзе было больш за дзве тысячы камянёў Беларусі. Усё раскладзена па адпаведных секцыях і, як належыць, апісана — назва, памеры, месца знаходкі, вынікі даследаванняў.**



Фота baj.by

Павел Севярынец

## Час пазнаваць свет

Напэўна, творчы падыход і жаданне ўсюды нешта шукаць у Паўла Севярынца — ад бацькоў. А яшчэ ад самаахвярнасці ў пошуках ісціны і непрыняцця любой хлусні.

Яго маці, Таццяна Яўгенаўна Севярынец, родам з Лунінца Брэсцкай вобласці. Амаль 36 гадоў працавала настаўніцай у розных школах. Да 2007 года, калі яе беспадстаўна звольнілі. Быццам бы за прагулы, але ўсе ведалі, што сапраўдная прычына ляжыць у палітычнай плоскасці. Прагулы арганізавала сама адміністрацыя школы, і вельмі цяжка паверыць, што без загаду з самага верху.

Канстанціна Паўлавіча Севярынца больш ведаюць як дзіцячага пісьменніка Кастуся Севярынца. Нарадзіўся ён у гомельскай вёсцы Унорцы, што ў 80-ці кіламетрах ад Чарнобыльскай станцыі. Лёс ператварыў яго з дырэктара школы ў журналіста, а прыродны талент дазволіў даволі хутка вырасці з журналіста раёнкі і рэдактара заводскай шматтыражкі да ўласнага карэспандэнта БЕЛТА-ТАСС па Віцебскай вобласці,

Кастусь і Таццяна пазнаёміліся на філалагічным аддзяленні БДУ, дзе абодва вучыліся. Вяселле адбылося 18 красавіка 1975 года, а 30 снежня 1976 года ў Оршы нарадзіўся хлопчык, якога ў гонар дзеда назвалі Павел.

У Віцебск Кастуся Севярынца накіравалі ў 1985 годзе, таму ўсё жыццё яго сына Паўла звязана менавіта з гэтым горадам.

## Час збіраць камяні

Спачатку было захапленне, потым — хобі і выбар прафесіі. Гэта пра геалогію.

Яшчэ ў дзяцінстве з сябрам Алегам Баршчэўскім (пляменнік Лявона Баршчэўскага і муж Вольгі Карач) Павел Севярынец апрацоўваў і шліфаваў жоўтыя халцэдоны, якіх у Беларусі вельмі багата. Хлопчыкі рабілі з іх пярсцёнкі і розныя ўпрыгожванні. А ў пошуках каштоўнага горнага крышталю нават спрабавалі збудаваць плаціну на рэчцы Лучоса (прыток Заходняй Дзвіны).

Гэта я да таго, што стаць геолагам Паўлу Севярынцу было накавана лёсам. Як і палітыкам.

Упэўнены, кожнаму з нас даводзілася чуць міф пра тое, што ў Беларусі няма ніякіх карысных выкапняў, краіна бедная. Мякка кажучы, гэта не так. Сярод 40 краін Еўропы Беларусь уваходзіць у дзясятку самых забяспечаных мінеральнымі рэсурсамі (калійныя і каменныя солі, будаўнічыя матэрыялы, торф, падземныя воды, крэйда і г.д.). Нават калі браць камяні, з якіх можна вырабляць упрыгожванні і сувеніры, Беларусі ёсць чым пахваліцца. Гаворка пра гранат, халцэдоны, розных відаў кварц, бурштын, кварцыты, крэмні.

У свой час у Паўла нават была мара стварыць цэлую галіну вытворчасці, нарабіць выключна беларускіх сувеніраў, якія былі б нашай адпаведнасцю ўральскаму малахіту альбо прыбалтыйскаму бурштыну.

Дарэчы, яго дыпломная работа называлася «Бурштын Беларусі». Абараніць яе дапамог Аляксандр Казулін, які на той час быў рэктарам БДУ. Справа ў тым, што яна была напісана на тарашкевіцы, і дэкан факультэта кінуў яе Севярынцу ў твар са словамі: «Такой мовы мы не ведаем». Аднак пасля сур'ёзнай размовы з рэктарам Казуліным працу (змятую і перакрэсленую) прынялі і паставілі «выдатна».

## Час рабіць выбар

У той час бліжэйшы да Беларусі Горны інстытут быў у Ленінградзе, а ў пачатку незалежнасці на геаграфічным факультэце БДУ было адкрыта геалагічнае аддзяленне, на якое і паступіў Павел Севярынец. Цікава, што самым першым выпускам апекаваўся знакаміты акадэмік Радзім Гарэцкі. Менавіта таму 70 адсоткаў новага прадмета выкладалася на беларускай мове.

Для Паўла Севярынца гэта было асабліва значна, бо на той момант ён ужо цвёрда ведаў, што абавязкова прысвяціць сваё жыццё папулярызацыі і адраджэнню ўсяго беларускага.

Шчыра кажучы, не вельмі люблю ў сваіх нарысах пафас, але ў дадзеным выпадку ён цалкам адпавядае рэчаіснасці. Для розных газетных артыкулаў я некалькі разоў размаўляў з Паўлам. Адзін рэдактар нават выказаў пажаданне ўбачыць размову з ім на рускай мове. Не атрымалася, бо ўжо на першых хвілінах стала ясна, што Севярынцу на самай справе вельмі цяжка размаўляць не па-беларуску.

Менш за ўсё хацелася б, каб у некага склалася ўражанне, што Павел Севярынец адмарожаны нацыяналіст, хаця, на мой погляд, у апошнім слове не павінна быць нейкага негатыву па вызначэнні. Літаральна некалькі месяцаў таму Кастусь Севярынец прэзентаваў рускамоўны варыянт кнігі свайго сына «Люблю Беларусь».

Дарэчы, пераклад кнігі «Люблю Беларусь» на рускую мову Канстанцін Паўлавіч Севярынец зрабіў асабіста, што цалкам абгрунтавана яго філалагічнай спецыялізацыяй — руская мова і літаратура. Як і ў маці — Таццяна Яўгенаўна амаль 37 гадоў выкладала ў школе менавіта «великий и могучий», і менавіта сын стымуляваў і дапамагаў ёй стаць беларускамоўнай.

## Час абраў яго

Мне ўжо даводзілася пісаць, што геаграфічны факультэт БДУ у свой час быў ледзь не крыніцай палітычнага вальнадумства краіны. Акрамя Паўла Севярынца, там вучыўся яшчэ і Вячаслаў Сіўчык.

Вучобу Павел Севярынец скончыў у 2000 годзе і атрымаў прафесію інжынера-геолага па спецыяльнасці «Разведка карысных выкапняў», аднак менавіта ў гэты час палітычныя віры дасягнулі свайго апагею на прэзідэнцкіх выбарах. Павел падтрымліваў Зянона Пазьняка, таму той факт, што ў кастрычніку 1995 года ён уступіў у БНФ «Адраджэнне» выглядае цалкам лагічным крокам.

У лютым 1997 года Севярынец узначаліў Мінскую моладзевую фракцыю БНФ, а ў верасні на Устаноўчым сойме быў абраны сустаршынёй «Маладога фронту». Дарэчы, адным з хросных бацькаў стварэння МФ па наш дзень называюць згаданага вышэй Вячаслава Сіўчыка, які на той час быў адным з лідараў БНФ.

Узгадаў я гэты факт наўмысна, бо чым далей падзея па часе, тым больш становіцца тых, хто ініцыяваў яе стварэнне... З народзінамі «Маладога фронту» можа адбыцца тое ж самае, што калісьці было з ленінскім бервяном на суботніку, якое неслі тысячы людзей...

І яшчэ адзін вельмі прынцыповы момант. У 1994–1999 гадах Павел Севярынец працаваў рэпарцёрам шэрагу дзяржаўных і камерцыйных выданняў, а з 1998 года пачаў друкавацца ў незалежнай прэсе як публіцыст. Там пачатак яго будучых кніг: «Ды-джэй Адраджэння» (1998 г.), «Пакаленне Маладога фронту» (2002 г.), «Нацыянальная ідэя» (2005 г.), «Лісты з лесу» (2007 г.), «Брату» (2007 г.). Павел Севярынец — лаўрэат літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтру імя А. Адамовіча.

## Пакутныя часы

За ўдзел і арганізацыю вулічных выступаў моладзі Паўла Севярынца за перыяд з 1997 па 2004 гады супрацоўнікі КДБ і міліцыі затрымлівалі больш за 40 разоў. Агулам Павел правёў пад арыштам амаль восем месяцаў і атрымаў 3,5 тысячы долараў (беларускімі рублямі — па курсу Нацбанка, зразумела) штрафаў.

Натуральна, што ўсё гэта мела і кар'ерны адбітак. З 1999 па 2003 год Севярынец быў старшынёй Партыі БНФ, а з 1999 па 2004 — лідарам «Маладога фронту».

Менавіта ў гэтыя часы ў старэйшай і некалі самай моцнай апазіцыйнай структуры пачалося тое, што называюць паляваннем на ведзьмаў. Павел Севярынец быў адным з першых, каго выключылі з шэрагаў руху БНФ «Адраджэнне». Каментаваць падобнае з пазіцый логікі вельмі цяжка, але не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што за разборкі ў БНФ нехта ў спецслужбах атрымаў «внеочередное воинское звание»...

Не раз даводзілася чуць, што рэлігійны складнік у дзейнасці «Маладога фронту» з часам пачаў дамінаваць не менш за палітычны. З гэтым цяжка не пагадзіцца, але асабіста я не бачу тут нічога экстраардынарнага. Магчыма, мы наглядаем своеасаблівую кампенсацыю адсутнасці ў грамадстве рэлігійнага складніку на працягу дзесяцігоддзяў.

Можа, гэта прагучыць крыху надумана, але, на мой погляд, вера ў Бога ўскосна і стала прычынай... другой хіміі Паўла Севярынца.

Патлумачу.

У 2005 годзе адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), дзе аднаго са стваральнікаў партыі Паўла Севярынца абралі сустаршынёй новай структуры. Пасля абвяшчэння ў 2010 годзе чарговых прэзідэнцкіх выбараў ён узначаліў выбарчы штаб другога стваральніка і сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага.

20 снежня 2010 года Паўла арыштавалі і змясцілі ў следчы ізалятар КДБ. 16 траўня 2011 года яго асудзілі да трох гадоў абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу — на так званую «хімію». Спачатку Паўла Севярынца абяцалі накіраваць у родную Віцебскую вобласць, аднак потым перайгралі (а можа, ведалі пра гэта з самага пачатку...) на спецкамендатуру №7 вёскі Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Там ён зараз у фермерскай гаспадарцы «Бардо» і працуе.

Напэўна, гэта прагучыць спрэчна, але асабіста я перакананы, што за кратамі Севярынца сёння трымаюць перш за ўсё таму, што не могуць нічога зрабіць з яго шчырай верай у Госпада.

А папярэдняя «хімія» (за арганізацыю акцый пратэсту супраць вынікаў рэферэндуму, які дазволіў Лукашэнку абірацца неабмежаваную колькасць разоў) праходзіла для яго на лесанарыхтоўках вёскі Малое Сітна Полацкага раёну Віцебскай вобласці. 31 траўня 2005 года Паўла Севярынца прысудзілі зноў-такі да трох гадоў, але потым скарацілі гэты тэрмін на год. За два месяцы да сканчэння тэрміну вызвалілі, што было пададзенай афіцыйнай прапагандай як праява вышэйшай міласэрнасці і літасці.

Напэўна, магла б быць і яшчэ адна адсідка. 2 красавіка 1998 года падчас апазіцыйнай маніфестацыі ў Мінску і за «зрыў канцэрту, прысвечанага аб'яднанню Расіі і Беларусі», Павел Севярынец быў змешчаны на Валадарку. Праз 2 месяцы пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадскасці яго вызвалілі і адправілі пад падпіску аб нявыездзе ў Віцебск. Крымінальная справа тады была закрытая ў лістападзе 1998 года. Без тлумачэнняў і прабачэнняў.

***

У чэрвені 2008 года разам з паэтам Рыгорам Барадуліным і пісьменнікам Уладзімірам Арловым Павел Севярынец стаў першым лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі», якую штогод рух «За свабоду» ўручае на радзіме Васіля Быкава. Вядома, што розных узнагарод у яго яшчэ шмат, але спыняю ўвагу менавіта на гэтай. Чаму? Таму што яе назва больш за ўсё адпавядае сутнасці героя — змаганне за свабоду думкі.

КОШТЫ

# «БЕЛКААПСАЮЗУ» ЗАГАДАЛІ ПАБІЦЬ «АШАН»

Сяргей ПУЛЬША

**Усе даўно прызвычаіліся, што ў Беларусі кошты на «сацыяльна значныя» тавары рэгулююцца дзяржавай. Але такога, каб дзяржава рэгулявала зніжкі і акцыі, яшчэ не было.**

Паклапаціўся пра зніжкі непасрэдна прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. Пэўна, яго ўразіла тое, што робіцца ў польскіх ды літоўскіх гіпермаркетах. Падчас нарады па сітуацыі ў сферы гандлю, ён зазначыў дрэнную працу Міністэрства гандлю і «Белкаапсаюза».

Паводле слоў прэм'ер-міністра, гэтыя структуры недастаткова ўвагі надаюць працы па стымуляванні спажывецкага попыту за кошт паўсюднага прадастаўлення скідак на тавары, правядзення рэкламных гульняў, акцый, распродажаў, мерапрыемстваў па раздачы пробных узораў тавараў і іншых рэкламных мерапрыемстваў, накіраваных на прасоўванне спажывецкіх тавараў.

У сувязі з гэтым Мясніковіч даручыў «распрацаваць і зацвердзіць мерапрыемствы па значным павелічэнні аб'ёму рознічнага тавараззвароту, у тым ліку і за кошт новых форм і метадаў абслугоўвання», паведамляе прэс-служба Саўміна.

Пэўна, зараз «Белкаапсаюз» і Мінгандлю тэрмінова пачнуць набіраць прамоўтэраў, якія будуць стаяць за стэндамі і прасіць «пакаштаваць самы смачны маянэз ад Мінскага маргарынавага завода».

Ці купіцца народ на такую «заманухy»? Наўрад ці, лічыць фінансавы аналітык Сяргей Чалы. Справа ў тым, што свінню ў гэтым сэнсе падклаў сабе менавіта ўрад.

Паводле Чалага, існуе цвёрдая і дакладна вызначаная залежнасць беларускага пакупніцкага попыту ад росту даходаў насельніцтва. Чым большыя даходы насельніцтва, тым больш падае попыт на беларускую прадукцыю. А даходы насельніцтва, як нядаўна нас запэўніваў урад, выраслі з пачатку года на 20%. «Чым большыя даход, тым болей беларусы набываюць не беларускай, а імпартнай прадукцыі. Гэта значыць, чым больш на руках грошай, тым больш прадаецца імпарт, і тым менш — айчынныя тавары», — адзначае Чалы.

Так што, для разгрузкі беларускіх складоў ад непрададзенага тавару трэба павышаць кошты, што недапушчальна, паколькі павышаецца і каэфіцыент інфляцыі. Альбо зніжаць заробкі, што таксама недапушчальна, бо ніякага зніжэння заробкаў у «беларускім эканамічным цудзе» быць не можа.




Белкаапсаюз і дысконт — несумяшчальныя

Аднак не толькі ўнутраным рынкам заклапаціўся Мясніковіч. Ён таксама даручыў прыняць меры па арганізацыі выязных кірмашоў у сумежных дзяржавах (у першую чаргу ў Расіі) і чакае значнага росту аб'ёмаў продажу на іх харчовых і нехарчовых спажывецкіх тавараў беларускай вытворчасці.

Гэта ўжо менш фантастычна, але ўсё роўна беларускія склады не разгрузіць, упэўнены іншы эканаміст, Антон Болтачка. Паводле ягоных слоў, на арганізацыю такіх мерапрыемстваў сыдзе значна больш часу і грошай, чым ад іх будзе заробку. І справа тут не ў тым, што беларускую прадукцыю ў той жа Расіі не ведаюць. Ведаюць, і вельмі добра. Справа ў тым, што Расія ўвайшла ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. І ў яе на рынку пачалі з'яўляцца новыя гульцы, якія прапануюць аналагічную беларускай прадукцыю, якая больш танная і больш якасная.

То бок, адбылося тое, пра што некалькі гадоў казалі эксперты: з уступленнем Расіі ў СГА расійскі рынак для беларускіх тавараў прасядзе. Яшчэ года не прайшло, як Расія ўступіла ў СГА, а мы ўжо пачынаем адчуваць наступствы гэтага ўступлення.

Што ж рабіць Мясніковічу, дый «Белкаапсаюзу»? Сапраўды набіраць штаты прамоўтэраў ды мерчындайзераў? Болтачка параіў, найперш, заняцца не зніжкамі ды акцыямі, а перабудовай схемы прасоўвання і распаўсюду сваёй прадукцыі. «Я б параіў для пачатку прадпрыемствам адкрыць свае засекі для прыватнікаў. То бок, дапусціць на склады прыватных і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гатовыя браць прадукцыю на рэалізацыю. Пакуль жа, у сілу ці то нежадання, ці то недаверу, ці то нейкіх іншых абмежаванняў, шлях прыватнікам да прадукцыі дзяржаўных прадпрыемстваў закрыты», — адзначае Болтачка.

Зразумела, чаму ён закрыты: з самага пачатку свайго прэзідэнцтва Лукашэнка змагаўся з пасярэднікамі і іншымі, на ягоную думку, прылiпаламі да сумленнага і працавітага чалавека. Хутчэй, адпускаць прадукцыю прыватнікам дзяржаўныя прадпрыемствы не спяшаюцца «па палітычных матывах», чым з меркаваннаў карысці. А між тым, прыватнікі здольныя прасунуць прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў на новыя рынкі — без усялякіх выдаткаў прадпрыемстваў.

І пакуль такая палітыка працягваецца, ніякія зніжкі разгрузіць склады не дапамогуць.

СЯБРОЎСКІЯ АБДЫМКІ

# РАСІЯ ЗАВОДЗІЦЬ «БЕЛАРУСЬКАЛІЙ» НА ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ

Сяргей ПУЛЬША

**У аднаго з флагманаў беларускай эканомікі — «Беларуськалія» — пачаліся праблемы, звязаныя з несумленнай канкурэнцыяй «Уралкалія». Расійскі бок вырашыў парушыць дамоўленасці і кінуць беларускі.**



Пра прэтэнзіі да «Уралкалія» распавёў гендырэктар «Беларуськалія» Валер Кірыенка. Беларускі бок абвінавачвае расійскага партнёра ў парушэнні абавязацельстваў у межах супрацоўніцтва па экспарту калійных угнаенняў праз Беларускую калійную кампанію (БКК). Па словах Кірыенкі, зараз «Уралкалій» пастаўляе праз БКК каля 20% хлорыстага калію, а астатнія 80% рэалізуе праз уласнага трэйдара — «Уралкалій Трэйдынг». І гэта з'яўляецца парушэннем дамоўленасці аб стварэнні БКК.

Каб зразумець, чаму гэта важна, трэба вярнуцца да гісторыі пытання. БКК была створаная ў 2005 годзе паміж «Уралкаліем» і «Беларуськаліем», каб сумесна гандляваць калійнымі ўгнаеннямі. Парытэт паставак залежаў ад магутнасці вытворчасці прадпрыемстваў. Тады магутнасці «Беларуськалія» былі большыя, чым у «Уралкалія», і таму 60% паставак прыходзілася на долю беларускага прадпрыемства, а 40% — на долю расійскага. Гэткае супрацоўніцтва дазваляла «трымаць кошты» на калійныя ўгнаенні і праводзіць уніфікаваную палітыку.

Сітуацыя змянілася ў 2011 годзе, калі да «Уралкалія» было далучана (кажуць, не без «рэйдарскай схемы») яшчэ адно расійскае прадпрыемства — «Сільвініт». Такім чынам, магутнасці «Уралкалія» аднамомантава выраслі, і парытэт змяніўся ўжо ў расійскі бок. На сёння аб'ём вытворчасці «Уралкалія» складае 13 мільёнаў тон хлорыстага калію ў год, а «Беларуськалій» пакуль што толькі плануе павялічыць вытворчую магутнасць да 11 мільёнаў тон.

Тым не менш, бакі падпісалі пагадненне на 2013–2015 гады. Была дамова пра наступныя прапорцыі продажаў: на 2013 год за беларускай бокам фіксуецца 48,3% продажаў калійных угнаенняў праз БКК, у 2014 годзе — 49%, у 2015-м — 50% на 50%.

А зараз «Уралкалій» праз БКК прадае, аказваецца, толькі 20%. Больш за тое, паводле гендырэктара «Беларуськалія», расійскі партнёр прадае калій сваім выбарчым NPK-угнаенняў, якія потым выціскаюць прадукцыю «Беларуськалія» на знешніх рынках.

А страта рынку менавіта зараз вельмі небяспечная для любога вытворцы калійных угнаенняў, бо рынак гэтых угнаенняў «прасеў». У мінулым годзе ўвесь сусветны калійны рынак знізіўся да 49–50 мільёнаў тон супраць 57 мільёнаў тон у рэкордным 2011 годзе. Цэны знізіліся па двух ключавых кантрактах: студзеньскага паўгадавога з Кітаем ($400 за тону супраць ранейшых $470) і лютаўскага гадавога — з Індыяй ($427 супраць ранейшых $490). Эксперты папярэджвалі: хуткага аднаўлення рынкаў чакаць не давядзіцца. І, на жаль, іх прагнозы спраўдзіліся.

Расійскія эксперты мяркуюць, што Кітай цалкам можа абысціся без новага кантракту на другое паўгоддзе. А дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер ужо заявіў «Інтэрфаксу»: кампанія не плануе заключаць новы кантракт з Кітаем.

Трэці па важнасці рынак калію, бразільскі, таксама супрацоўляецца падвышэнню коштаў, там калій застыў на $450 за тону, і рост пакуль што не прадбачыцца.

Для «Беларуськалія» гэта азначае скарачэнне вытворчасці, і, адпаведна, зніжэнне валютнай выручкі. А калі расійскі партнёр «падштурхоўвае» расійскіх вытворцаў да канкурэнцыі з прадукцыяй «Беларуськалія» — гэта ўвогуле дрэнна і нядобрасумленна.

Сітуацыю паспрабавалі ўрэгуляваць на самым версе. Аляксандр Лукашэнка правёў перамовы з суўладальнікам «Уралкалія», расійскім алігархам Сулейманам Керымавым. Пэўна, размова тычылася не толькі працы ў межах БКК, але і планаванага стварэння яшчэ аднаго сумеснага трэйдара — «Саюзкалія», які ўжо зарэгістраваны ў Швейцарыі. І пэўна, што бакі не дамовіліся. Лукашэнка даручыў стварыць камісію, якая ацэніць перспектывы сумеснага з Расіяй экспарту калійных угнаенняў.

Па словах Лукашэнкі, Керымаў пагадзіўся стварыць гэтую камісію. Аднак, дзве акалічнасці стварэння камісіі дазваляюць у гэтым сумнявацца. Першая: назіральнікамі за яе працай з'яўляюцца сын Лукашэнкі Віктар і старшыня КДБ Беларусі Валер Вакульчык, а кіраўніком — старшыня праўлення ААТ «Банк развіцця Беларусі» Сяргей Румас. Пра ўваходжанне ў камісію расійскага боку не гаворыцца нічога. Другая: камісія павінна разглядзець не сітуацыю з БКК і «Саюзкаліем», а «перспектывы сумеснага з Расіяй экспарту калійных угнаенняў» увогуле. То бок, магчымы поўны разрыў і ліквідацыя як «Саюзкалія», так і БКК.

Беларускія ж аналітыкі кажуць, што тут прыглядаецца вельмі цікавы ланцужок. Па-першае, гэта агульны ціск Расіі на Беларусь з мэтай прымусіць кіраўніцтва краіны выканаць папярэднія дамоўленасці: стварэнне пяці расійска-беларускіх холдынгаў, размяшчэнне расійскай авіябазы і гэтак далей. Па-другое, гэта і штуршок да абяцанай прыватызацыі «фамільнага срэбра». «Беларуськалій» з'яўляецца адным з прынадных кавалкаў беларускай прамысловасці, і размовы пра ягоную прыватызацыю ідуць ужо не першы год.

У Беларусі хуткім часам могуць з'явіцца праблемы з валютай. Валютны крызіс будзе абцяжараны і тым, што з мая 2013 года па май 2014 года краіна павінна выплаціць каля 3 мільярдаў долараў па ранейшых пазыках і іх абслугоўванні. Калі не ўваскрэсне экспарт (што ўвогуле фантастычна), то застаецца толькі адзін спосаб здабыць валюту — прыватызацыя.

На фоне агульнага крызісу попыту на калій, зніжэнне вытворчасці і страта рынкаў («дзякуючы» сабатажу з боку Расіі) кошт «Беларуськалія» непазбежна ўпадзе. Нягледзячы на тое, што цану за прадпрыемства вызначае ў адвольным парадку ці не сам кіраўнік дзяржавы, перад прыватызацыяй усё ж у абавязковым парадку будзе праводзіцца незалежны аўдыт. Таму патэнцыйныя пакупнікі (найперш гэта той жа Сулейман Керымаў), наўпрост зацікаўленыя ў тым, каб гэты аўдыт ацаніў «Беларуськалій» у як мага меншую суму. І таму, магчыма, «Уралкалій» імкнецца «кінуць» партнёра па згаданай Кірыенкам схеме.

Сапраўды, навошта зараз выконваць нейкія дамоўленасці, калі спадзеешся хутка ўзяць усё і вельмі танна?

ЦІКАВА

# ЯК ЖЫВУЦЬ ПЕНСІЯНЕРЫ Ў ІЗРАІЛІ

Марат ГАРАВЫ

**Падчас вандроўкі ў Зямлю Абяцаную мяне зацікавіў узровень жыцця былых савецкіх пенсіянераў, якія не зарабілі пенсію ў Ізраілі і замест яе атрымліваюць дапамогу па старасці.**

Я падлічыў бюджэт 94-гадовай бабулькі, якая жыве адна ў двухпакаёвай арандаванай кватэры на першым паверсе чатырохпавярховага шматкватэрнага дома ў курортным міжземнаморскім горадзе Ашкелон на паўднёвым захадзе краіны.

## Даходы і расходы

Штомесячны даход бабулі — 3 950 ізраільскіх шэкеляў, ці больш за 1 тысячу долараў ЗША (пры сённяшнім курсе 3,675 шэкеля за адзін долар). З іх 2 900 шэкеляў — дапамога па старасці, 900 — на аплату кватэры і 150 шэкеляў — даплата на арэнду жылля для адзінокіх пенсіянераў.

Якія выдаткі нясе жанчына? Прыкладна 1 000 шэкеляў штомесячна выдаткоўваецца на ежу. Прычым гаворка ідзе пра харчаванне, якое гарманічна спалучае ўсе неабходныя складовыя для чалавека сталага ўзросту.

Вось чаму на стале ў бабулі заўсёды прысутнічаюць мёд, аліўкавы алей, аўсянка, грэчка і рыс, тварог і ёгурт, дастаткова танная розная свежая гародніна, зяляніна і садавіна на працягу ўсяго года (проста вочы разбягаюцца на рынку!), рыба і мяса (курацiна, індычына, цяляціна, ялавічына і бараніна), мінеральная вада, кава і гарбата, хлеб і кандытарскія вырабы, шакалад, спецыі і арэхі (грэцкія, фундук і міндаль), а таксама мясцовыя сухафрукты.

Калі ж жанчына тройчы на тыдзень наведвае клуб пажылых людзей, дзе можна не толькі смачна пад'есці, але і цікава правесці час з аднагодкамі, яе выдаткі на харчаванне змяншаюцца больш чым на палову.

Камунальныя паслугі штомесяц каштуюць бабульцы каля 2 100 шэкеляў і ўключаць: выдаткі на арэнду жылля — 1 500 шэкеляў, на электраэнергію — 125, на ваду — 25, на тэлефон — 200, прагляд праграм розных тэлеканалаў — 200, прыбіранне дому і прылеглай тэрыторыі — 45. Бабуля бясплатна карыстаецца грамадскім транспартам.

Акрамя таго, наша пенсіянерка выдзяляе каля 150 шэкеляў штомесяц на лекі і прыкладна 50 шэкеляў на прадметы санітарыі і гігіены. Яшчэ 50 шэкеляў штомесяц ідзе на непрадбачаныя расходы. Атрымліваецца, што агульныя выдаткі нашай пенсіянеркі не перавышаюць 3 350 шэкеляў.

Такім чынам, штомесяц бабулька можа адкладаць не менш за 600 шэкеляў (звыш 160 долараў). А пры наведванні клубу пажылых людзей гэтая лічба можа павялічыцца амаль удвая. Свае зберажэнні жанчына выдаткоўвае на вандроўкі, новую мэблю і бытавую тэхніку, а таксама на падарункі родзічам, якія жывуць у Ізраілі і Расіі.

## Медычнае абслугоўванне

Пры гэтым бабуля карыстаецца бясплатным медычным абслугоўваннем, якое лічыцца адным з найлепшых у свеце. Нездарма па працягласці жыцця ізраільскія мужчыны з'яўляюцца сусветнымі лідарамі, а жанчыны займаюць адно з вядучых месцаў на планеце. Бабулька штогод праходзіць абавязковы медычны прафілактычны агляд, па выніках якога прызначаюцца неабходныя лячэнне і аперацыі. Каля ложка нашай пенсіянеркі на століку месціцца так званая «кнопка дапамогі», якая дазваляе ў любы момант бясплатна выклікаць на кватэру дактароў, выратавальнікаў і паліцыю.

Акрамя таго, 27 гадзінаў на тыдзень бабульцы дапамагаюць дзве метапеле (нянькі). Яны не толькі прыбіраюць кватэру і мыюць бялізну, але і выконваюць усе неабходныя банкаўскія аперацыі, купляюць прадукты і лекі, а таксама суправаджаюць жанчыну падчас наведвання клубу, паліклінікі і іншых сацыяльна-культурных аб'ектаў.

Такі ўзровень жыцця ізраільскай пенсіянеркі непараўнальна пераўзыходзіць магчымасці беларускага пенсіянера, штомесячная пенсія якога наўрад ці дазволіць нават харчавацца па-ізраільску. Пра ўсё астатняе няма чаго і казаць…

І напрыканцы — кошты асобных прадуктаў харчавання ў Ізраілі (у доларах ЗША): хлеб — ад 0,8 да 2,3 за батон, малако — 1 за літр, тварог — 6 за кілаграм, яйкі — ад 1,2 да 1,9 за дзясятак, свежая рыба — ад 9,5 да 11,5 за кілаграм, марожаная рыба — ад 5 да 10 за кілаграм, свежае мяса — ад 1,8 да 19 за кілаграм, свежая гародніна — ад 0,8 да 1,6 за кілаграм і свежая садавіна — ад 0,8 да 2,7 за кілаграм.



Іерусалім. Уражваюць шматлікія сонечныя батарэі і катлы для гарачай вады на дахах дамоў, якія скрозь абліцаваны мясцовым так званым іерусалімскім камнем

### Трохі пра Ізраіль:

Мёртвае мора — самае нізкае месца на Зямлі і адзін з самых салёных вадаёмаў свету: у літры яго вады ўтрымліваецца 340 грамаў солі.

З візай Ізраіля ў замежным пашпарце яго ўладальнік не зможа наведаць мусульманскія краіны (Іран, Кувейт, Ліван, Лівію, Пакістан, Саудаўскую Аравію, Емен, Сірыю і Судан) нават у тым выпадку, калі ў пашпарце ёсць сапраўдная віза адной з названых краін.

З часоў ізраільска-егіпецкіх войнаў у памежных пустынных раёнах засталіся замініраваныя палі. Мясцовыя жыхары называюць гэтую зону «краем лятаючых вярблюдаў».

Сотавы тэлефон быў вынайдзены ў ізраільскай філіі «Матаролы» — самым вялікім даследчым цэнтры гэтай кампаніі.

Большасць аперацыйных сістэм Windows NT і XP распрацавана ў ізраільскай філіі кампаніі Microsoft, а кампутарная тэхналогія Pentium MMX — у ізраільскім аддзяленні фірмы Intel.

За межамі ЗША Microsoft і Cisco адкрылі свае навукова-даследчыя цэнтры толькі ў Ізраілі.

Ізраіль займае першае месца ў свеце па колькасці кампутараў, музеяў, біятэхналагічных і пачынаючых кампаній, а таксама навуковых работ на душу насельніцтва.

Ізраіль займае трэцяе месца ў свеце па ўзроўні развіцця прадпрымальніцтва і першае — па ўдзелу ў ім жанчын і людзей старэй за 55 гадоў.

У краіне самы вялікі працэнт эмігрантаў у адносінах да агульнай колькасці насельніцтва. Эмігранты прыязджаюць у пошуках дэмакратыі, рэлігійных свабод і эканамічных магчымасцяў.

Ізраіль займае другое месца ў свеце па колькасці выдадзеных кніг на душу насельніцтва.

Ізраільскія навукоўцы ўпершыню распрацавалі кампутарны безрадыяцыйны метад дыягностыкі раку грудзей.

Ізраільская кампанія стварыла кампутарную сістэму беспамылковага размеркавання лекаў, што дазволіла скасаваць чалавечы фактар пры выдачы лекавых сродкаў. Да прыкладу: штогод у шпіталях ЗША ад няправільнай выдачы лекаў паміраюць 7 000 пацыентаў.

Ізраільская кампанія Given Imaging упершыню спраектавала мінівідэакамеру, якую можна праглынуць у таблетцы. Камера дапамагае ў дыягназе захворванняў страўнікава-кішачнага тракту.

Навукоўцы Ізраіля распрацавалі прыбор, які дазваляе адсочваць сардэчныя скарачэнні праз сістэму датчыкаў і дапамагае сэрцу перакачваць кроў. Гэтае адкрыццё, магчыма, выратуе шмат людзей з сардэчнымі захворваннямі.

Ізраільская кампанія першай спраектавала і пабудавала прамысловую геліястанцыю ў пустыні Махаве (штат Каліфорнія, ЗША).



Лячэбнае купанне ў Мёртвым моры



У Ашкелонскім нацыянальным парку прадстаўлена багатая гісторыя горада на працягу чатырох тысячагоддзяў

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 3 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Выпускныя экзамены па беларускай мове и матэматыцы (з сурдаперакладам) за перыяд навучання і выхавання а II ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Вострасюжэтная меладрама «Кахаць па-руску-2» (Расія).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**16.05** Усё як мае быць!
**16.35** Камедыйны баявік «Містар і місіс Сміт» (ЗША).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.45** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія).
**23.20** Дзень спорту.
**23.35** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Шалапутныя нататкі».
**12.25** «Час абедаць!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**21.55** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.05** «Вячэрні Ургант».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** Міс - Мінск 2013.
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** «Вялікі горад».
**14.35** «Зорны рынг». Новы сезон.
**15.35** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Крыжаваны агонь». Францыя, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сёмае неба» (Украіна).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Меладрама «На ростанях».
**13.00** Фантастыка-прыгодніцкі фільм «Капітан Нэма» (СССР). 1-я - 3-я серыі.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Дэтэктыўная меладрама «Асабістае жыццё афіцыйных людзей» (Расія-Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Маладзевая камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс» (Расія).
**23.35** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія). 1-я серыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі - спорт.
**17.40** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.45** Тэлесерыял «Лекі супраць страху».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.35** «Дзяжурны па краіне».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Патруль».
**22.10** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Выніковая праграма «Разам».
**10.00** М/ф «Мой старэйшы брат».
**11.30** «Агульны інтарэс».
**12.25** «Агульны рынак».
**12.40** «Простая мова».
**12.55** Т/с «Ваш гонар».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Свет Спорту».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце людзей».
**23.35** Т/с «Новыя прыгоды Ніра Вульфа і Арчы Гудвіна».
**01.25** «Зроблена ў СССР».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.55** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**08.25** Дакументальная гадзіна: «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**09.25** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямнічы палёт Рудальфа Гэса».
**10.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Час гонару», серыял: 37 серыя.
**18.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Дзеці ксяндза Шаплевіча», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.05** Хто ёсць кім?: «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**20.25** Два на два (тэледыскусія).
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.25** Фільматэка майстроў: «Паважны чалавек», камедыя, 2009 г., ЗША.
**00.15** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**01.10** Эксперт (сатырычная праграма).

## 4 ЧЭРВЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Выпускныя экзамены па беларускай мове и матэматыцы (з сурдаперакладам) за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія).
**23.35** Дзень спорту.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Шалапутныя нататкі».
**12.25** «Час абедаць!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Працэс».
**23.20** Фільм «Буч Кэсідзі і Сандэнс Кід».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Чыстая праца».
**09.45** «Такі лёс».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Гульні запалу». ЗША, 2010 г.
**15.35** «Дзіўная справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Утаймаванне свавольнага». Італія, 1980 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сёмае неба» (Расія). Заключная серыя.
**10.20** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.10** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія). 1-я серыя.
**11.45** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.40** Дэтэктыўная меладрама «Асабістае жыццё афіцыйных людзей» (Расія-Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**14.45** Маладзевая камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Дэтэктыўная меладрама « Асабістае жыццё афіцыйных людзей» (Расія-Украіна). 3-я і 4-я серыі, заключныя.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Маладзевая камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс-2» (Расія).
**23.30** Дак. серыял «Будзь у тонусе».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**11.45** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Загадка для Веры».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.15** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Бацькі і дзеці».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі - спорт.
**17.40** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.45** Тэлесерыял «Лекі супраць страху».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.35** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Чыстасардэчнае прызнанне.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Патруль».
**22.10** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.20** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** М/ф «А калі гэта каханне?».
**12.25** «Незорнае дзяцінства».
**12.55** Т/с «Ваш гонар».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Саюзнікі».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце сакрэтных ведаў».
**23.35** Т/с «Новыя прыгоды Ніра Вульфа і Арчы Гудвіна».
**01.25** «Усюды жыццё».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Два на два (тэледыскусія).
**08.25** «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**09.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.45** На колах.
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей: 1 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Чырвоная капэла».
**18.55** Праект «Будучыня».
**19.20** «Феадальныя правa Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**20.05** Хто ёсць кім?: «Кастусь Шыдлоўскі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**20.25** Чорным па белым.
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.30** «Доктар Марцін», серыял: 22 серыя.
**23.15** «А калі б так здарылася?», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**23.55** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**00.50** Аб'ектыў.
**01.15** Студыя «Белсат».

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №5 (81) (травень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



**ЮБІЛЕЙ**



Янка Маўр. Кактэбель. Фота з сямейнага архіва

# МАСТАЦКІ КОСМАС ЯНКІ МАЎРА

Эсфір ГУРЭВІЧ

**Янка Маўр (1883–1971), агульнапрызнаны «бацька» беларускай дзіцячай літаратуры, прыйшоў у яе ў другой палове 20-х гадоў ХХ ст.**

Ён працягнуў і замацаваў працэс «суверэнізацыі» дзіцячай літаратуры. Калі старэйшыя беларускія пісьменнікі Я. Колас, Я. Купала, З. Бядуля служылі як бы мастком паміж «дарослай» і дзіцячай літаратурамі, дык з прыходам Я. Маўра апошняя пачала выходзіць на самастойны шлях.



Эсфір Гурэвіч. 2010 г. Кліўленд, ЗША

Іван Міхайлавіч Фёдараў нарадзіўся 10 мая 1883 г. у Лібаве (Латвія). Бацька рана памёр, і разам з маці малы Янка пераехаў на яе радзіму ў вёску Лебянішкі былой Ковенскай губерні. У 1895 г. ён закончыў пачатковую школу, а ў 1899-м — Ковенскае рамеснае вучылішча, пасля чаго паступае ў Панявежскую настаўніцкую семінарыю, адкуль у канцы 1902 г. за вальнадумства, «за сумненні ў рэлігіі», яго выключаюць з апошняга, выпускнога, класа. Здаўшы экстэрнам экзамены за семінарскі курс, ён пачаў працаваць у школе пад Панявежам (Новае Месца), затым быў пераведзены ў вёску Бытча на Барысаўшчыне.

Яркая падзея ў біяграфіі пісьменніка — удзел разам з Якубам Коласам у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, які адбыўся ў вёсцы Мікалаеўшчына ў 1906 г. (Пасля заручынаў сына Я. Коласа і дачкі Я. Маўра пісьменнікі стануць сватамі.)

Выкладчыцкую працу І. Фёдараў пакінуў у 1930 г., аднак у душы ён застаўся настаўнікам. Літаратурная творчасць напачатку і выспявала з патрэбаў педагагічнай працы, з жадання захапіць вучняў прагай ведаў аб бязмежнасці свету і няспыннасці развіцця чалавецтва, а ў хуткім часе стала неадольнай творчай патрэбай, унутранай неабходнасцю, выкліканай загадкай самога феномена дзіцяці, што прыцягвала яго як бацьку, як настаўніка, як чалавека наогул і, нарэшце, як пісьменніка.

У пошуках гэтай разгадкі ён ішоў ад вытокаў — пачынаючы з гісторыі чалавека наогул. У аповесці «Чалавек ідзе» ён зазірнуў у глыбіні стагоддзяў, звярнуўся да жыцця першабытнага чалавека на той стадыі яго развіцця, калі той толькі «станавіўся на ногі».

Услед за «падарожжам» у глыбіню вякоў пачаліся «падарожжы» Я. Маўра па вялікай карце свету: на Вогненную Зямлю і Новую Гвінею, у Інданэзію, Кітай, Цэйлон і чароўны Неапаль. Адна за адной выходзяць аповесці так званага майн-рыдаўскага цыкла: «У краіне райскай птушкі» (1926), «Сын вады» (1927), у якіх аўтар выступае як абаронца правоў каланіяльных і залежных народаў, як паўнамоцны прадстаўнік шматпакутных абарыгенаў Паўночна-Заходняй Афрыкі і наогул усіх прыгнечаных...

Творчасць Я. Маўра не абмяжоўвалася ўдалымі спробамі стварэння прыгодніцкай аповесці. Ён прыступае да ажыццяўлення больш маштабнай задумы: напісання прыгодніцкага рамана «Амок», першага ў беларускай літаратуры. Матэрыялам для рамана паслужылі рэальныя падзеі: рэвалюцыйнае паўстанне на Яве ў 1926 г. Назву «Амок» аўтар, паводле ўласнага прызнання, «дэманстратыўна ўзяў ад нашумелай у тыя гады аповесці Стэфана Цвэйга, які ўклаў у гэтае слова нейкі містычны сэнс». Я. Маўр не падзяляе погляду аўстрыйскага пісьменніка на амок, гэтую страшэнную хваробу яванцаў, як сляпую, стыхійную сілу, загадкавую і невытлумачальную. Для Я. Маўра хвароба бедняка-селяніна Паінга — сацыяльная, вынік гора і роспачы даведзенага да галечы прыгнечанага народа.

Як і ў папярэдніх аповесцях, пісьменнік ідзе ў ажыццяўленні свайго намеру шляхам аналогіі далёкага з блізкім, параўноўваючы экзатычны жывёльны і раслінны свет з флорай і фаўнай свайго роднага краю. Пры такім супастаўленні ў яго вельмі далікатна выяўляецца і патрыятычнае пачуццё, павага да права кожнага народа любіць сваю, самую прыгожую, самую цудоўную, зямлю: «Нашыя людзі кажуць, што ўсе гэтыя штукі (маюцца на ўвазе саўмяніла, дур'ян, мангустан, рамбутан, дуку, дыні, — *Э.Г.*) няварты адной добрай антонаўкі. Мусіць, яванец таксама не аддаў бы свайго дур'яну за ўсе нашы яблыні і грушы».

У 30-я гады Я. Маўр, нібы насыціўшыся «экзатычным», іншаземным матэрыялам, звяртаецца да роднай жыццёвай рэальнасці, у якой дзейнічаюць юныя героі. У гэтым сэнсе досыць паказальная аповесць «Палескія рабінзоны». Выкарыстаўшы матыў рабінзанады, падказаны сусветна вядомым «Рабінзонам Круза» Д. Дэфо, Я. Маўр развенчвае псеўдарамантыку, захапленне экзотыкай далёкіх заморскіх краінаў, якое часта абарочваецца няўвагай да свайго краю, няведаннем яго. Ён паказвае, што і пад небам Беларусі, у далёкіх і блізкіх яе кутках, ёсць свая, не заўважаная яшчэ рамантыка, свая нявыказаная прыгажосць.

Эвалюцыя жанру прыгодніцкай аповесці прасочваецца і ў «ТВТ» (1934), своеасаблівай сярод іншых тагачасных аповесцей, такіх, як «Міколка-паравоз» М. Лынькова, «Патрык-завадатар» Ф. Шынклера, «Жэнька» М. Багуна, «Перамога» А. Якімовіча і інш. Гэта была цікавая спроба сінтэзу рэалістычна-бытавой і прыгодніцкай аповесці. У арыентацыі пісьменніка на самадзейнасць, на ўласную ініцыятыву дзяцей, на выкарыстанне гульні як формы іх дзейнасці і падключэння да жыцця з яго «грубай прозай» «ТВТ» прыкметна пераклікаецца з гайдараўскім «Цімурам і яго камандай». На гэтай падставе рэтраграды, якія не прынялі «ТВТ», папракалі аўтара ў перайманні Гайдара. Аднак аповесць «Цімур і яго каманда» напісана на 6 гадоў пазней за «ТВТ»! Пераклічка твораў сведчыць аб блізкасці шляхоў, якімі ішлі пісьменнікі. Абодва яны, кожны па-свойму, сваімі спецыфічнымі сродкамі маляўнічасці давалі ўрок нестандартнага, нестэрэатыпнага падыходу да самавызначэння і самасцвярджэння юнай асобы. І беларускі аўтар быў тут першы.

Вялікую Айчынную вайну Я. Маўр, апынуўшыся ў Новасібірску, затым у Алма-Аце, перанёс як цяжкое выпрабаванне фізічных і духоўных сілаў, нават як «псіхічную траўму». У 1943 г. пісьменнік пераехаў у Маскву, дзе, моцна захварэўшы, трапіў у бальніцу. Вярнуўся ў Мінск пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі...

Пасляваенны перыяд у творчай біяграфіі пісьменніка адзначаны стварэннем новых жанравых формаў: навукова-фантастычнай і аўтабіяграфічнай аповесцей. «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» (1954) — гэта трэці «заход» аўтара ў асваенні жанру навуковай фантастыкі: подступамі да яго з'явіліся фантастычная казка «Вандраванне па зорках» (1927), а затым — «Аповесць будучых дзён» (1932) — у жанры сацыяльнай утопіі...

Я. Маўр пісаў пра палёт на Марс, калі жыла яшчэ надзея знайсці там разумнае жыццё. Яго героі пабывалі на Месяцы яшчэ да таго, як аўтаматычная міжпланетная станцыя «Луна-2» пакінула свой вымпел на гэтай планеце. Беларускі пісьменнік выступаў як празарліўца, як прадказальнік (услед за Цыялкоўскім) эры касмічных палётаў. Але Янку Маўра цікавіла не столькі навуковая ідэя сама па сабе (хоць ён выкарыстоўвае багаты пазнавальны матэрыял), колькі маральна-этычны і гуманістычны яе аспект, праблема чалавечых узаемаадносінаў, будучых кантактаў пры сустрэчы розных цывілізацый...

## САЮЗ

### БЕРАСЦЕ

**У Берасці пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!» адбылася сустрэча кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў з чытачамі і літаратарамі горада і прэзентацыі кнігі Леаніда Філатава «Жывому — жыць» (выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка» ў бібліятэцы ГА «СБП»).**

Першая сустрэча прайшла ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. Пушкіна ў мемарыяльнай зале імя Уладзіміра Калесніка. У сустрэчы ўдзельнічалі аўтар — Леанід Філатаў, старшыня ГА «СБП» Барыс Пятровіч, першы намеснік старшыні Алесь Пашкевіч, кіраўнік Брэсцкага абласнога аддзялення Іван Мельнічук, паэты Васіль Жуковіч і Усевалад Сцебурака.

Другая сустрэча адбылася ў Берасцейскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Пушкіна. Гасцямі і выступоўцамі вечарыны былі пісьменнікі Іван Мельнічук, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Ярына Дашына, Анатоль і Васіль Дэбішы, Сяргей Грышкевіч, Лявон Валасюк, Сяргей Цыплюк, Мікола Пракаповіч, Алесь Паплаўскі, Мікола Папека і іншыя. Вёў вечарыну паэт Алесь Каско.

### МАГІЛЁЎ

**Адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб зробленым. Было адзначана, што абласныя сродкі масавай інфармацыі сталі больш адлюстроўваць прысутнасць нашай пісьменніцкай суполкі ў культурнай прасторы Магілёўшчыны. Абмяркоўваліся арганізацыйныя пытанні па выпуску літаратурнага альманаха, зацверджана рэдакцыйная калегія на чале з Яраславам Клімуцем. Міхась Булавацкі прапанаваў назву альманаха — «Прыткі».

Мікола Яцкоў праінфармаваў прысутных аб маючым адбыцца ў траўні святкаванні 1150-годдзя славянскай пісьмовасці і культуры і аб запрашэнні абласнога аддзялення СБП да ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні гэтага свята. Таксама паступіла прапанова аб сяброўстве і творчым супрацоўніцтве ад сакратара Курскага абласнога аддзялення Саюза расійскіх пісьменнікаў Алега Саранскіх.

Пасяджэнне ўпрыгожылася выступленнем паэтэсы з Оршы Яўгеніі Казловай. Невялікую творчую справаздачу зрабіў і Мікола Яцкоў, прапанаваўшы слухачам свае вершы, урывак з паэмы і песні на вершы беларускіх паэтаў.

lit-bel.org

### БЕЛАСТОК



**У суботу, 11 траўня, у беластоцкай Галерэі імя Сленьдзіньскіх адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная памяці трагічна загінулага гарадзенскага паэта Юрыя Гуменюка.**

Удзел у ёй прынялі Стэфан Эрыксан, Дзмітрый Плакс, Зміцер Вайцюшкевіч, Валерыя Кустава, Мікола Маркевіч.

Вечарына ладзілася ў межах беларуска-шведскага перакладчыцкага семінара, які прайшоў у Беластоку 10–12 траўня.

«Дні шведскай і беларускай літаратуры ў самой Беларусі сёлета былі адмененыя ў сувязі з вымушаным ад'ездам амбасадара Швецыі Стэфана Эрыксана і часовым спыненнем праектаў амбасады, — распавяла паэтка Валерыя Кустава. — Таму шведска-беларускія дні былі перанесеныя ў гарады краін-суседак, якія з'яўляюцца культурніцка блізкімі беларускай гісторыі: Варшава, Львоў, Вільня, цяпер — Беласток.

Ідэя аддаць вечарынай даніну памяці Юрку Гуменюку, як я разумею, прыйшла пазней. Ён таксама ў свой час удзельнічаў у беларуска-шведскіх днях. І быў напраўду адораным паэтам, Богам пацалаваным. Толькі, на жаль, вельмі нешчаслівым і не да самае рэшты спраўджаным у плане чытацкай і публічнай запатрабаванасці і сяброўскай увагі — а яна яму была больш чым неабходная — асабліва апошнія гады. Зрэшты, гэта класічны лёс таленавітага паэта... Думаю, добра, што мы пра Юрку не забываем...».

Паводле t-styl.info

## ЧЭРВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



04.06.1958 – Алесь Фядосавіч Паплаўскі
09.06.1958 – Алесь Верамеевіч Камоцкі
15.06.1948 – Анатоль Іванавіч Бутэвіч
20.06.1963 – Сяргей Валер'евіч Кавалёў

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

## ПРЭМІЯ

# У ГОНАР ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

**Прэмія імя Францішка Аляхновіча ў галіне турэмнай літаратуры заснавана Беларускім ПЭН-цэнтрам і «Радыё Свабода».**

Пра гэта на прэзентацыі кнігі «Турма і здароўе» прафесара Юрыя Бандажэўскага паведамілі старшыня ПЭН-цэнтра, паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч.

Кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі нагадаў, што пасля падзей, якія адбыліся за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі ў снежні 2010 года, пачала з'яўляцца значная колькасць беларускай турэмнай літаратуры. У прыватнасці, лідар кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў апублікаваў кнігу напісаных у зняволенні вершаў «Лісты да Волі» і паэму «Турма». Палітык Аляксандр Фядута, які ўтрымліваўся ў следчым ізалятары КДБ — «амерыканцы», выпусціў кнігу лірыкі з сімвалічнай назвай «Амерыканскія вершы». Убачыла свет таксама кніга «Асвечаныя беларушчынай» асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, у якую ўвайшлі матэрыялы з элементамі крытыкі на турэмную ж літаратуру.

«У сувязі з гэтым мы з калегамі ацанілі прапанову Аляксандра Лукашука (дырэктар беларускай службы «Радыё Свабода». — БелаПАН), і пасля нарады было вырашана заснаваць новую літаратурную ўзнагароду. Узнагароду для пісьменнікаў-прафесіяналаў, якія чамусьці непазбежна трапляюць у турмы і пішуць там. Для тых людзей, якія толькі ў турме становяцца літаратарамі дзякуючы самім акалічнасцям», — адзначыў А. Хадановіч.

Паводле яго слоў, прэмія будзе ўручацца «за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні». Тэматыка работ, якія прэтэндуюць на прэмію, не абмежавана. Самі творы могуць быць дакументальнымі або мастацкімі, на расійскай або беларускай мовах, рукапісныя або ўжо апублікаваныя. Адзінае патрабаванне — яны павінны быць напісаны ў зняволенні і дасланы на працягу года.

Тэксты на конкурс прымаюцца да 1 снежня 2013 года. Журы вызначыць пераможцу і абвесціць яго імя 10 снежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека. Пераможца будзе ўзнагароджаны прэміяй, а яго твор прагучыць у эфіры «Радыё Свабода» і будзе апублікаваны на сайце радыё.

«Арганізатары плануюць уручаць прэмію імя Францішка Аляхновіча да таго часу, пакуль сітуацыя ў краіне будзе даваць для гэтага падставу. Мы спадзяемся, што гэтая прэмія як мага хутчэй страціць актуальнасць», — заключыў А. Хадановіч.

Захар Шчарбакоў, БелаПАН

## ПАЛІЦА

### ПЯТЫ «ПАНЯДЗЕЛАК»

**Выйшаў пяты выпуск літаратурнага альманаха «Панядзелак» пад рэдакцыяй Алеся Масарэнкі. У шасцісотстаронкавы зборнік увайшлі вершы, апавяданні, урыўкі вялікай прозы, літаратуразнаўчыя эсэ на беларускай і рускай мовах.**

Сярод 34 беларускіх аўтараў, якія патрапілі на старонкі выдання, ёсць як пачаткоўцы, так і вядомыя творцы: паэты Таццяна Мацюхіна, Таццяна Барысюк, Віктар Шніп, Валерый Максімовіч, празаікі Юры Мельнікаў, Адам Выгодскі. Змешчаны ў «Панядзелку» артыкул Таццяны Шамякінай да юбілею Алеся Герасімавіча Масарэнкі.

У «Вянку памяці» можна прачытаць выбраныя вершы гарадзенскага паэта Юрыя Гуменюка, які трагічна загінуў 19 студзеня 2013 года. У пасламове да публікацыі пісьменнік і краязнаўца Лявон Вашко адзначае: «Паэт прыйшоў у беларускую літаратуру на сутыку дзвюх эпохаў, калі занепадала савецкая традыцыя і ў дзэарыентаванасці, спрэчках, пошуках нараджаліся ідэйныя каштоўнасці будучыні <…> Ягоныя ўчынкі ў літаратуры вызначаліся прыстойнасцю, адданасцю ідэям свабоды і нонканфармізму. Ён ніколі не слугаваў і не выслужваўся, не прыстасоўваўся і не рабіў кар'еры».

### ШТО ВАРТА РАДАСЦІ?

**Галіна Каржанеўская. Што варта радасці і слёз...: біяграфія ў вершах і нарысах. — Мінск: «Кнігазбор», 2013. — 100 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 34).**




Калі пры ўзгадцы слова «біяграфія» вы ўяўляеце сабе сухі і строгі пералік датаў і падзей, то вашыя папярэднія ўяўленні даволі істотна пацерпяць, як толькі вы возьмеце ў рукі кнігу Галіны Каржанеўскай «Што варта радасці і слёз».

«Кніга спадарыні Каржанеўскай сталася не проста фіксацыяй рэальных падзеяў з асабістага жыцця і лёсу сямейнікаў ды землякоў, але і іх праекцыяй ва ўнутраным свеце чалавека і творцы, — адзначыў крытык Усевалад Сцебурака. — Асаблівасцю кнігі з'яўляецца выкарыстанне розных літаратурных жанраў: паэзіі і прозы, якія дапаўняюць адзін аднаго і надаюць тэксту адпаведныя аўтарскай задуме адценні ды лірычную (ці, наадварот, рэалістычнагістарычную) афарбоўку. Па задуме аўтара ў кнізе структурна выдзеленыя дзве часткі. Асобна адлюстраваныя два перыяды жыцця: ранні, звязаны са Случчынай, і пазнейшы — злучаны з Лагойшчынай, дзе спадарыня Каржанеўская жыла ў весцы Янушкавічы і настаўнічала ў мястэчку Плешчаніцы».

Прэс-служба СБП

### ЛАТЫШСКІЯ САЛАЎІ

**Кніга выбраных перакладаў латышскага паэта Улдыса Бэрзыньша «Салаўі крычаць, я па-латышску…» выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор». Па-беларуску вершы перастварылі Андрэй Гуцаў і Алесь Разанаў.**



Улдыс Бэрзыньш (Uldis Bērziņš) — латышскі паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў Рызе. Аўтар дзясятка паэтычных зборнікаў. Перакладае з польскай, расійскай, старажытнаісландскай, турэцкай, азербайджанскай, туркменскай, персідскай, старажытнагабрэйскай, арабскай моваў, таксама ведае іўрыт, татарскую, чувашскую. На латышскую мову пераклаў некаторыя кнігі Бібліі, у 2009 годзе скончыў пятнаццацігадовую працу па перакладзе Карана.

ПрайдзіСвет

ГУТАРКА

# «ХТО СЦЯБАЕЦЦА Ў ЛІТАРАТУРЫ — НЕ СТВАРАЛЬНІК»,

## АБО «РАЗБІТАЕ СЭРЦА...» СЯРГЕЯ ВЕРАЦІЛЫ

**Першая празаічная кніга Сяргея Верацілы «Разбітае сэрца Вітаўта» выйшла ў «падлеткавай» серыі «Маладзік» ( Мінск, «Мастацкая літаратура», 2013). Яе тэксты здзіўляюць глыбокім псіхалагічным аналізам нават больш пераборлівых і сталых чытачоў. Жанрава кніга складаецца з мініяцюр, казак, легенды і апавяданняў, тэматычна — гэта вялікая суцэльная паэма кахання.**

**«Нам дазволена дакрануцца да прыгажосці. Але нам ніхто і не абяцаў, што гэта не будзе балюча», — рэзюмуе галоўны герой апавядання Сяргея Верацілы «Залаты пясок». Сапраўды, паглыбляючыся ў чытво, адчуваеш, як робіцца часам шчымліва-балюча. Але хай пра кнігу распавядзе сам аўтар…**

***— Спадар Сяргей! Апошнім часам сярод тутэйшых пісьменнікаў пашыраецца тэндэнцыя выдаваць свае першыя кнігі ў даволі сталым узросце. Вось і ты, адгуляўшы паўвекавы юбілей, спарадзіў сваё «літаратурнае дзіцятка». Не запозна?***

— Яшчэ ў часы «Тутэйшых» многія сябры гэтага культавага аб'яднання кінуліся-рынуліся выдаваць свае першыя кніжкі. Я ж не стаў гэтага рабіць, можа, дурны быў, можа, пабойваўся, што мая кніга будзе толькі адной з многіх. Станавіцца ў шэрагі разам з іншымі я не хацеў. А потым



Фота С. Сыса

жыццё склалася неяк так, што зрабілася не да кнігавыдавання, дзяржава перастала клапаціцца пра пісьменнікаў і ашчаджаць сродкі на мастацкую літаратуру на беларускай мове. А ў прыватнікаў выдавацца — дык трэба мець свае грошы, альбо шукаць спонсара. І вось жа выдавецтва «Мастацкая літаратура» прапанавала ў дзіцячай серыі *(смяецца)* выдаць мае апавяданні. Атрымалася такім чынам, што паэт дэбютуе кнігай прозы. Але гэта не бяда. Максім Багдановіч дэбютаваў таксама апавяданнем. Ягоная першая публікацыя была менавіта празаічнаю... Я скарыстаўся прапанаванай магчымасцю, тым больш, што цудоўны мастак Валодзя Лукашык зрабіў вельмі густоўнае, фацэтнае афармленне: унутраны тэкст кнігі «супаў» з ягоным мастацкім поглядам на кніжнае аздабленне. Праўда, з назвы маёй смяюцца многія людзі, каторыя…

***— А што за назва?***

— «Разбітае сэрца Вітаўта». І смяюцца, відаць, параўноўваючы такую назву з модным гуртом «Разбітае сэрца пацана». А я і не адмаўляю.

***— Сам жа ты што хацеў гэтай назвай падкрэсліць, які сэнс закласці ў яе?***

— Назву гэтай кнігі дало адно з апавяданняў, змешчаных у кнізе, і поўная, першапачатковая, назва яго гучала: «Разбітае сэрца Вітаўта Чаропкі». Некалі апавяданне друкавалася ў «ЛіМе», калі там яшчэ працаваў рэдактарам нябожчык Алесь Пісьмянкоў. Тады ён проста з вялікай сціпласці сваёй, каб не крыўдзіць Чаропку, зняў з загалоўка ягонае прозвішча. Аднак назва ў выніку атрымалася проста манументальная, з прыхаваным глыбінным сэнсам.

***— Давай паспрабуем зазірнуць у глыбіні таго сэнсу. Пра што гэтая кніга?***

— Дык пра любоў жа… «Разбітае сэрца пацана»… Што тут незразумелага? У гэтай кнізе пацану гэтаму і сем гадоў, і чатырнаццаць, і дваццаць пяць, а часам і за сорак. Але ён усё роўна, колькі б яму ні было, застаецца пацаном. Увогуле, пісаць варта толькі пра любоў, любоў да радзімы, любоў да зямлі, любоў да жанчыны. Толькі любоў вартая мастацкага апісання і толькі яна рухае намі, прымушае нас ствараць. А калі мы пішам не пра любоў, значыць, мы не пішам увогуле. Той, хто сцябаецца ў літаратуры (любіць сцёб) — ён не стваральнік.

***— У кнігу ўвайшлі апавяданні, мініяцюры, карацелькі, якія друкаваліся раней, а ці ёсць нешта, як кажуць, «навенькае»?***

— Няма такога. Гэтыя рэчы розных даўніх гадоў. Я нават не ўсё ўключыў, што было мною надрукавана раней. Паколькі серыя, у якой выйшла «Разбітае сэрца..», лічыцца падлеткавай, для пераходнага ўзросту, стараўся падабраць такія тэксты, якія найперш не будуць «рэзаць слых» бацькам, калі яны ўбачаць кнігу ў руках сваіх дзяцей.

***— Які перыяд твайго жыцця па часе ахопліваюць творы, уключаныя ў кнігу?***

— Так, дай памяці… Прозу я пачаў пісаць яшчэ ў 90-тыя гады і пішу, дарэчы, цяпер. Значыць, ад пачатку дзевяностых да дзвюхтысячных… Дакладна…

***— Усё-ткі творчыя беларусы цябе ведаюць найбольш як харызматычнага, у нечым нават дэманічнага паэта. Твае нячастыя выступы на публіцы заўжды зрываюць апладысменты сярод слухачоў, выклікаюць пагалоску ў творчым коле. Прозу выдадзеную ты сёння нарэшце маеш, а куды дзелася паэзія?***

— Ага, чакаў наконт паэзіі… Па-першае, дзяржаўныя выдавецтвы не надта імкнуцца выдаваць яе, не маюць на гэта грошай. Адваротныя выпадкі — вельмі рэдкая з'ява. Наконт прыватных — я казаў вышэй… спонсараў шукаць трэба, а я ўжо стары чалавек, мне значна лягчэй знайсці чарку, чым капейчыну на кніжку. Нядаўна вось адзін вядомы выдавец у чарговы раз прапанаваў надрукаваць мае вершы. Гэтая прапанова мне ўяўляецца нейкім дзействам, кшталту «застарэлага сватаўства»… Ды можа калі й выйдзе, такое ў нас зрэдку здараецца.

***— Што асабіста табе цяжэй даецца: апавяданне выпісаць ці верш стварыць?***

— Зразумела, верш… Мы, беларусы, усё яшчэ ў адрозненне ад гэтак званых заходнееўрапейцаў, вершы пішам у рыфму. Прынамсі, большасць з паэтаў. Мы яшчэ рыфмуем думкі: пачуцці, жарсць, боль; стараемся ўкласці як мага болей у як мага меншы аб'ём. У прозе ж дапушчальна «расцякашся мысліў па дрэву», неяк так у «Слове пра паход Ігараў» напісана. Дарэчы, кажуць, у Латвіі цяпер не знойдзеш перакладчыка, які можа перастварыць рыфмаваную беларускую паэзію. Ты і сам неяк казаў, што ў Летуве яшчэ адзін нейкі перакладчык-рыфмар застаўся…

***— Раніцай 25 верасня 2011 года ты канчаткова з'ехаў з пісьменніцкіх лецішчаў на Лысай Гары, мясцінаў, дзе добра пісалася, у накірунку сваёй малой радзімы — Ваўкавыску. Як там з творчасцю, над чым цяпер працуеш?***

— Нічога кардынальна не змянілася. Заканчваю габляваць пераклады індзейскіх легендаў, пераважна эквадорскіх, паколькі пэўны час жыў у гэтай краіне. Таксама завяршаю аповесць, якая пакуль што не мае назвы. Але жыве яна пад умоўнай назвай «Калядная гісторыя». Гэта меладраматычны твор, у якім я паспрабаваў паэксперыментаваць, не даўшы ніводнага дыялогу, ніводнай рэплікі, ці думкі ад лірычнага героя. Спрэс ідзе аўтарскі тэкст, але не пра мяне, а пра іншага чалавека, які сапраўды абсалютна не мае да мяне аніякага дачынення. Там, у аповесці, мяне няма. Гэта не я.

***— Паслухай, вось жа некаторыя пісьменнікі сцвярджаюць, што выхад новай кнігі — гэта скідванне з плеч даўно намулеўшага грузу і магчымасць вольна крочыць далей. Ці адчуваеш такую палёгку?***

— Не! Не. Не. Для мяне гэта хутчэй прыступка да наступнай кнігі. Сапраўды, пэўную чарку бадзёрасці я атрымаў. Я ўсцешаны і гэтай кнігай, і тым, што мае сябры парадаваліся разам са мною. Бачыў шчырую радасць у іх вачах, і вось гэта — галоўная крыніца бадзёрасці для мяне, адчуванне ў сабе сілы сядаць і ствараць далей.

**Гутарыў Сяржук Сыс**

ЗНАК

# ХТО ПЕРАКЛАЎ ПРАЛЕТАРСКУЮ ПЕСНЮ?

**Працуючы над зборнікам «Беларуская Сацыялістычная Грамада: дакументы і матэрыялы», у знакамітай кнізе «Белорусское движение» (1921) былога сябра партыі, прафесара Фёдара Турука я натрапіў на інфармацыю, што ў 1905 годзе БСГ выпусціла ўлётку з песняй «Чырвоны Знак».**

Доўга шукаць тую праклямацыю не давялося. Адзін яе асобнік захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. На ўлётцы, надрукаванай лацінкаю, пазначана: Wyd. W. K. L. S. D. P. Гэта значыць, што яе надрукавалі ў падпольнай друкарні Віленскага камітэта Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

Вось пачатак песні:

*Кроў нашу льюць даўно*
*ўжо каты,*
*Лье горкі слёзы кожны з нас,*
*Надыдзе хутка дзень заплаты,*
*Паны, судзіць мы будзем вас!*
*Паны, судзіць мы будзем вас!*

«Чырвоны Знак» — гэта пераклад на беларускую мову польскае песні «Czerwony Sztandar» («Krew naszą długo leją katy»). У 1881 годзе яе словы напісаў жыхар Львова, польскі пісьменнік і дзеяч рабочага руху Баляслаў Чарвенскі (Czerwieński). Узорам для яго паслужыла знакамітая «Le drapeau rouge» («Чырвоны Сцяг»), якую ў 1871-м спявалі парыжскія камунары.

У 1882 годзе тэкст будучай песні быў упершыню апублікаваны ў зборніку паэтычных твораў Б. Чарвенскага «Czegóż chcą» («Чаго ж яны хочуць»). Калі да гэтага тэксту Ян Казакевіч напісаў музыку, песня адразу ж, з 1883-га, стала гімнам польскага рабочага класа, а потым і Польскай сацыялістычнай партыі. Гэты гімн спявалі і падчас работніцкіх маніфестацыяў ды страйкаў, і — перад выкананнем прысуду — асуджаныя на смерць рэвалюцыянеры. Знакаміты праў дзеяч Станіслаў Мацкевіч (Цат) у сваёй працы «Ключ да Пілсудскага» (1944) паведамляе, што ў верасні 1939 года, калі ганебна ўцёк маршал Эдвард Рыдз-Смiглы, варшаўскія рабочыя, спяваючы «Czerwony Sztandar», самі сталі на абарону польскай сталіцы ад гітлераўцаў.

Як інфармуе «Вікіпедыя», песню «Czerwony Sztandar», якую можна паслухаць у інтэрнэце, пераклалі на 12 моваў. Адмыслова паведамляецца, што перакладчыкам яе на расійскую быў паплечнік Леніна, знакаміты расійскі сацыял-дэмакрат, аўтар перакладу яшчэ больш знакамітай «Варшавянкі» («Вихри враждебные веют над нами...») Глеб Кржыжаноўскі.

Не ведаю, ці ўлічана сярод тых дванаццаці моваў і наша. Ды на гэты раз мне больш важна даведацца, хто ж пераклаў «Czerwony Sztandar» на беларускую.

Выдадзены ўлёткаю тэкст «Чырвоны Знак» можна лічыць калі не першым, дык адным з першых паэтычных літаратурных перакладаў на беларускую мову ў XX стагоддзі. Аўтар перакладу, наколькі мне вядома, нідзе не названы. Аглядаючы тагачасны літаратурны краявід Беларусі, я лічу, што за гэтую справу маглі ўзяцца два паэты і сацыялісты: Карусь Каганец і Цётка. Аб той пары больш не было каму. Выбіраючы ж паміж гэтымі двума патэнцыйнымі аўтарамі перакладу, я больш схільны думаць, што ён належыць Цётцы — Алаізе Пашкевіч. Мажліва, да гэтае думкі мяне схіляе і той факт, што перакладчыцай песні на нямецкую мову была Роза Люксембург.

Роза Люксембург і Цётка, Цётка і Роза Люксембург. Дзве сацыялісткі. Ёсць спакуса паставіць іх побач.

Спадзяюся, што з часам усе кропкі над «і» будуць расстаўленыя. Пакуль жа мая гіпотэза такая.

**Анатоль Сідарэвіч**

АБРЫС

# «ДУХАСВЕТЛЫЯ» ВОБРАЗЫ АЛЕНЫ АНІШЭЎСКАЙ

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**Наведала Беласточчыну з добрай нагоды: святкавалі 20-годдзе кафедры беларускай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта. Даведалася пра яшчэ адну смутную падзею ў «Белавежы»: 19 студзеня не стала Алены Анішэўскай. Калі водгукі пра іншыя страты дайшлі да Беларусі, хай і вельмі сціпла, то пра Алену Анішэўскую не было ні адной згадкі. Як жа далёка мы ад нашых пісьменнікаў, што, жывучы ў Польшчы, заставаліся беларускімі патрыётамі, а ў творах сваіх захавалі беларускасць, якая знікае…**


Алена Анішэўская




Творчы даробак у літаратуры «белавежцаў» пісьменніцы Алены Анішэўскай мне асабіста нагадвае творчасць іншай шчырай беларускі, жыццёвы шлях якой таксама звязаны з Беласточчынай, — Людвікі Антонаўны Сівіцкай, больш вядомай пад псеўданімам Зоська Верас. Набытак гэты не надта вялікі (выдадзены дзве кнігі: «Смак жыцця» (1998), куды, як адзначала даследчыца творчасці «белавежцаў» Галіна Тычка, «поруч з вершамі ўвайшлі і невялікія празаічныя замалёўкі пра асаблівасці побыту, маральных норм і звычаяў усё тых жа прадстаўнікой беларускай «сялянскай Атлантыды». Наступнай стала кніга «Шчадруха» (2009), назву якой дало аднайменнае апавяданне. Змест кнігі, зрэшты, як і папярэдняй, адметны той надзвычайнай светласцю, шчырасцю, шчодрасцю душы і герояў прозы, і лірычнай гераіні, і самой аўтаркі, якімі пазначана літаральна ўсё, што выйшла з-пад пяра пісьменніцы.

Творы разнастайныя па жанрах: лірычныя вершы, апавяданні, мастацка-дакументальная проза. Дакладна вызначыла сэнс апошняй па часе кнігі Алены Анішэўскай пісьменніца Міра Лукша: «Новая кніжка… гэта хутчэй помнік яе родным Падалянам і падалянцам… У зборнік, які спачатку меў называцца «Магічнае слова», мела ўвайсці аднайменнае апавяданне. Бо піша яна пра тое, што было. Без выдумкі. Праўду. Чуецца знакамітасць пяра сталай аўтаркі». Шчадруха — гэта зімовае свята, калі дзяўчаты гадалі, а мясцовыя зухі чынілі не заўсёды бяскрыўдныя жарты-здзекі са сваіх аднавяскоўцаў. Але мне бачыцца ў гэтай назве і характарыстыка таго, ужо даўняга, багатага духоўнасцю свету жыцця беларускай вёскі, яе людзей, і аўтаркі-апавядальніцы, якая прапускае праз сваё сэрца ўсе гэтыя малюнкі. Яна, як і яе героі, і ёсць шчадрухай, шчодраю на святло душы, якім шчыра дзеліцца з чытачамі.

Вершы Алены Анішэўскай — гэта лірычны роздум пра свет і чалавека ў ім. Асаблівая ўвага надаецца паэтычным пейзажам, калі жыццё прыроды навявае роздум пра вечнае, нязменнае і адначасна хуткаплыннае, дае надзею ўсяму жывому на спаўненне жаданага, на сваю долю цяпла і святла:

*Аднак жа ўсё мінае на зямлі,*
*і кожнай з'яве*
*час назначыў хтосьці.*
*Няхай жа не сумуе*
*мокры шпак —*
*і да яго загляне*
*сонца ў госці.*

Асаблівай пяшчотай і любоўю лірычнай гераіні «надзелена» вясна, час зялёнага росквіту, які ўспрымаецца лірычнай гераіняй як прыход святла і любові. У вершах «Прадвесне'96», «Люблю да болю», «Пасля дажджу» выказаны матыў захаплення прыродняю красою, падараванаю людзям звыш, што выклікае жаданне раздзяліць радасць ад усведамлення далучанасці да гэтага дасканалага свету харства з кімсьці блізкім…

Часам вершы нагадваюць імпрэсіяністычныя абразкі: «І хто ж гэтак нізка павесіў…», «Бяссонне», дзе «схопленыя» ўражанні ад убачанага, праведзенага праз паэтычнае ўспрыняцце, калі месяц падаецца «даспелым такім памідорам», калі надзвычайна абвастраецца слых: чутна, як падаюць у садзе грушы, як шэпчуцца лісці таполі.

Паэтка ўзгадавана ў вясковай народна-песеннай традыцыі. Гэта знайшло адлюстраванне ў многіх творах. І ў паэзіі таксама. Як, да прыкладу, у вершы «Вяснянка», дзе скарыстаны матыў народнай песні, што гучала з вуснаў бабулі і з дзяцінства засталася ў памяці:

*«Кросны даткала,*
*хату пабяліла,*
*вясну прыгукала,*
*па хвораст схадзіла».*
*Так калісь спявала*
*песню-вяснянку*
*мая бабулька*
*— нібы калыханку.*

Між паэтычных твораў асабліва вылучаецца «Асенні трыпціх». Гэта своеасаблівы паэтычны «партрэт» трох восеньскіх месяцаў, дзе выразна вылучаецца лірычны сюжэт, рух пачуцця лірычнай гераіні. У зачынным вершы малюецца толькі ранняе прадвесце пары памірання. Таму ў першай частцы гучыць яшчэ зусім не смутны ўспамін пра лета, што прыйшоў з апошнім верасьнёвым цяплом: «Успомнілася промнем // Верасьнёвага сонца //І бабіна лета // Запляло ваконца».

У наступным вершы ўжо выразна вылучаюцца кастрычніцкія водары, фарбы, якія і навяваюць восеньскі сум:

*Як сумна мне, што гэтак мала*
*Узяла я ад вясны і лета,*
*Што мне было падаравана,*
*Мінула песняю прапетай.*

Матыў жыццёвых стратаў, немажлівасці вярнуць мінулае — адзін з асноўных у паэзіі Алены Анішэўскай, завяршае трыпціх. Смутнае развітанне прыроды з сонцам і святлом, калі запанаваў самы змрочны ў цэлым годзе месяц лістапад, ураўнаважваецца згадкай пра заўсёднае вяртанне вясны:

*Пакуль апошні ліст з бярозы*
*Сарве пануры лістапад,*
*Няхай не муцяць вачэй слёзы,*
*Вясна шчэ вернецца назад.*

Але незваротнасць чалавечай дарогі не можа не выклікаць зразумелую трывогу, смутак, калі наперадзе чакае толькі адзіны шлях — у жыццёвы лістапад:

*То нам з табою не вярнуцца*
*У май жыцця і белы сад,*
*Ідзем паспешна і трывожна*
*У наш жыццёвы лістапад.*

У кнізе «Шчадруха» даволі шырока прадстаўлена проза Алены Анішэўскай. У асноўным гэта апавяданні, успаміны, згадкі пра перажытае.

«Духасветлыя» — гэты нават твор беларускага паэта Яна Чыквіна як нельга больш дакладна вытлумачвае галоўнае ў характары асобы пісьменніцы і вобразаў, створаных ёю ў апавяданнях, што нагадваюць часам лірычныя замалёўкі, дзе галоўнае — светлае пачуццё, народжанае ўбачаным.

Літаральна кожнае апавяданне пазначана ці то адметным водарам, ці то гукам, а часам чымсьці няўлоўным, што надае аповеду імпрэсіяністычныя рысы. Гэтая душэўная адчувальнасць узмацняецца то яркім вясновым росквітам, як у апавяданні «Вясна», то ўрываецца ў чалавечую душу летняе ўраджайна-пахкае паветра, калі наваколле поўніцца салаўінымі спевамі, як у апавяданні «Цыган і салаўі»…

Героі твораў Алены Анішэўскай добрыя, працавітыя, сумленныя і шчырыя. Не, гэта не ідэалізацыя роднага, даўняга, што незваротна адышло. Гэта жаданне перадаць тую радасць, святло, якія адчуты ёю калісьці, расказаць, каб засталося і ў нечых душах такое ж светлае пачуццё.

У апавяданні «Смак жыцця» перададзена адчуванне поўніцы чалавечага шчасця, складнікамі якога з'яўляюцца, на першы погляд, зусім простыя рэчы, якія, аднак, робяць людзей самадастаткавымі, прыцягальнымі для іншых, хто ўмее цаніць дабро. Гераіня, якая ў дарозе апынулася суседкай сталай па́ры, адчувае, як ад гэтых людзей «праменіла нейкая радасць». Бо хіба можа быць інакш, калі жыццё ўдалося? Шлях гераіні, як і шлях цягніка, скіраваны далей. Магчыма, яна ніколі больш не спаткае тых людзей, але святло іх воблікаў застанецца ў душы назаўжды. Гераіня робіць слушную выснову: «Мне падумалася: яны ведаюць смак жыцця. Чорнае ад белага адрозніць лёгка. Мо маюць рэцэпт на шчасце? Цягнік мой адыходзіў у пушчу, з якой павеяла лёгкім халадком і прадчуваннем восені».

Цікавая старонка прозы Алены Анішэўскай — мастацка-дакументальныя творы. Гэта аповесць «У ваенным Беластоку», нарыс пра Масея Сяднёва «Трымаючы ў руках паходню», аповед з мінулага «Праклён» і інш.

Мастацка-дакументальная аповесць «У ваенным Беластоку» мае выразны аўтабіяграфічны змест. Гэта гісторыя перажытага юнай дзяўчынкай у няпростыя часы нямецкай акупацыі. Назва твора не зусім дакладная, бо падзеі выходзяць за рамкі беластоцкага перыяду жыцця асірацелай без бацькі сялянскай сям'і з Белавежы. Аўтарка здолела спалучыць асабістае, што лірычным струменем уплятаецца ў сюжэтную канву твора, з агульналюдскім, адлюстраваць шырыню, маштабнасць народнай бяды…

З вядомых асобаў беларускага руху часоў вайны паўтаюць вобразы паэтаў Хведара Ільяшэвіча і Масея Сяднёва, якога пісьменніца асабліва шанавала. Хоць у тыя ваенныя часы яна, яшчэ зусім юная дзяўчынка, не мела мажлівасці для бліжэйшых стасункаў з вядомым паэтам, былым вязнем сталінскіх турмаў. Захаплялася ягонымі вершамі, якія вырэзвала з «Новай дарогі», ведала іх на памяць. Незвычайнае перапляценне лёсаў гэтых людзей, гісторыя іх шчырага сяброўства, што паўстала праз вялікую адлегласць і ў часе, і ў прасторы (амаль праз сорак гадоў, яна ў Польшчы, ён у ЗША) легла ў аснову нарыса «Трымаючы ў руках паходню», назву якому даў радок з верша Масея Сяднёва. Пісьменніца выкарыстала фрагменты лістоў паэта, якія сведчаць пра светлую прыхільнасць іх аўтара да далёкай адрасаткі: «Ня ведаў я, што ёсьць на сьвеце душа, што захавала памяць аба мне — такая прыгожая душа! У мае цяжкія часіны гэтая душа была-б для мяне вялікай падтрымкай, надзеяй, нават нечым больш — выратаваньнем. У цяжкія часіны мне такой душы не хапала, і я ствараў яе, жыў уяўным вобразам нечага прыгожага. Чаму я кажу «нечага прыгожага»? Канкрэтна-ж, гэтым вобразам была — ну як-жа інакш? — жанчына, якой у сапраўднасьці не было і ў пошуках якой я знаходзіўся. Яна была крыніцай майго натхненьня і смутку». Часта ішла гаворка ў лістах пра магчымую сустрэчу, але яна так і не адбылася…

Адметная рыса фіналу мастацка-дакументальных твораў пісьменніцы — лірычна-філасофскі роздум пра жыццёвы рух, пра змены, што адбываюцца навокал. Адкрыты сюжэт, развіццё якога, аднак жа, прадвызначана прадбачаннем, на жаль, не лепшага, смутак, што ўсё не проста заканчваецца, а заканчваецца незваротнымі стратамі. Да прыкладу, фінал аповесці «У ваенным Беластоку»: «Так прамінае ўсенька на нашай гаротнай зямлі! На месца старога прыходзіць нешта новае, але ці тое новае лепшае?».

Пра тое, што талент пісьменніцы рознабаковы, калі поруч з лірычнымі творамі здольныя паўстаць і творы гумарыстычнага гучання, сведчыць паэма «Наш Парнас», напісаная да 30-годдзя «Белавежы». Аўтарка ў парадыйнай манеры намалявала партрэты вядомых «белавежцаў». Усе яны пазнавальныя, гумар паэткі светлы, добразычлівы. У фінале выказана вера, што «Белавежа » будзе жыць:

*І так прайшло гадоў нямала.*
*На «Ніве» ўсё штосьць даспявала,*
*калі быў ураджай, калі засуха…*
*Але не варта падаць духам:*
*мінулае ацэньваць можна*
*так і сяк.*
*Мы не загінем шчэ,*
*я бачу, падрастае маладняк.*

Алена Анішэўская была пісьменніцай, безумоўна, цікавай, таленавітай. Яе творчасць — адметная старонка беларускай «Белавежы», якой у гэтым годзе спаўняецца 55 гадоў.

ВЕРШЫ

# ПРАМЕТЭЕЎ АГОНЬ

Алесь КАСКО

## На пачатку

*Яшчэ над першым словам біцца:
і потам грунт яго крапіць,
і корань вынатужваць, быццам
пад ім прамаці ўсіх крыніц —
радкоў глыбокіх, свежых, важкіх,
што ад чакання знемаглі,
каб выплыніць табе на аркуш
і золата, і соль зямлі.
А ты ўжо мроіш: скарб крыніцы,
як чалавецтву дар, не менш,
нямотным душам па крупінцы
рукою шчодрай раздаеш, —
і вось ты стаў для іх месіяй,
прарокам стаў… Але чаму
ў праклятым слове столькі сілы,
што сам падатлівы яму?
Што слодыч славы ёсць абуза,
ты чуў, здагадваўся, — аднак
забыў ты скінуць друз ілюзій
са слова, цяжкага і так.*

## Праметэеў агонь

*Праметэй выкраў з неба агонь
для дрывасекаў — духам поўніць хаціны,
для ганчароў — ажыўляць мёртвую
гліну,
для першапраходцаў — шлях у цемры
знаходзіць…
Сляпою надзеяй гарэў той агонь!
Яго скарысталі зусім неўзабаве
заваёўнікі —
нішчыць паселішчы і пасевы,
цемрашалы —
скакаць каля вогнішчаў з кніг,
дыктатары —
любавацца крывавымі феерверкамі…
Што ж, агонь Праметэеў належаў усім!
І трапіў нарэшце ён да паэтаў,
каб не раз апяклі свае сэрцы тугою
і размежавалі ў пакутлівым азарэнні
дабро і ліха агню.*

* * *

*Жыву. І кожная хвіліна —
што нітка ўкруг верацяна.
Не Арыядны… Каляіна
ў мяне адна цяпер, адна.*

*Яна шарготкая штодзённа:
шануе шоргат лістапад,
з якім ні душна, ні сцюдзёна,
шлях у прыроду ці назад.*

*Дамоў вярнуся — тары-бары
ўключаю пад глыток віна,
гляджу ў акно — на маскі-твары,
на рух таго ж верацяна.*

*І не ўяўлю сябе ў натоўпе,
каб зліцца з ім тугой адной;
больш давяраю рыфмам, стопам,
што зрэдку гутараць са мной.*

*Што ж мучыць?.. Позна пашкадую
і, можа, нітку абарву
не з-за таго, што шмат жыву я,
а што ўсё роўна, як жыву.*

## Янка Купала. Пецярбург, 1913

*«Одинок, да незадача:
еле тронут алкоголь…».
Кпіць шынок. Піўцы не бачаць
спадарожніцы яго.*

*«Видно, горд, и наша кварта
встала будто в горле кость».
Прысуседжваца няварта,
гэта праўда, ягамосць.*

*«Не богач, да и не мот он,
отчего же нелюдим?»
Сам? Няхай. Ды не самотны:
долю муза дзеліць з ім.*

*«Из поэтов он? Да что вы:
просто ходит в чудаках».
Ён са шляхты, вастрасловы,
хоць з жалейкаю ў руках.*

*«Из глуши к нам — подучиться?..»
Што ж, навуку, мусібыць,
дасць імперская сталіца,
як і што пісаць і піць…*

*«Что ж он пишет, гость любезный:
не про истину ль в вине?»
Не для вас складае песні,
не для вас, паны, о не!*

*«Эй, певичка, голос тонок,
подойди к нему, не трусь».
Сёння не да незнаёмак,
сум яго пра Беларусь.*

*«За тоску плесни на донце.
И за край, каков он?..» Той,
што не пойдзе без чырвонцаў
за прарокам грамадой…*

*… Ноч. Чыгунная калейка.
Аддаляецца шынок.
Заўтра Вільня, Менск… З жалейкай
ён са змроку едзе ў змрок.*

## Сёння

*За ўсё, што сёння маю…*
*Я. Купала*

*Маю права не дбаць пра грошы —
усё роўна іх не прыбудзе;
ледзь запузацее кашалёк, як тут жа
кошт на хлеб, на ваду, на жыццё,
быццам нож, дух з яго выпускае.*

*Маю волю сяліцца, дзе схочацца:
у вёсцы са статусам рэзервацыі,
у горадзе кантрактнікаў і беспрацоўных
або паміж вёскай і горадам,
куды ходзяць штодня смецявозы.*

*Маю голас на выбарным вечы —
ён робіцца сіняю птушачкай,
ляціць у абсяг за фіранкаю,
знікае ў шпакоўні чырвонай
і там замаўкае навекі.*

*Маю матчына слова, якое
ўсё болей сплюшчваецца кардонам
і адтуль, з дамавіны кардоннае,
выпускаецца на часінку ў школе
і на дзве — на памост сцэнічны.*

*Маю мінуўшчыну, што пасівела
не так ад часоў (яны паўтараюцца),
не так ад вояў палеглых
(яны неўміручыя),
не так ад бяспомнасці — як ад сённяшніх
пылу, курадыму і туману.*

*Маю нашчадкаў, як сам, без заўтра,
маю знаёмых, не больш дабрабытных,
маю сяброў, не менш устрывожаных…
Чаго ж я не маю? Моцы аддзячыць
народу, і лёсу, і Богу.*

* * *

*Мастак малюе сваё —
ціхую бруістасць аблокаў.
А яны па-над шчэццю фабрычных труб
спеюць дажджамі, каб разам
з вадародна-кісларoднай жывільнасцю
абрынуцца сераю, ртуццю і шмат чым
яшчэ
з перыядычнай табліцы Мендзялеева.*

*Малюе сваё мастак —*



*кваецістую стужку дарогі.
А яна, пакручастая, абмінае
пасечаную, бы гадзюка, рачулку,
і вёску з пакрыжаванымі вокнамі,
і могліцы, сплюшчаныя пад слановымі
нагамі міністэрскага санаторыя.*

*Сваё малюе мастак —
смугу вясновага далягляду.
А за ёю, вясёлкавай, тоўпяцца
і зусім не радасцю свецяцца
абпраменены мірным атамам
нашчадкі тых, хто народжаны быў
пад палыновою зоркаю.*

*Ужо і дождж прабіў
ягоны парасон кажаністы,
ужо і цяжкая глеба пад нагамі раскісла,
ужо й чарвякі залезлі ў шкарпэткі, —
а ён малюе сваё;
ён добра засвоіў з лекцый і кніжак:
не можа айчына быць непрыгожаю.*

## На год 2013-ы

*Але Сямёнавай*

*Юным не ўявіць нам год,
з імем: Новы…
Ды з надзеяй на ўмалот —
зерне слова!*

*Знoўку і ў слязу, і ў пот
хай абрыне,
адно б толькі не ўразброд —
нам, сябрыне.*

*Не ўсыпіць няхай народ
сном аблудным,
хай не стане ён, няцот,
годам Юды.*

*Ад варотаў паварот
дасць прыблудзе,
а нам — веру: гадаў год
мудрым будзе!*

## Над «вершамі пасля вершаў» Леаніда Галубовіча

*Вечарую з паэтам,
са смуткам ягоным,
з болем, сумненнямі, скрухаю.
І ўсё-такі — светла мне
ў агні ўваскрэслых вершаў,
дзе паэтава «я», як ён кажа,
іх толькі палова.
Не пагаджаюся, думаю…
Пад засняю лямпы —
маленькае сонца.
У полі заснежаным —
маланкі зялёных парасткаў.
У нетрах зямной скамянеласці —
горан магмы…
І цемра, і холад, і цвердзь
твораць агонь таксама,
таму напалам ён не дзеліцца.*

## Лёс

*Як многа зведаў ён дарог!
Шукаў то Сатану, то Бога,
прайшоў ад храма да астрога,
пасля назад… Марнеў і сох,
маліў, каб прыняла дарога
ў свой кут — а там зваліўся з ног.
Забіўся, кажуць, аб парог,
хоць болей не было парога.*

## Халодны дом

*З дому, дзе жыву, прыеху дадому,
дзе даўным-даўно не жыве ніхто
і дымам з коміна сплыло цяпло былое.*

*Напальваю печ, а яна ўсё сцюдзёная,
хукаю на шыбіны — не адтаюць,
рукі трымаю над полымем — не баляць.*

*Завейнымі змейкамі круцяцца
ўспаміны мае па кутах і шчылінах
ды чапляюцца за рамкі з фотакарткамі.*

*Хоць пасміхнулася б мама з партрэта,
хоць бы вітанне выдыхнуў бацька!
У аблічны ўзіраюся — за шклом інеюць.*

*Не, не за шклом! Разумею нарэшце:
нашы блізкія паміраюць двойчы —
самі па сабе і ў нас, жывых,
ды астылых…*

*І вось мае рукі аб агонь апякліся,
цяпельцам забытым душа азарылася,
і мне ў доме халодным — горача.*

## Кухонны змоўшчык

*Быць пад ідалам, жыць дакукаю?
П'ю, а заўтра… Дайду, дастукаю
я ў атопках сваіх ядроных
да палаца яго і трона.
І скажу яму ўсё, што думаю,
столькі доказаў прыведу яму —
ён самохаць зрачэцца ўлады…
Што, не ўдасца? Не дам я рады?
Ты вось выпі ды пстрыкні «радзіва»:
мо ў адстаўку падаў ён загадзя?..*

* * *

*Жыццё ёсць пошук
апраўдання жыцця:
для чаго нарадзіўся,
за што пакутуеш,
навошта пойдзеш навекі?
Не знаходзіш адказу,
але — жывеш,
але — пакутуеш,
але — рыхтуешся да сыходу.*

*З'явіцца потым анёл
і адценіць прычыннасць:
не воляй сваёй нарадзіўся,
не воляй сваёю жывеш,
не воляй сваёю пойдзеш.
Такі просты адказ,
такое простае вытлумачэнне.
Неспасцігальным, аднак,
будзе сум у вачах анёлавых.*

▸ КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# ЦІКАВАЯ РЭЧ — ЖЫЦЦЁ…

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ





Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

## Казка першая. СПРЭЧКА

Жылі-былі ў адным двары кураняты. Самі па сабе гадаваліся, без маці-квактухі, бо куплёныя былі, інкубатарскія. Сыплючы ім проса, бабуля клікала: «Пыль-пыль-пыль», таму і назвала малых пылянятамі. Так будзем зваць і мы.

Блукала нешк пылянё па агародзе і сустрэла ў разоры жабу.

— Ой, якая ты непрыгожая, — прамовіла пылянё. — Ажно глядзець на цябе брыдка. (Яно заўсёды што думала, тое і гаварыла.)

— Не! — спакойна адказала жаба.

— А ты зірні на мяне і параўнай. Ты — зялёная, лупатая, слізкая, а я — жоўценькі ды пухнаты.

— Затое ў мяне ногі як ногі, а ў цябе два пруцікі нейкія. Адуван на пруціках, вось хто ты! – заявіла абражаная жабоцька.

— Тады давай спытаем у каго-небудзь іншага, — прапанавала пылянё.

На тым і пагадзіліся. Але да каго звярнуцца? Да сабакі? Дык жа брэша бесперапынна, падысці боязна. Да ката? Ганарысты вельмі, ды і прагавае яго бабка, шкадлівага, ад куранят — падалей ад бяды. Да парсючка? Той зусім бесталковы: затопча і не заўважыць…

А тут дожджык цёплы сыпануў, і вылез з глебы дажджавы чарвяк. Да яго і мусілі звярнуцца пылянё з жабай як да апошняй інстанцыі: так і так, хочам ведаць, хто з нас прыгажэйшы.

Чарвяк, падумаўшы, адказаў:

— Па праўдзе кажучы, я невідушчы, вачэй не маю. Але паслухайце, што я вам скажу. Прыгожае сонца, бо ўсіх нас саграває. Прыгожая вада, бо жывіць нас і ачышчае. Прыгожая зямля, бо я ў ёй хаваюся, а вы знаходзіце спажыву. Жыццё такое кароткае. Дык ці варта траціць яго на пустыя спрэчкі?

Так прамовіў разважлівы чарвяк, а тут адкуль ні вазьміся — певень. Вока нацэліў і, доўга не думаючы, нашага мудраца скляваў.

— Авой! — запішчала пылянё, закрыўшы галаву крылцамі. А жаба ціха жахнулася ды паскакала ў агурочнік хавацца.

Пыляняці — як страх мінуўся — стала сорамна за сваё выхваляннe. Што з таго, што цяпер яно мілае і пушыстае? Можа, хутка з яго вырасце такі самы самазадаволены і дурнаваты певень. Захацелася нават галаву пакратаць: мо расце ўжо грабеньчык?

Але тут бабуля паклікала есці, пыляня рванулася на голас, а пакуль бегла — забылася і пра жабу, і пра беднага, без пары скляванага чарвяка, і пра ўсе свае эстэтычныя пытанні.

## Казка другая. АЗАРЭННЕ

Жылі пад адным дахам металічны Чайнік і мяккая Ануча. (Цяпер гэта называецца грамадзянскім шлюбам.) Жылі не тое каб зусім кепска, але пазітыву ўсё ж не хапала.

Чайнік быў натурай нястрыманай і экспрэсіўнай. Прасцей кажучы — псіхам: безупынна кіпеў — з прычыны і без. То гаспадары позна спаць кладуцца, то па радыё глупства перадаюць, то цэлая ракавіна талерак і памыць няма каму. А бывае, яго ўвогуле забудуць зняць з пліты, а самі невядома чым займаюцца.

Маўклівай Анучы даводзілася цярпець мужавы выхадкі і пастаянна за ім прыбіраць. З цягам часу яна да гэтага прывыкла і нават лічыла сваю працу сэнсам жыцця. Калі вытраш і навокал чыста, тады так хораша становіцца на душы…

Але час ішоў, а жыццё лягчэйшым не рабілася. Чайнік не толькі кіпеў, але і мог ужо і ашпарыць. Ануча траціла здароўе і непрыкметна ўпадала ў дэпрэсію. Пра лёс узгадвала, пра карму пачытвала, і маліцца, можа, пачала б, ды ўсё часу не ставала.

Аднойчы Чайнік разышоўся як ніколі: калі ў цябе вады не далілі, а спаднізу агонь прыпякае, то як тут захаваць алімпійскі спакой?! Ён так гневаўся, так шыпеў, так трэсся, што гаспадыня не вытрымала яго істэрыкі і папросту вынесла да кантэйнера са смеццем. Тым болей, што ў шафе чакаў сваёй чаргі даўнавата куплены яго электрычны таварыш, які ўмее адключацца сам.

Ануча бедавала доўга. Слёзы градам цяклі з яе вачэй і капалі ў ракавіну, пакуль гаспадыня яе, гарэтную, ні пашкадавала: памыла, выкруціла ды павесіла на балконе, каб тая высахла.

Ануча адчула сябе на балконе, як на іншай планеце. Там было столькі святла, столькі паветра, столькі волі!.. Знізу машыны гудуць, мушкі легкадумныя лётаюць, матыль пакруціўся побач не без цікаўнасці, і нават голуб аднойчы ранкам прылятаў і буркатаў неяк па-асабліваму. І толькі на новым месцы Ануча зразумела, якая цікавая рэч — жыццё і як бяздарна яна ім распараджалася.

## Казка трэцяя. СЯБРОЎКІ

Жылі па суседству і былі неразлучнымі дзве сяброўкі. Шмат у іх было агульнага: і разумныя абедзьве, і сабой відныя, і шыцьвязаць-гатаваць навучаныя, ды вось жаніхоў штосьці не знаходзілі.

Адну з іх звалі Культура. Старэйшаю была яна ў сям'і, меншым сястрычкам-брацікам насы выцірала, казкі расказвала, бацькам ва ўсім дапамагала, і так да гэтага блізкія прывыклі, што зусім не заўважалі яе працы і стараннасці.

Другая сяброўка, Палітыка, у сям'і была адзінаю дачкой, а значыцца — ганарлівай і распешчанай. Ні ў чым адмаўляць сабе не прывыкла і з людзьмі лічыцца, па праўдзе кажучы, не ўмела. Кажуць, што такіх, бывае, жорстка вучыць жыццё, але гэта ўжо як каму пашанцуе.

І тут неўзабаве ў полі зроку сяброўак з'явіўся малады чалавек — відно, што не пустэча якаясь, не прахіндзей, а з прэстыжнай пасадай і з самымі што ні на ёсць сур'ёзнымі намерамі. Не адразу ён зрабіў выбар. Культура раз-пораз залівалася чырванню ды ў размовы надта не ўступала. А Палітыка, наадварот, павяла сябе смела, задзірыста: вочкамі пастрэльвала, туфельку з ножкі здымала ды яшчэ і локцікам — быццам незнарок — прыцiскалася. Ясная справа — хто з іх аказаўся з пярсцёнкам на пальцы. Пра начную зязюлю не дарэмна прымаўку прыдумалі…

Палітыку, як толькі яна займела статус замужняй дамы, стала ўвогуле не пазнаць. Мужу слова сказаць не давала, суседак перабрэхвала, дворнікаў строіла, дзяцей трымала ў дысцыпліне, а даўняе сяброўства сваё зусім закінула. Ну што з цяпер з Культуры возьмеш? У фітнэс-клубы ні нагой, карысных сувязей ніякіх, па-ранейшаму апякае дарослых сястрычак-брацікаў, як быццам яны круглыя сіроты, а хворым бацькам набывае лекі. Ну маці Тэрэза проста! І натуральна, не знайшла сабе нават масажыста — не кажучы ўжо пра спадарожніка жыцця. Векавухаю так і засталася.

## Казка чацвёртая. НЕ КАХАЛІ

Жылі па-суседству два дужыя хлопцы: Вецер і Ручай. Сустракаліся часта, мелі што абмеркаваць і куды падацца — як і належыць асобам іх узросту. Але якія розныя характары ў іх былі!

Вецер хацеў усяго і адразу. Дамагаўся свайго нахрапам, напорам, а як не выходзіла па-ягонаму, у шаленстве клаў жыты на полі, валіў дрэвы, мог нават, разышоўшыся, дах сарваць з хаты. Буяніў, адным словам…

Ручай меў іншую тактыку. Бег сабе паціху лажбінкай, цурчэў, абыходзіў узвышэнні, абцякаў валуны на шляху — і ўрэшце дасягаў сваёй мэты без лішніх намаганняў і шкоды навакольнаму асяроддзю.

Карацей кажучы, адзін любіў штурм, а другі — прыцягулую асаду. Адзін разлічваў на знешнія эфекты, другі браў ласкай і далікатным абыходжаннем.Іх адрознасць і нават процілегласць не перашкаджалі ім сумесна бавіць вольны час, мець агульныя прыгоды і агульныя сакрэты.

Кошка паміж сябрукамі прабегла нечакана. Упадабалі яны Рабіну, што палымнела гронкамі побач з вёскай. Угледзелі яе — і раты паразяўлялі. Адзін другому, падміргнуўшы, і гаворыць: «Зірні, якая клёвая…». І засмяяліся абое свайму адкрыццю, бо яшчэ летась не бачылі на Рабіне ні кветак, ні ягад. Лепей бы яны і далей яе не заўважалі…

Хлопцы мімаволі адчулі сябе канкурэнтамі. Як цяпер паказаць сябе, заслужыць дзявочую ўвагу і прыхільнасць?

Першым, вядома, сваю сілу і малайцаватасць праявіў Вятрыска. Засвістаў, разганяючыся, пашкамутаў хмаркі ў небе, паваліў стары бабулін плот, захістаў галіны дрэў, пазрываў гнёзды з развілак… Ды Рабіна неяк не ўразілася такім «подзвігам». Пазірала са шкадаваннем на птушаня-злётка, якое падскоквала ў траве, і на яго ўстрывожаных бацькоў.

Ручай, як заўсёды, падступаўся нетаропка, ціхай сапай. Перш дзяўчыне песеньку прысвяціў. Не, зусім не серэнаду! Так, просценькую такую мелодыю, але мілую. Потым напаіў свежай вадою… Жартуючы, папырскаў… Завабіў жабкамі і вадзянымі жукамі. І Рабіна з цікавасцю паглядзела зверху ўніз, крыху засаромеўшыся. Ці так здавалася ад яе пунсовых ягад?

Тое працягвалася да позняй восені. Але тактыка тактыкай, а вынік подступаў да маладзенькай красуні быў досыць драматычным. Адзін, дурэючы, паламаў верхавіну, другі, захапіўшыся, падмыў карэнне. Не хацелі яны гэтага, не хацелі… Не мелі кепскіх планаў і намераў. Проста — не кахалі.

## Казка пятая. ДАПЫТЛІВЫ МУРАШ

Жыў-быў на свеце адзін Мураш. Мурашоў, як вы разумееце, на свеце многа, але пра ўсіх жа не распавядзеш. А гэты быў асаблівы, чым і заслужыў нашу ўвагу.

І не тое, каб адразу нечым вылучаўся, не! Працаваў не пакладаючы рук, валок на сабе саломіны-бярвенні, дзяцей гадаваў, рана ўставаў і позна клаўся спаць. Адным словам — жыў, як усе. І вось надышоў час яму адпраўляцца, як прынята гаварыць, у апошні шлях. Ні сілы больш не засталося, ні цікавасці да жыцця. Лёг Мураш, закрыў вочы, склаў лапкі спрацаваныя на грудзях — і так хораша яму стала, так спакойна…

— Што такое? — думае. — Дзе сум і жальба да сябе? Хіба так з жыццём развітваюцца?

Ляжыць сабе, кімарыць, адпачывае… (Праўда, ён так і не паспеў зразумець, што адпачынак і ёсць шчасце, але ж мы з вамі гэта ведаем.)

І пытаецца натомлены клопатамі Мураш у Мурашынага Бога:

— Уразумі мяне, грэшнага, навошта я жыў на белым свеце?

Нязвыкла было Мурашынаму Богу чуць гэткія размовы. Вунь іх колькі, рудых ды куслівых: снуюць, капошацца, кудысьці спяшаюць, але ніводзін такіх дзіўных пытанняў не задаваў. Вытрымаў Ён паўзу для важнасці і нарэшце ўважыў старога:

— Ні пра што табе непакоіцца не трэба. Ну жыў і жыў. Усе жывуць — хто як умее. Такі-сякі плён у твайго існавання ёсць, і таму ў наступным увасабленні станеш ты жуком-гаўнавозам.

— І тады ўсё сам зразумею? — не суніма ўся без пяці хвілін нябожчык.

— Не так адразу, — астудзіў яго Мурашыны Бог. — Не будзеш лынды біць да слабых крыўдзіць — птушкай пасля народзішся.

У Мураша аж дух заняло ад такой перспектывы. Птушкай! У сінім небе! Галава закружылася, у вачах пацямнела, і паплыла з-пад ног родная зямелька. Але пакуль душа яго выпырхвала, здалося Мурашу на момант, што ён ужо стаў лёгкай белай птушкай і лунае ў паднябессі. Без пераходнага перыяду ў выглядзе жука з непрыстойнай назвай.

ВЕРШЫ

# МАРМЕЛАДАВАЕ НЕБА



Алена ІГНАЦЮК



## Закалыхванне

*І тут і там гудзе прастор.*
*Я тут — па знаку маёй вольнасці.*
*А там — у адваротнай першароднасці…*
*Адзін, і два, і тры — паўтор…*
*Там неба закалыхвае зямлю:*
*на гарызонце — тыгр, кастрычча і шаман —*
*на лініі адной, бы сталі на арэлі.*
*Я ж тут — вялікі сэнс ў сабе лаўлю,*
*бы ў крапінах цякучай акварэлі.*
*Тут птушкі нотамі ляглі на правады…*
*Ў расколінах ільдоў далее цішыня.*
*Ляднік спыніўся…І пайшлі гады,*
*дзе вырасла татэмам тыграня…*
*Нясуць яму ахвяру хадакі*
*(з жыцця майго — рупліцаў цені).*
*Там — за гарой, за хвалямі ракі —*
*абрысы раю сонцам заірдзелі.*
*І я — па знаку вольнасці маёй…*
*Пайду на гарызонт…*
*І стану на арэлі,*
*дзе тыгр, кастрычча, і шаман з мятлой…*
*Закалыхае неба мае веі.*

## Мне дайце, дайце колер бірузовы!

*Навошта мне экзотыка зямлі?*
*Мне дайце, дайце колер бірузовы!*
*Я думаю — аблокі, каб маглі*
*мне з неба сёмага данесці, без назовы,*
*адно вялікае жывое пачуццё,*
*нібыта ў бірузе мае адлюстраванне…*
*Тады б магла свае пражыць жыццё,*
*як з табара нябеснага цыгане.*
*Да межаў не прывязанай была…*
*І ў сцежку агарнула б свае ногі…*
*Ці ўчула? Вырастае ўзмах крыла*
*на мне — як бірузовыя аблокі.*
*І абмінула шэрасць сумных хмар…*
*Мне дайце, дайце колер бірузовы!*
*Як пойдзе дождж, то прынясе мне ў дар*
*з-пад неба кветкі — без назовы?*
*Ірвецца тонка-бірузовы квет.*
*Перад даждом я стану на калені.*
*І неба мой адродзіць сілуэт…*
*Ды шэры колер — як хваробы-цені.*

## Вандроўка

*Турцыя, Грэцыя,*
*Данія, Швецыя —*
*Я…*
*Мы — за тры моры.*
*І з намі Венецыя …*
*Чуем палескі распеў салаўя!*
*Міфы пражытыя — можна ў дзівоснае:*
*Турцыя, Грэцыя,*
*Данія, Швецыя —*
*Я!*
*Мы — за тры сонцы, паспелі за вёснамі,*
*з воску будуем замак… Здаля*
*бачыцца вежа капронавай лесвіцай:*
*Турцыя, Грэцыя,*
*Данія, Швецыя —*
*Я…*
*Пойдзем па ёй —*
*нашы мовы пакрэсляцца*
*неба палосамі ў звон ручая.*

## І я цяпер… даходжу да Ружан

*Тут Ганна мела шлюб з Сангушкам…*
*І Аляксандру ведаць ужо пара,*
*што дзеці выраслі… Як паляцелі птушкі*
*ад доміка садоўніка… З вакна*
*даносіцца іржанне смелых коней.*
*Прыехаў, пэўна, лоўчы караля.*
*І ў пушчы паляванне будзе… Роля*
*у гетмана ружанскага свая:*
*наладзіць пір за гротам, на раздоллі,*
*каб славіць род Сапегаў нездаля —*
*маглі святыя, грэшнікі, героі…*

*

*Палац барочны ўзняўся ўраз —*
*нібы пячатка Льва Сапегі…*
*сургучна ўмацавала час,*
*а з ім — сарматаў на Масковію набегі.*
*І я цяпер… даходжу да Ружан.*
*Мне мроіцца палац і малады Францішак:*
*згубіў ён малітоўнік базыльян,*
*жыве ў палоне эратычных кніжак.*
*І дзверы шафы упрыгожыў барэльеф:*
*драўляны антыфікс,*
*а ці сатыр смяшлівы…*
*І чуецца яго піскілвы смех —*
*бы гэта летапісец піша… успаміны.*
*Касцёла неф барочна расквітнеў,*
*анёлы з ружамі над купалам, як дзеці.*
*Каліcь у Казіміра канцлер Леў*
*прасіў за волю, што губляў па свеце…*

## Мармеладавае неба

*Прадчуваю ў небе свята…*
*Хоць жыву я не багата*
*(адзін двор і адна хата),*
*назіраць пайду за садам —*
*маё неба з мармеладам.*

*Нізка-нізка аблачына —*
*прывідовая дзяўчына.*
*Візіторка? З запрашэннем?*
*Маім думкам узвышэнне!*
*Сон-вясёлкі нараджэнне!*

*Яе век — як тры хвіліны.*
*Буду славіць нарадзіны*
*дачкі вільгаці, ці сферы…*
*Павятуха-хмарка — ў веры,*
*што я стану хроснай маці…*
*Бачу неба ў мармеладзе!?*

## Узор майго натхнення

*Птушак танец рытуальны —*
*ромбы, крыжыкі, квадраты…*
*Я згубіла гул вакзальны —*
*і знайшла свой дзень крылаты.*
*Думкі лесам…То пралескам…*
*І праз поле — на прастор.*
*Горад дзесь застыў бурлескам…*
*Птушкі вершаць свой узор.*
*Бачу ромбікі і рысы —*
*сее-сеецца дзень-шлях.*
*Пэўным талентам актрысы*
*паўтару крылаты ўзмах?*
*І ў арнаменце адвечным:*
*нібы ў трэцім дні тварэння —*
*птушкі блудзяць шляхам млечным…*
*Такі ўзор майго натхнення!*
*Замкі свецяцца Валыні…*
*Расцілае посцiл ціша:*
*сінім вокам берагіні*
*мае спыніцца узвышша.*

## У Качановічах

*Прыпяць разгорнута*
*вострымі шлюзамі —*
*бы рукавамі магічнай вады.*
*Пенна-малочнай… І жабы мне —*
*музамі —*
*там, у стаўку, каля першай грады…*
*Дзе Качановічы бэзава кружацца*
*ў танцы шляхетным…*
*У кожным двары*
*травы высокія сцелюцца-вужацца…*
*Богу якому прыносяць дары —*
*людзі палескія, людзі балотныя…*
*Ловяць-спыняюць вудою той час,*
*дзе не губляюцца пчолы калодныя…*
*Дзікага мёду з вякоў — празапас!*
*І саламяняцца хаты — пагонныя…*
*І каранууюць іх гнёзды буслоў…*
*Людзі на сцежках, як згублены,*
*— сонныя…*
*І размаўляюць са мною без слоў.*
*Я абыходжу вуглы Качановічаў*
*і разглядаю музейны пейзаж.*
*Ды аканіцы, падковы — знаходзячы,*
*не пакідаю двор шляхціца… Аж,*
*бронзавым зліткам той заахвочаны,*
*нібы якім медалём — за сукно:*
*нехта са Скірмунтаў узнагароджаны*
*быў на выставе ў Парыжы… Даўно!*

## Дзіўныя людзі

*Дзіўныя людзі. Час іх у блудзе.*
*Чашу на трызне ім выпіць да дна…*
*Вэлюм магічны (ці ў мяце, ці ў руце)*
*кіне на сцежку да продкаў вясна…*
*Следам за ветрам яны галасілі.*
*Брудныя твары абмыты слязой.*
*Неслі ахвяру і ў продкаў прасілі*
*чыстага веку з нябеснай душой.*

## Са мною Ляхі

*Рака ніткай Арыядны*
*з лабірынта цягне час.*
*Бераг выцягнуты, ладны…*
*Дзень — што міфа пераказ.*
*Бы птушыныя галовы*
*ў жыхароў маіх мясцін:*
*соймм барочны ладзяць совы —*
*горнуць цела ў крэалін…*
*Рака ніткай Арыядны*
*з небам злучана здаля…*
*У мяне квіток мандатны:*
*выбіраюць караля —*
*людзі-совы… Можа, нагі?*
*Хто з іх дэман? Кожны — Бог!?*
*Я ж крычу: «Са мною Ляхі*
*правяць баль пад скокі блох!».*

## Маскарад (абразкі)

*Чайка дзюбай*
*чэрціць рыску*
*на вадзе.*
*Карнавал пачне…*
*Да піску*
*сваю радасць давядзе.*

*Вось прайшлі па набярэжнай*
*фаварыткі ў парыках.*
*Яны ў радасці пацешнай —*
*іх кароль жыве ў вяках.*

*Маскарад… Мой твар гатычны,*
*нібы ў мемлінгавай Евы…*
*Супраць ветру страх панічны*
*пачынае свае спевы.*

*Карнавальна доўжаць шэсце —*
*маўчуны:*
*у зялёных акулярах,*
*пудра тлустая на тварах*
*і пячатка на фулярах…*
*Вельмі важныя чыны?*

*Хтось адчуў сябе Кентаўрам*
*(як Лапіф сп'янелы з міфа,*
*што прыліп да крэсла)… Хмарна!?*
*Дождж кранецца складак ліфа —*

*Геры — з тварам чалавека…*
*Дзесь ляціць страла Эрота*
*да вады — шукае Рэха…*
*Маскарад… Ідзе галота…*

*Чайка дзюбу падымае*
*да нябёс.*
*Я прастору азіраю…*
*Сена воз…*
*Хтось пакінуў на дарозе.*
*Цень касца…*
*Толькі позірк мой ў знямозе.*
*Маскі… Маскі… Без канца…*

АПАВЯДАННЕ

# АКНО

Віктар КАЗЬКО

Што гэта было?

Была хата. Звычайная, сялянская. Акурат на сям'ю. Не маленькая, але і не надта вялікая. Толькі ашаляваная, што для гэтых мясцін не вельмі звыкла. Хаты тут ставілі без распусты і залішняй фанабэрыі, як ёсць з бярвенняў, ачэсаных з большага склюдамі, а то і проста сякерай. І ўсе вуглы вонку, а гэтая — у чыстае ластаўчына гняздо. Пад шалёўку, якую ў мужыка няма часу ды і няма дзе рэзаць: дошкі на падлогу і столь рабілі чатырохручна. Рыштаванне, на ім бервяно, адмысловая піла. Пара рук унізе, на зямлі, пара рук уверсе, на рыштаваннях. І шморг, шморг да пярдзячага пару.

Не без таго пару, духу і дыху падымалася, пэўна, і гэтая хата, бо без яго на вясковай зямлі ўвогуле нічога не ўзыходзіць і не расце, калі чалавек гаспадарча не грунтуецца на зямлі, не зрастаецца з ёй. Таму, па-ўсім, з цягам часу яго котлішча, як і сам ён, прыпадае да той зямлі, прырастае, знітоўваецца з ёй. На тым стаяла і стаіць вясковае жыццё, глыбінна, а недзе і таемна павязанае з вечнасцю, непазнанай і непадуладнай розуму.

Вось і гэтая хата, падпарадкаваная непазбежнасці зямнога і нябеснага наканавання, была ўжо бліжэй да вечнага супакаення, чымсьці да разгону ў векаванне. Зрублена, пастаўлена, па-ўсім, даўнавата, бо зраслася з зямлёй, нібы тая зямля выпнула яе на паверхню, нарадзіла сваім подыхам, а цяпер клікала да сябе, блакітную, пад неба пафарбаваную, ужо абяскроўленую, без нутранога, жывічнага цёку лясных сокаў, хаця пад шалёўкай таго і не было бачна, толькі згадвалася — у пракаветнасці сыходу свой дух, сум і заўсёды трошкі сораму.

Мо таму хата і звалася канцавой. Хаця такой не была. Мо толькі некалі, у безабачнай і бясклопатнай маладосці. Цяпер жа яе падперлі хаты нядаўняй і напорыстай пабудовы, яшчэ не заветраныя, з вычакальным шолахам не да рэшты здзьмутай габлюшкі, моху і кудзелі паміж стыкамі бярвенняў, з караламі і пацеркамі яшчэ не засватанай дзяўчыны, якая на самоце аплаквае ўжо сваё дзявоцтва бурштынавымі слязьмі — жывіцай, што бунтуе ў яе выспелым целе.

Пад націскам і буяннем гэтага маладога жыцця, навіны, якая пазбавіла яе нават імя, у свой час канцавая хата — з аднаго боку канцавая, а з другога пачынальная, першая, — сціснулася, укарацілася, паменела нават, здаецца, ростам і выглядала як адбалелы і ўпёрты ў зямлю абсечаны сук з дупельцам, а мо нават і бяльмом — адным адзіным прарэзаным на паўднёвай, падворкавай сцяне аконцам.

Але ўсё ж яна была. Была хата. Як званок сярод вуліцы, блакітны званочак, але ўжо губляючы колер перад няўхільнасцю часу. А мяне ж час толькі ставіў на ногі, цягнуў за вушы ўгару, не надаючы яшчэ ўважнага розуму, дзе і як я жыву, да сябе і наваколля. Трава ёсць трава, а хата — стойла, дзе можна сесці за стол, пад'есці і пераначаваць, а ўзімку пагрэцца на печы. І ўсе хаты былі для мяне на адзін капыл, хаця ўсё ўжо вакол мяне мела назву, імя, заставаліся амаль безыменнымі, безаблічнымі, бо пасярод гэтага быў сам я. Толькі я. З імём, але безыменны, нябачны ні сабе, ні бязмежнасці свету, як усплёск ветру: дыхнуў, прабег і аціх, стаіўся да новага наплыву, сцюдзёнага ці цёплага дотыку да твайго твару, галавы, які ты ўспрымаеш нястрыжанай галавой, валасамі, як малочнае цяля, што толькі вучыцца мэкаць, успрымае той жа нечаканы вецер ці надакучлівага авадня скурай ці маладымі яшчэ вушамі: сцепанецца імі — і зноў мысай у матчыну цыцку.

Так і я ў сваім сірочым дзяцінстве купаўся, куляўся ад святла да змроку, з дня ўноч, давяраючы ім без асаблівага наракання і ўсведамлення розніцы паміж імі, хаця праг больш дня, святла. Але гэта было ўжо падсвядома, як падсвядома ўвайшлі ў мяне мая вёска, мая вуліца і хаты на ёй і амаль поўная адсутнасць у іх сталых мужчын, скрозь толькі жанчыны, у большасці ўдовы, дзяды і дзеці. Так жылі і мае равеснікі, напрывязаныя яшчэ да калгаснага і хатняга выкарыстання сябры. Па іх я розніў, пазнаваў вясковыя хаты, атаясамліваў больш пры святле, бо дарослыя на цэлы дзень губляліся ў калгаснай працы.

І была ў нас груша. Старая, пракаветных дзядоў, якія даўно ўжо, пэўна, пад ёй і спрахлі, груша. Пад гэтай грушай мы больш і бавілі час, дурэлі і раслі ўлетку. І было падобна, што яна вырасціла не адно пакаленне такіх, як і мы, бязбацькавічаў. Больш за тое, нарадзіла і дала жыццё самой хаце, каля якой помнікам і паўстала, каранямі, як рукамі, з двух бакоў узяўшы дамок у абдымкі.

Нашы заляцанні да гэтай грушы былі не бескарыснымі. Па-першае, зацішак і цянёк, хаця над ёй, здаецца, якое б ні было надвор'е, заўсёды стаяла сонца. Нават у самы хмарны і дажджлівы дзень груша была асвечанай калі не сонечнымі промнямі, то ў некалькі адценняў і радоў каляровай каронай, што кольцамі клаліся, прыпадалі на яе макаўку. Толькі нас прыцягвала не гэтае дрэва і тым больш не цень і зацішак. Самі грушы, а праўдзівей — грушкі. Таму што былі яны пры ўсёй раскошы і велічнасці дрэва вельмі маленькія, на адзін кус, адзін наш дзіцячы, невялікі яшчэ, хаця ўжо і не малочны кутні зуб.

І беручы тую грушку на зуб, мы не зводзілі адзін з аднаго вачэй. І рагаталі. Так, што нас згінала папалам. Грушкі былі кіслыя, хаця ў іх нешта і мелася, бо аддавалі кожнаму з нас аж у пяты і адгукваліся млоснасцю ў жываце. І не надта хацелася іх есці. Але елі адзін перад адным. А яшчэ таму, што другіх не было, другіх не ведалі.

Увогуле наша дзяцінства не спазнала смаку садавіны, бо



Фота Б.Сачанкі

садоў, садовых дрэў у вёсцы не было. Усе яблыні і грушы ссеклі і зрэзалі перад вайной, калі іх абклалі падаткамі. Толькі на пагоне (дзіўная назва, адкуль, чаму — ганялі туды пасвіць тавар ці людзей там ганялі?) раслі сярод жыта і выспявалі пад восень райкі, райскія яблыкі. Зноў жа дзіўна, чаму райскія, з якога раю трапілі на пагон, у нашу вёску, у наша дзяцінства?

Не сказаць, каб мы іх цураліся, не даходзілі да тых райскіх яблык нашы ногі. Сярод лета ўзяць іх у рот было немагчыма, да таго тыя раёвыя яблычкі былі адначасова кіслыя і горкія. Калі ж зжыналі жыта, яны былі ўжо спажыўныя. Чырвоныя і хрусткія, салодкія. Толькі нам было не да іх: далёка дабірацца па колкай пожні. Але гэта было не бяды — зжатае поле пільнавалі калгасныя вартаўнікі, конныя аб'ездчыкі, каб мы не квапіліся, не збіралі пакінутыя на ім пасля жніва каласкі…

А дзікіх кіслых грушак было ўдосталь. Дзедава груша была невычэрпна пладавітай, хаця і вялікі дрыстун нязменна прахопліваў нас ад яе кожнае лета: танчэй саломінкі, вышэй харомінкі. Але мы былі звыклыя да гэтага. Адзенне дазваляла рабіць гэтую справу імгненна, у некаторых і штаноў не мелася, толькі кужэльная сарочка да пятаў. А прыбіральні паўсюдна, ад плоту да хлява і за хлявом. Зямля спраўна прыбірала грушкі і даспелыя ў нашых жыватах рудаватыя зярняткі-семачкі. Мы не паскудзілі яе, гэта пачало адбывацца ўжо ад перасыці, як сёння гавораць, ад экалагічна-чыстай ежы і дыетычна збалансаванага нашым адукаваным стагоддзем харчавання.

**Заўсёды ж пры лесе, балоце, вадзе неўпрыкмет і самі пачынаюць глухнуць і слепнуць, таму што больш слухаюць і глядзяць на свет, успрымаюць яго не вокам і слыхам, а скурай**

Груша лічылася прыналежнай майму лепшаму сябру Толю Тупіку, па-вулічнаму Войту. І гэта быў сапраўдны войт — канавод малечы ўсёй нашай вёскі, хаця і сам сабе наўме, што і дазволіла яму займець, прыхватызаваць, як сёння больш на слыху, дрэва. Бо яно ўсё ж было нічыім, стаяла на водшыбе ад зямлі, сотак і агароду Войта, на мяжы, прыхіленае да канцавой хаты, ахапіўшы, аблапіўшы яе каранямі і голлем. На яе страху яно і давала большасць свайго плоду. Са страхі ж грушкі скочваліся на зямлю ўжо Войта. Такім чынам ён валодаў грушкай ужо толькі ў якасці збіральніка іх, прыбіральшчыка, што не перашкаджала яму аднаасобна выступаць перад намі іх гаспадаром, размеркавальнікам. Трэба адзначыць, што ён быў шчодры. Ва ўсім шчодры. Не заціскаўся, не жмоціўся з грушкамі і ахвотна дазваляў кожнаму з нас націскаць пальцамі на яго рукі, цела. Пасля чаго на іх утвараліся і доўга не знікалі ямкі, што было нам забаўляльна і дзіўна, бо мы на тое былі няздольны, як бы не стараліся. Мо таму, што на нашых касцях была толькі скура і ані крапелькі мяса. І мы спраўна што моцы ціснулі цела Войта, пачынаючы з гэтага дзень і заканчваючы яго і зайздросцілі яму. І Войт шчыра радаваўся сваёй ямнай пазначанасці і даваў дасведчыцца ў гэтым кожнаму з нас.

Адно толькі крыўднае мне і заганнае было ў яго паводзінах: гэта адносіны да мяне. Ці, праўдзівей, адносіны паміж намі. Нейкая закарэлая нянавісць паміж намі, кожны раз нечаканая і невытлумачальная. На пачатку дня сустракаліся мы сябрамі — не разаллі вада. Сябравалі паўдня, а ў другую яго палову былі адзін аднаму лютымі ворагамі. Варожасць кожны раз успыхвала без дай-прычыны, без слоў, кпінаў, абразы ці нечага падобнага да гэтага. Без дай-прычыны мы сыходзіліся на нашым пагоне твар у твар, жывот у жывот, лоб у лоб. Пад узаемную аплявуху. Сыходзіліся моўчкі і біліся да крыві. Да першай юшкі, пад сонцам і ў дождж. Адкуль гэта ішло, якое магнета ўцягвала і распальвала нас?

Як мне здаецца, значна ўжо пазней я зразумеў гэта. Мы былі дзвюма разведзенымі ў розныя бакі часткамі аднаго і таго ж цэлага. Не пабрацімамі нават, а братамі, сіамскімі блізнятамі. Параджэннем аднаго і таго ж лёсу, пра які ніколі не забываліся ў сваім горкім пабрацімстве. У яго не было ўжо бацькі. У мяне бацька быў яшчэ жывы, недзе ў Берліне працягваў яшчэ вайну. Жывы быў бацька. Але не было маці, загінула пад выбухам міны — на мінным полі, выносячы мяне з яго. І мы люта змагаліся з Войтам, не прызнаючы ўзаемнага нашага сіроцтва, адной долі на двух. Горкай долі яго бацькі і маёй маці. І паміж сабой мы біліся. Мы помсцілі ўсяму свету, зямлі, небу, самі не цямячы гэтага. А ва ўсім астатнім былі нармальнымі людзьмі, хаця і не па сваёй волі, і не па віне і волі нашых бацькоў прымусова сіроцкага, байструковага паходжання. Абодва аднолькава шчырыя. Бясклапотна шчодрыя ў сваёй галечы і жабрацтве. Хаця, хаця… У мяне, зразумела, нічога не мелася. Як гавораць: што ў камыша — стручок ды душа. А ў Войта была груша. І ён быў шчодры і не хцівы ў дзяльбе яе падаліц, як і ва ўсім астатнім, што тычылася справядлівасці, надзялення кожнага з нас знойдзеным на пагоне порахам — пляскатым, як гузік, для выбуху ад удара па ім малатком ці сакерай, даўгім — локшынавым, з дзірачкай усярэдзіне, для распалу печы, а таксама для гульні і забавы ў круцёлкі-вяртухі: порах-лакшына ставіўся стаймя на падлогу, а шчык і кончык знізу падпальваліся. Порах гарэў і падскокваў — калі танцаваць, то ўжо і кружыцца. Забаўнік і прыдумляльнік быў наш Войт, грушкамі адорваў кожнага з нас як цукеркамі. Дзедава пракаветная груша толькі ўхвальна шапацела лістотай ды ўсмешліва хітала каранаванай макаўкай.

Месцілася яна каля глухой сцяны канцавой хаты, якая, здаецца, увогуле ад нараджэння была глухаватай і мо нават паўсляпой, ці то з недагляду ці веку, гаспадара, які яе ставіў, ці яшчэ з якой-небудзь нагоды, а мо і заганы: ён і сам быў аглавушаны і прыслеплены. Сярод палешукоў такія сустракаюцца. Заўсёды ж пры лесе, балоце, вадзе неўпрыкмет і самі пачынаюць глухнуць і слепнуць, таму што больш слухаюць і глядзяць на свет, успрымаюць яго не вокам і слыхам, а скурай, адразу ўсёй сваёй плоццю, як салдацкая ўдава ці сам салдат мір, вайну і жыццё ў зямлянцы ці бліндажы.

Глухой была і задняя сцяна канцавой хаты. Толькі на пярэдняй, вулічнай, мелася нейкае падабенства дзвюх аканіц і вокнаў, намёк на іх. Але такіх маленькіх і, падобна, пужлівых, як вочка ў вераб'я, захопленага знянацку на сунічнай градзе. Так што тыя акенцы можна было і не ўлічваць. Да ўсяго ж і зашклёны яны былі, здаецца, не шклом, а высцелены змрокам з сярэдзіны, трошачкі толькі зрэджаным, рухомым ад навісі над ім бэзу і язмену. Птушыныя вераб'іныя вочкі ў повязі толькі з самімі сабой, з тым, што варыцца ў іх маленькай гожай галоўцы, у іх непадглядным сэрцы. Непраглядныя з вуліцы, падворку, але надта ўспрымальныя да вулічнага жыцця, варушэння кветак і веццяі лістоты тых жа бэзу і язмену, налётных чмеля, пчалы, сініцы, вераб'я і салоўкі, дарожнага прахожага руху жывёл і людзей. Мітуслівага чужога вока да сябе, усярэдзіну хаты, акенцы не дапускалі.

Але ў хаты мелася і сапраўднае акно, хаця і нейкае дзіўнаватае. Адным адненькае, як на большае не хапіла сілы ў тых, хто яго прарэзаў, што было няправільна для вясковых хатаў. Яны звычайна глядзелі на свет падворкавай сцяной трыма вокнамі: нам няма чаго хаваць, і мы хочам быць відушчымі, усіх і ўсё бачыць. А тут… Ужо крыху пазней я не-не дый думаў, што гэта акно спецыяльна зроблена такім. На аднаго, для мяне.

Было, было ў мяне акно. Для ўсёй нашай хеўры — шчодрая душа груша з маленькімі і неспажыўнымі грушкамі, калі мы кожны паасобку, такімі прывабнымі і смачнымі, калі ўсе разам.

Для ўсіх разам быў і пагон з сукравічна крывавымі рубцамі пакручастых траншэяў, акопаў, бліндажоў, яшчэ не забітаваных травой ад выбухаў бомб і снарадаў. Так люта пагуляла на тым пагоне вайна, а цяпер гулялі мы, падсвядома поўнячыся, набрыняючы пралітай тут варожай крывёй і крывёй нашых бацькоў. Такі гон быў калісь тут. І сёння мне думаецца, ці толькі калісь, ці закончыўся ён, ці не лёг лёсавызначальным, гербавым адбіткам на гэта поле. Поле для пасвіння статку кароў, для жыта, вясковага люду і нашых тут забаў. Мы вышуквалі на ім парэшткі мінуўшчыны, размініравалі былое, штохвілінна рызыкуючы застацца без будучага.

Груша, пагон, снарады і міны на ім, зоркі чырвонаармейцаў і нямецкія свастыкі і яшчэ штосьці, такое сатлелае і ржавае, што не паддавалася і вызначэнню, — гэта было наша агульнае, калектыўна вясковае, калгаснае. І сам я быў бясспрэчна і цалкам вясковых калгасных вытокаў — нараджэння, паходжання і прызначэння. Але падсвядома душа прасіла, прагла і чагосьці яшчэ няпэўнага мо, ды толькі свайго. І я займеў тое сваё. Акно. Адзінае вялікае акно на ўсё котлішча на падворкавай сцяне канцавой вясковай хаты. Хаця мяне і нікога з нашага хаўруса на тым падворку не вельмі прывячалі. І мы чамусьці перасцерагаліся яго. Унурыўшыся, хапатліва абміналі, абыходзілі бокам. А я неяк забыўся. Прыпыніўся каля брамкі, павёў вокам паверх яе, дапяў ім да акна. Спатыкнуўся позіркам на ім. І прапаў.

Што я ўбачыў? А каб ведаў сам. Гадоў праз …ццаць, у сталым ужо ўзросце, пэўна, здолеў бы тое-сёе зразумець і растлумачыць — такі наш сённяшні век, адукаваны, бяздумна і лёгка вытлумачальны. А тады… Тады нават дзеці трохі думалі і не спяшаліся выказаць сваё глупства, выстаўляцца з ім.

Я, здаецца, убачыў у тым акне, у шклянай яго шыбе самога сябе. Толькі не зусім сённяшняга, са збітым, пакараным ластаўкай рабаценнем тварам. А некага спраўнага і больш дагледжанага. Твар яго стаяў у маім зроку толькі імгненне. Потым ён пачаў расці, пачаў расці я сам. Расці, аддаляцца да постаці. І я ўжо не вельмі пазнаваў, хто перада мной, бо постаць тая адбеглася ў незразумелую і неспасціжную далячынь, у якой размыта і амаль безаблічна гублялася. Я, пэўна, і не бачыў, а толькі адчуваў яе прысутнасць, бо ўсведамляў, што яна павінна быць, што гэта я недзе там, у неабсяжнасці зямной прасторы. І гэта прывіднае адчуванне ў прасторы самога сябе ў замглёным сонечным праменнем шкле доўжылася таксама толькі адну кароткую хвіліну. Узмах маіх век — і мяне няма. Нідзе нікога і нічога няма падобнага на мяне. Хаця ў аконным шкле паказальна чытэльна ўсё, што адбываецца вакол мяне, на вуліцы, на падворку — вонку, усё да драбніц, але толькі без мяне. Мяне як сцёрлі. Жыццё ішло без мяне, здаецца, як і дагэтуль, нязменнае, безупыннае, хаця крыху і перайначанае, прыхарошанае. І не зусім як бы сапраўднае. І гэта было несправядліва, не жыццё, а нешта зусім іншае, бо зноў жа без мяне. Чаго не павінна быць.

Сіні шкляны смутак агарнуў мяне — гэта я шкадаваў самога сябе. Кіно на дроце, дый годзе. Але я быў уражаны не ім, збянтэжаны, абураны тым, што ў ім не знайшлося нават месцейка для мяне. І гэта было няправільна. Я так і падумаў: няправільнае кіно. Няправільная хата, няправільнае акно, няправільнае шкло. Усё няправільнае. Усё няправільнае, як і сама вайна. Недзе па-за намі і без нас гераічная, з подзвігамі, якіх у нас і блізка не было, бо мы проста тут толькі жылі і таксама проста толькі паміралі.

Усё навокал нялюдскае, няправільнае. Хаця сонца ў небе здавалася больш ласкавым і ўсмешлівым, чымсьці раней, і аблокі нязмрочныя, ветлівыя, вітальныя. І матылькі махалі больш яркімі крыламі. Увогуле ўсё і паўсюдна пабольшала, падрасло, падужэла. І птушка перада мной хаця і адзіная, але не звычайны вясковы шэрабрудны верабей, непаразуменне нейкае. Колеру зусім не тутэйшага, ці не заморскага, грудка ружовая з пераходам у малодзіва, і падкрылкі зеленаватыя, і скача па дрэве фанабэрыстым скокам, апушчанай уніз, долу галавой, не па-людску і не па-птушынаму — угору хвастом. Усё навокал угору хвастом, дагары нагамі, наадварот, няправільна.

Але я сваёй уваскрэсленасцю, небыццём ужо быў уцягнуты ў гэтую няправільнасць. Быў нязгодны пазбавіцца яе, прыкуты да яе мацней, чымсьці кайданамі і ланцугом. Я нават пачаў цурацца сваёй хеўры і ўжо не ўпадаў так па грушках, па гульнях на пагоне. Мяне цягнула, зводзіла з белага свету акно. Я больш часу праводзіў, стоячы каля плоту і нязводна гледзячы на яго.

І неўзабаве быў прыкмечаны. Справа ў тым, што ў той канцавой хаце жыла дзяўчына. Не ведаю, пры бацьках, без іх, яны неяк засталіся па-за маёй памяцццю, а дзяўчына невядома як, калі і чаму запала ў вочы. І мо не толькі ў вочы, хаця не сказаць, каб была яна кідка прыгожай. Запала такая, як ёсць, і назаўсёды засталася ў маёй ужо нават дарослай памяці. Увайшла ў яе ціха, нечакана і незаўважна. Пэўна, як усё найбольш значнае неасэнсавана і непадуладна ўваходзіць у нашу свядомасць. Уляцела нячутным і нябачным на сонцы махам крылаў, як стракозка. Толькі не тая, што водзіцца на лугу, груваствая і цяжкагаловая, хіжа абуджаецца ў пару выспявання траў у паляванні, пошуках здабычы.

Ёсць у яе ціхмяная і непрыкметная сястра. З'яўляецца, пэўна, з вады. І жыве больш пры вадзе, сіненькая, нябачная на рацэ ці возеры, пад іх глыбінны колер. Аддае перавагу не хуткай плыні ракі, а яе затокам, старыцам, у спакоі якіх вясельна раскашуюць белыя і жоўтыя гарлачыкі, на задуменных іх кветках якраз больш і месціцца сіненькая страказа, мо скрозь іх пялёсткі пазнае зямную глыб і звязваецца з небам — далучаецца і пазнае вечнасць.

Вось такой, падобнай да сіненькай стракозкі, была і дзяўчына з канцавой хаты. У блакітнай сукенцы з раскіданымі па ёй гарошынамі-гарлачыкамі, сінявокая. Заплеценая доўгая ільняная каса да пояса. Перакінутая за плечы, а больш ляжыць на грудзях. І дыхае, дыхае разам з імі, як дыхае жытнае поле, калі пачынае палавець, калі ўжо наліваецца, спеліцца пругкі колас. З тых жытных каласоў, здаецца, была і сплецена каса дзяўчыны. Таму яна і дыхала, абяцала, зачароўвала, прыцягвала і дражніла мяне. І дзяўчыне самой, па-ўсім, падабалася яе налітая сонцам каса, бо яна часта лашчыла яе крышачку бухматы кончык, вусікі яго падушачкамі пальцаў.

Яна прыкмеціла, адзначыла сярод равеснікаў і паклікала мяне на свой падворак мо і вымушана. Нешта адбывалася ў яе з маім стрыечным братам. Яны абодва закончылі дзесяцігодку і рыхталіся некуды паступаць вучыцца, карпелі над падручнікамі, у якіх, пэўна, было нешта смешнае, бо яны часта і гучна рагаталі, схіліўшыся адно да аднаго.

Але тое мне было не да галавы. Хаця не сказаць, каб зусім. Запала ж у вочы дзяўчына. Неяк міма волі запала яе чыстае і нячутнае дыханне, вочы, як працяг неба, цяжкая каса, што няўзнак абкруціла мяне колерам любага пагону, як падала нейкі знак. Знак у далёкую, а мо і не такую далёкую будучыню, калі і на тым пагоне ўзыдзе, загусціцца, пачне палавець жыта. І мая русявая стрыжаная галава ўжо ў той час усё больш коласам хілілася долу, нешта ў ёй ужо спелілася, яшчэ няпэўнае, — налівалася чаканнем і неспазнаным смуткам. Час уладна браў мяне ў свае абдымкі і вымушаў спатыкацца на роўным месцы, дзе раней я капацеў лётам. І нішто не замінала гэтаму бегу і лёту. Усё міма, міма. А цяпер…

Але ж больш за ўсё займала мяне акно. Калі я ўпершыню зазірнуў у яго, убачыў не толькі самога сябе, адчуў бездань, подых бясконцага глыбу зямлі. І з той бездані, таго глыбу, з чорнага змроку, здаецца, абыякавага шкла на мяне дыхнула цяплом і пяшчотай, як бы нехта прыманьваў мяне, прымаў і бласлаўляў. Абяцаў і вёў у бясконцасць існасці, да якой прыналежаў і я. Хаця мяне там злачынна сцёрлі, растварылі, не пакінуўшы і следу.

А я праг застацца, праг убачыць калі ўжо не сябе, то хаця б свой след. След у сіне-абяцальнай смузе акна канцавой хаты. І таму я зноў і зноў прыпадаў да таго акна, нібы імкнучыся ўжо не ў сваё, а ў чужое жыццё. Як уся наша хеўра імкнулася безбілетна седзячы на сцяне разбуранай вайной местачковай сталінскай — так яна чамусьці называлася — школы хоць краечкам вока зазірнуць на чужое прыгожае жыццё на белай прасціне недаступнага нам кіно.

Толькі ваконнае кіно майго дзяцінства больш не было абяцальна падахвочвальным і ласкавым. У ім і за ім, у глыбі пакоя, была абыякавасць. Хаця штосьці ў самім уже пакоі мелася і прывабнае мне, хвалюючае. То нейкія невыразныя цені прабягалі, то высвечваўся ложак, акуратна засцелены посцілкай з каляровымі ўзорамі, белы ражок узбітай падушкі з карункамі і дзявочая апратка, развешаная на самаробным крэсле. І гэта мяне таксама хвалявала. У простасці і звычайнасці таксама хавалася нейкая салодкая таямніца трапяткога бавення сонечнага дня сіняй стракозкі на белых і жоўтых гарлачыках старыц. І таму я нязменна заставаўся верны сваёй прыхільнасці цяпер ужо адчужанага і абыякавага да мяне акна.

Напярэдадні таго памятнага дня я не пайшоў са сваімі хаўруснікамі на пагон, хаця павінен быў пайсці. Мы дамовіліся завяршыць размініраванне снарада, заняліся гэтым яшчэ да таму. Узброіліся сякерамі, малаткамі, зубіламі і толькі прыступілі да працы, як нас прыпынілі.

У Войта было яшчэ два браты. Малодшы, шасцігадовы па мянушцы Кот, якога мы пазбягалі, бо ён быў даносчыкам, пільнаваў нас і даносіў дарослым, чым бы мы ні займаліся. Старэйшы брат, трынаццацігадовы Мікола, ужо прыпісаны да калгаснай працы, араў на воліках калгасныя палеткі. І ў той дзень араў непадалёку ад пагона.

І як толькі мы паплявалі на рукі і грукнулі сваімі прыладамі па тоўстым азадку снарада, каб пачаць яго раскрутку, як атрымалі бізуна. Брат Войта ахапіў кожнага з нас. Аперазаў усіх адным махам. Кот прасачыў за намі і данёс брату, чым мы займаемся. Мне падалося, што снарад выбухнуў, такі моцны быў апёк. Усе мы гарохам і галопам сыпанулі ў бакі па пагону.

Мне дасталося больш за іншых, хаця брат Войта зачапіў мяне толькі кончыкам бізуна. Але якраз у гэтым і была справа, на кончыку араты прыладзіў свінцовую блямбу, яна да крыві рассекла мне бок. Мо таму мяне і не аказалася разам з маімі хаўруснікамі на пагоне. Застаўся ў доме і выправіўся да майго акна.

У той дзень, які назаўсёды ўрэзаўся ў маю зрушаную і хваравітую памяць, я прыпаў да яго ўсім тварам, для лепшага агляду абхапіўшы скроні далонямі, як гэта робіцца, калі мы зазіраем у калодзезь, каб убачыць у ім зоркі. Тыцнуўся халодным носам у шыбу і нічога не ўбачыў. Акно патухла для мяне. У хаце было нібы ноччу. А шкло здалося цёплым, як бы яго нехта знарок падаграваў, развітальна мне. Але гэта толькі абнадзеіла мяне. Нічога не відно таму, што вельмі наблізіўся да шыбы, вачэй не хапае, каб змесціць, што за ім ці ў ім тоіцца. А тоіцца, несумненна, толькі такое велічна вялікае, маім вокам непасціжнае.

Я адхіліўся ад шкла, нават адступіў пару крокаў назад. Касы сонечны прамень пазалаціў, падпаліў шкло. Акно, здаецца, пачало слепнуць. У самой яго сярэдзіне прарасло бяльмо. Спачатку маленькае, як макавае зярнятка, толькі белае. Але тое зярнятка павялічвалася, расло і змяняла колер. Жаўцела, рудзела, чарнела. А потым успыхнула і закрывавіла.

І я ўбачыў.

Што?

Жыцця не хапіла разгадаць.

Я жахнуўся, спалатнеў і захістаўся.

А вечарам у той жа дзень на пагоне, здабываючы порах з нямецкага ці савецкага снарада, падарваўся Войт.

Войт усё ж, прабачце, а не я. Бо ў мяне не хапіла духу ў той дзень пайсці разам з усімі на пагон, дзе ўжо спеліліся, пачыналі чырванець райскія яблыкі.

**Мяне цягнула, зводзіла з белага свету акно. Я больш часу праводзіў, стоячы каля плоту і нязводна гледзячы на яго**



Фота А.Акуліча

**РАДКОЎІ**

# РАДЗІМЫЯ ПЛЯМЫ

Сяргей КРАСНАБАРОД



*
*пражываю дні поўныя слоў*
*шукаю словы поўныя дзён*

*хто я ім пасля гэтага*
*ці яны мне дагэтуль*

*
*старэчы постмадэрнізм*
*жыццё*
*як успамін*
*пра жыццё якое прайшло*

*
*пра гэта можна спытаць у зязюлі*

*аднак вясною так не хочацца*
*ведаць адказ*

*
*стрэлкі і цыферблат*
*на тыльным баку запясця*

*зручная форма*
*надзейных кайданкоў*

*
*Няма сэнсу скардзіцца*

*горад магутны і ўважлівы*
*як кат*
*які збірае дзьмухаўцы*

*
*у бяздзеянні*
*ўсякі механізм*
*уяўляе сябе*
*гільяцінай*

*
*чайкі на пляжы з'яўляюцца*
*ўвечары*

*марскія прэтэндэнты*
*на адкіды зямной жыццядзей-*
*насці*

*
*горад ведае сваіх вар'ятаў*

*радзімыя плямы*
*на пажадлівым целе*

*
*новыя часы*
*новыя формы*
*адзінай бясконцай песні*
*пра тое што ты ёсць*

*
*часам я бачу сябе камандзіра-*
*ваным*
*у чужым горадзе*
*сярод чужых людзей*

*і чакаю пакуль ён напоўніцца мною*

*
*я чарапаха*
*мая хата ў заплечніку*
*таму*
*і спяшацца ўжо няма куды*

*
*ранішняя кава*
*дзённая гарбата*
*вячэрняе піва*

*каб жа ж не пераблытаць*

*
*з боку на бок кручуся ў ложку*
*чакаючы сну*
*пошук формы*
*вартай зместу*

*
*у адзіноты ёсць адна прывілея*
*яна заўсёды побач*
*нават калі ты адзін*

*
*усяго некалькі нотаў*
*усяго некалькі літараў*

*колькі стагоддзяў наталіліся іх*
*варыяцыямі*

*
*валодаць памяццю*
*каб не зважаць на сучаснае*

*так навучаюць пракрокаў*

*
*брук часін*
*асцярожна ступае па імёнах*
*той хто стане*
*наступным камянём*

*
*птушкі ня любяць рэлігійных*
*войнаў*
*таму ім хапае неба*

*
*напачатку было слова*
*і слова было у Бога*
*і слова было «ENTER»*
*
*падаюць і разбіваюцца*

*гораду таксама не патрэбна*
*насенне раскошных каштанаў*

*
*ад зялёнага — да жоўтага*
*ад жоўтага — да пустаты*

*і шэрыя шаршаткі дрэваў*
*уторкнутыя ў падушку неба*

*
*галубы ходзяць па лісці*
*у ранішнім парку*
*восені гукі жывыя*

*
*зорнае неба пасля тыдню дажджоў*
*чэзлае лісце парэчак і канопляў*

*лета ўпершыню так знікае*
*пакорліва аддана*

*
*па лісці ў лесе коцяцца пацеркі*
*у траве застаюцца чакаць*

*імжыць з вечнасці ў вечнасць*

*
*лісце яблынаў і клёнаў*
*слёзы шыпшыны*
*даўкія пацеркі рабінаў*

*рухаецца восень да зімы*
*ад зялёнага да пунсовага*

*
*у вясны марудная праца*

*прыбіральшчыца ў майстэрні*
*прасторавага архітэктара*

*
*красавіцкая распуста кашта-*
*наў*
*галовы змеяў*
*у чаканні спелых яблыкаў*

*
*адзінокі працаўнік-павук*
*глядзіць на раку з моста*
*месяц ажывае ў вадзе*

*
*над морам поўня з чырвонага*
*золата*
*над горадам — са срэбра*

*чыя даражэйшая*

*
*у небе з'явілася сонца*

*так на чыстай паперы*
*з'яўляюцца гэтыя словы*

*
*пішу спачуванні*
*чыстаму лісту паперы*

*ён ахвяруе сабою*
*дзеля маёй ласкі да яго*

*
*першае слова*
*аб тым як жыву*

*і больш я не належу сабе*

*
*гульня мае назву «знаць»*
*дзеяслоў*
*які марудна перапаўзае*
*у назоўнік*

*
*мяне вывучае тэкст*

*сярэднявечны трактат*
*па мастацтве валодаць увагай*

*
*пішу Богу*
*чытаю жонцы*

*яму не падабаецца цэнзура*
*ёй не зразумелы сэнс*

*утрох бавім жыццё*

*
*тэлеграма*

*вось калі спазнаеш*
*кошт слова*

*
*калі-нікалі я пужаюся*
*што словы на мяне забыліся*

*і плачу*
*безупынным шматкроп'ем*

*
*і словы адшукваць такія*
*каб кожны разумеў*
*як Бог*

*
*бязглуздае жыццё*
*паміж публіцыстыкай і кухняй*

*прахадны двор за сметнікам*

*там на сценах*
*таксама напісаныя словы*

*
*стаць інвалідам*
*каб нават літасць*
*давала прыбытак*

*
*мэта*
*бы адвечны вораг*
*падкрадваецца ззаду*

*і не паспяваеш зразумець гэта*
*каб своечасова*
*стрэліць сабе ў спіну*

*
*плач немаўляткі*
*вытанчаная паэзія*

*тут кожны твор*
*варты натоўпу тлумачоў*

*
*шмат іншых непрызнаных*
*птушак*

*і толькі зязюля*
*упарта старэецца*
*падмануць лёс сваіх дзетак*

**КАМЕДЫЯ ДЛЯ ТЭЛЕЭКРАНА**

# АЛЬБОМ НА ПАМЯЦЬ

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

***Дзейныя асобы***

*Мірон Архіпавіч* — загадчык кафедры, гадоў пад 60, умеранай паўнаты.

Члены кафедры:

*Іван Якубавіч* — гадоў пад 45, чэрава магло б быць меншае.

*Міхась Яўменавіч* — гадоў 50, на выгляд трохі ацеслівы.

*Пелагея Карпаўна* — гадоў 50, залішне паўнацелая.

*Зінаіда Маркаўна* — гадоў 40, трохі дрындулястая.

*Інэса Пятроўна* — гадоў 35, зграбная, танклявая.

*Піліп Піліпавіч* — гадоў 40, дробненькі, «скура ды косці».

Дзея адбываецца на кафедры літаратуры аднаго з універсітэтаў Беларусі. За радамі вузкіх пісьмовых сталоў сядзяць — па адным, па двое — члены кафедры. За асобным сталом насупраць іх — загадчык кафедры, прафесар Мірон Архіпавіч.

*Мірон Архіпавіч* (да прысутных). Итак, планавыя рабочыя пытанні мы разгледзелі, але я прашу ўсіх затрымацца — ёсць яшчэ адно пытанне, не планавае, якое таксама мы павінны вырашыць калектыўна, бо яно датычыць кожнага з нас. Пытанне гэта папрасіла паставіць наша самая маладая супрацоўніца Інэса Пятроўна. Я трохі ў курсе справы, лічу, што задума — цікавая, арыгінальная, вось давайце і абмяркуем. Інэса Пятроўна, калі ласка, сюды, да мяне, будзеце ўсё паказваць і тлумачыць. *(Сам з крэслам адсоўваецца крыху ўбок).*

Інэса Пятроўна выходзіць з тоўстай папкай у руках да стала, за якім загадчык.

*Інэса Пятроўна.* Прабачце, хвалююся, нават не ведаю, як лепш пачаць... Значыць, так. Вось у гэтай папцы — ужо амаль гатовы фотаальбом, прысвечаны ўсім вам, жыццю нашай кафедры. Вы ведаеце, што я ўжо гады тры, як фатограф-аматар, раблю здымкі паўсюль дзе можна, дзе ёсць хто-небудзь з вас або мы ўсе разам. На гэтых здымках — і нашы пасяджэнні, і вы ў аўдыторыях — чытаеце лекцыі ці вядзеце практычныя заняткі, і з абароны дыпломных, і з урачыстых вечароў, і нават з юбілейных застолляў, дзе вы і п'яце віно, і скачаце польку...

*Іван Якубавіч* (перабівае Інэсу Пятроўну). Дык гэта ж выдатна! Мець такі фотаальбом дома — я не супраць! І няма чаго тут абмяркоўваць! Мірон Архіпавіч, стаўце на галасаванне — і толькі!..

*Інэса Пятроўна.* Ой, не-не-не, Іван Якубавіч, не! Я ж яшчэ не сказала вам галоўнага! Альбом жа мой — не зусім звычайны. Можна нават сказаць: зусім незвычайны!

*Мірон Архіпавіч.* Вось вы і скажыце, у чым яго незвычайнасць.

*Інэса Пятроўна.* Незвычайнасць яго ў тым, што на фотаздымках, з аднаго боку — вы, вашы мілыя твары, а з другога боку — як бы і не вы, бо не вашы фігуры, не вашы плечы, рукі, ногі...

У с е х о р а м. Як гэта? Як гэта і мы і не мы?

*Інэса Пятроўна.* Рэч у тым, што... толькі не хвалюйцеся, калі ласка, не ўспыхвайце, прашу вас... рэч у тым, што на здымку галава, ну скажам, Івана Якубавіча, а цела, — перш за ўсё жывот і ногі, — ну, трохі не тыя, знаёмыя нам, якія мы прывыклі бачыць, і ад гэтага, паверце, Іван Якубавіч вельмі выйграе, глядзіцца такім маладым, статным, падцягнутым...

*Іван Якубавіч.* Пратэстую! Рашуча пратэстую! Што гэта вы сабе дазваляеце, мадам? Калі вы такой думкі пра мой жывот — думайце сабе! Але ж не публічна, не пры калегах! Па-першае, скажу вам, у маёй Ульяны Сідараўны ніякіх прэтэнзій да жывата свайго мужа няма, а гэта — галоўнае. Дрэнна, калі жывот не падабаецца жонцы, і яна захоча пацікавіцца нейчым іншым. Па-другое, шаноўная, у вас недасканалы эстэтычны густ. Паглядзіце! *(Падымаецца, выходзіць з-за стала, пры гэтым чэрава, канечне ж, «падбірае», уцягвае).* Гэта — непрыгожы, брыдкі жывот?

*Міхась Яўменавіч.* Цудоўны жывот! Самы той — што трэба! Даў бы Бог мне гэтакі!..

*Піліп Піліпавіч.* Мадэльны жывот мадэльнага мужчыны!

*Пелагея Карпаўна.* Іван Якубавіч, не слухайце, што яна сказала. Калі ваш жывот яна лічыць па нейкіх паказчыках неадпаведным, то *(паварочваецца да Інэсы Пятроўны)* даруй, даражэнькая, ты сапраўды не разбіраешся ў мужчынскіх жыватах.

*Інэса Пятроўна (голасна, крыўдлівым тонам).* Паслухайце! Паслухайце! Хіба я маю на ўвазе рэчы, прабачце, фігуры ў рэальнай плоскасці? У рэальнасці — я нічога не маю супраць жывата Івана Якубавіча. І калі ён вам, шаноўны калега, падабаецца, — дык насіце на здароўе і красуйцеся! І нарошчвайце яшчэ гэта самае... калі ласка!.. Я хацела вам — усім вам, мае дарагія, — прапанаваць, як ужо сказала ўпачатку, незвычайны фотаальбом, у якім усе вы паддадзены ў незвычайных параметрах і ў незвычайных ракурсах.

*Міхась Яўменавіч.* І ў ракурсах?

*Інэса Пятроўна.* Канечне! Перш за ўсё размова ідзе пра ракурсы. Я фатаграфавала вас у звычайных жыццёвых сітуацыях. Гэта — нецікава. Шаблон! Мая задача была — даць нешта новае, незвычайнае, калі хочаце — экстравагантнае. Напрыклад, быў у мяне здымак, на якім нашы старэйшыя калегі Іван Якубавіч і Пелагея Карпаўна танцуюць — на тым памятным юбілейным вечары, на банкеце. Што я раблю? Звычайны, элементарны фотамантаж: бяру ілюстраваны часопіс, а іх у мяне сотні, і знаходжу фотаздымак: маладая, атлетычная складу пара выконвае, прычым, па-майстэрску выконвае якісьці танец. Я выразаю на сваім здымку галаву Івана Якубавіча і галаву Пелагеі Карпаўны і наклейваю іх, адпаведна, на галовы гэтых маладых танцораў. Акуратненька ўсё раблю — каб



камар носа не падтачыў. А затым перафатаграфірую — і ўсё! І калі ласка, можаце паглядзець, якая цудоўная спрытная маладая пара кружыцца ў танцы — Іван Якубавіч і Пелагея Карпаўна! Вось, паглядзіце! *(Перадае здымак Пелагеі Карпаўне).*

*Пелагея Карпаўна (смяецца, аж заходзіцца).* А божачкі! Гэта — я танцую? Дык а дзе ж мае сто дваццаць кіло? *(Перадае здымак Івану Якубавічу).*

*Іван Якубавіч (незадаволена).* А хіба я з вамі калі-небудзь танцаваў? Было такое?

*Пелагея Карпаўна.* Было, Іван Якубавіч, было! Даўнавата, праўда, але — танцавалі.

*Іван Якубавіч.* Нешта не помню... Ну, але дапусцім. Я хачу выказацца наконт самой канцэпцыі фотаальбома. Рэч у тым, шаноўная Інэса Пятроўна, што вы парушылі натуральную цэласнасць чалавечай асобы. Вы што ж, думаеце, што разумная, мазгавітая галава можа быць абы на якім целе? Што цела — ну торс, рукі, ногі і ўсё, што ўсярэдзіне, не мае дачынення да разумовай і псіхічнай дзейнасці? Прабачце, не палічыце нясціплаСцю, але я, напрыклад, не ўяўляю, каб мая галава тырчэла на тулавішчы нейкага дробнага замухрышкі-здыхляка...

*Піліп Піліпавіч.* Напрыклад, на маім...

Прысутныя рагатнулі.

*Мірон Архіпавіч.* Інэса Пятроўна, скажыце, калі ласка, вы і маю кучаравую адрэзалі?..

*Інэса Пятроўна* (трохі разгублена). На здымку, Мірон Архіпавіч, на здымку!

*Мірон Архіпавіч.* Ну так, на здымку, але — адрэзалі?..

*Інэса Пятроўна* (яшчэ больш разгублена). Адрэзала... Каб нікому не было крыўдна — абразала ўсім, без вынятку.

*Мірон Архіпавіч.* Добра, добра! Адрэзалі, дык і добра. Трохі пазней я яшчэ выкажуся.

*Інэса Пятроўна.* Шаноўныя мае старэйшыя калегі! Прадчуваю, што і ў іншых з вас, і не толькі ў Івана Якубавіча, ёсць па праекту альбома заўвагі і, магчыма, пярэчанні. Гэта — натуральна. Я раздам вам усе здымкі, вы паглядзіце, калі ласка, і дайце сваю ацэнку, помнячы, што я хацела зрабіць як найлепш.

Кладзе перад кожным членам кафедры па некалькі здымкаў. Тыя пачынаюць іх разглядаць і адразу ж пырскаюць смехам, а тады заходзяцца ад рогату і выкрыкваюць: «Брава!», «Во здорава!», «А вой-вой-вой, што гэта? Здзекі ці жарты?»

*Міхась Яўменавіч.* Па-мойму, усё гэта належыць да жанру гумару...

*Інэса Пятроўна* (паспешліва). Правільна, Міхась Яўменавіч! Вельмі рада, што вы гэта зразумелі. Без пачуцця гумару разглядаць і ацэніваць мой альбом, думаю, справа марная, задавальнення, а тым больш радасці ён не прынясе.

*Іван Якубавіч.* Які ж гэта гумар? Такое скрыўленне аб'ектаў рэчаіснасці — гэта сатыра, злая насмешка! Я гаварыў у абарону жывата свайго, а цяпер яшчэ скажу і пра ногі. Чые гэта грэбалы вы мне ўзычылі? Хіба яны лепшыя за мае?

*Інэса Пятроўна.* О, Іван Якубавіч, калі я скажу, чые «грэбалы» вам дасталіся — вы будзеце ганарыцца. Гэта, шаноўны прафесар, «грэбалы» самога Алена Дэлона! Са-мо-га *(выразна, амаль па складах)* А-ле-на Дэ-ло-на! Разумееце?.. А пад мілую галоўку Зінаіды Маркаўны я падабра фігуру самай знакамітай у свеце актрысы — Мэрылін Манро! Вялікай Мэрылін Манро!

*Іван Якубавіч.* Прабачце, Інэса Пятроўна, гэта вы так лічыце, а вось сама Зінаіда Маркаўна ўпэўнена, што яе ногі прыгажэйшыя, чым у гэнай вашай, як вы сказалі, Мурлін Мурло.

*Інэса Пятроўна.* Я сказала Мэрылін Манро.

*Іван Якубавіч.* Ну хай будзе так, хоць мне здаецца, што на наш славянскі лад прыгажэй і ямчэй гучыць Мурлін Мурло... Больш таго, я дапускаю, што Зінаіда Маркаўна лічыць, што яе ногі — самыя прыгожыя жаночыя ногі ў свеце.

*Зінаіда Маркаўна.* Дарагія мае! Я вас вельмі прашу: ну, не трэба! Ну што вы ўчапіліся за мае ногі?!..

*Інэса Пятроўна* (да Івана Якубавіча). Але ж ёсць і аб'ектыўныя крытэрыі прыгажосці!

*Іван Якубавіч.* Дзе? У поглядах на жаночыя ногі? Ды вы што? Колькі на свеце жанчын — стольк і крытэрыяў прыгажосці жаночых ног!

*Піліп Піліпавіч.* Як і крытэрыяў мужчынскага жывата.

Прысутныя рагатнулі.

*Іван Якубавіч* (да Піліпа Піліпавіча). І вы дарэмна іранізуеце! Правільна: у кожнай жанчыны і свой крытэрый мужчынскага жывата, свой! Каторай падабаецца ўсмаглы, прысохлы да спіны...

*Піліп Піліпавіч* (перабівае). Як у мяне, напрыклад...

*Іван Якубавіч.* ...а каторай, ды не каторай, а многім вельмі па густу жывот, так бы мовіць, з тэндэнцыяй да авангарднай ролі ў абліччы мужчыны.

*Піліп Піліпавіч.* Авангарднае чэрава!..

Прысутныя рагатнулі.

*Інэса Пятроўна* (апалым голасам). Ну, я бачу, што сур'ёзнае абмеркаванне пераходзіць у гумарыстыку, а гэта і ёсць ваша ацэнка майго праекту... Мірон Архіпавіч, відаць, пара закругляцца, падводзьце вынікі. *(Садзіцца за стол).*

*Мірон Архіпавіч* (паважна адкашляўшыся): Так, будзем прымаць пастанову. Абмеркаванне прайшло досыць актыўна, абыякавых да задумы Інэсы Пятроўны не было — і гэта выдатна. Наколькі правільна я зразумеў выказаныя думкі і ацэнкі — бальшыня схіляецца да таго, што ўвогуле альбом на памяць зрабіць трэба, хай будзе такое сведчанне нашага кафедральнага жыцця і працы, але што датычыць канцэпцыі альбома, якую прапанавала Інэса Пятроўна, на жаль, яна выклікала амаль ва ўсіх вялікія сумненні. Можа, мы проста не гатовыя, не падрыхтаваныя да такога арыгінальнага. Ці, як тут гаварылася, экстравагантнага творчага падыходу. Будзем помніць, што мы ўсе выхаванцы эстэтыкі рэалізму, рэалістычнай літаратуры і мастацтва, спачатку — крытычнага рэалізму, а затым — сацыялістычнага. І самыя асцярожныя, нясмелыя навацыі мы схільны прымаць за буржуазны мадэрнізм. І ў прыёме, ужытым Інэсай Пятроўнай, канечне ж, нешта ёсць непрымальнае, — для мяне, ва ўсякім разе. Не прымаецца мной вось гэта самае спалучэнне — галава мая, а цела, фігура — некага іншага. Рэч не ў тым, што ў кагосьці з нас прапаў авангардны жывот, ці яшчэ што занадта авангарднае. Ну, а калі б мастак намаляваў вядомага чалавека ў поўны рост і пры гэтым моцна змяніў фігуру — аблегчыў яе кіло на трыццаць-сорак, — ці запратэставаў бы вядомы чалавек? Наўрад! Можа, яшчэ і пахваліў бы мастака. За тое, што зрабіў яго на малюнку трохі прыгажэйшым, трохі больш сімпатычным. Значыць, рэч не ў скажэнні фігуры, а ў тым, што фігура чужая, чужое цела, рукі і ногі, усё чужое. Знікла адно натуральнае цэлае. А гэта — канец прыроднай, ад Бога, прыгажосці. Але глыбінны матыў задуманага Інэсай Пятроўнай я разумею. Яна хацела прымусіць кожнага з нас паглядзець на сябе і заняцца ўдасканальваннем таго, што нам дадзена ад Бога. Я правільна кажу, Інэса Пятроўна?

*Інэса Пятроўна* (праз слёзы). Дзякую, Мірон Архіпавіч. Шчыра дзякую... Менавіта ў гэтым жывое зерне маёй задумы. Даруйце, мае дарагія, што прынесла вам лішняе, непрыемнае хваляванне, даруйце...

*Мірон Архіпавіч.* Дык чаго вы плачаце? Усё ж добра! Паслухалі, паглядзелі, паразумеліся... А фотаальбом на памяць зрабіце. Мы вам будзем вельмі ўдзячныя. Толькі, канечне, хай у кожнага з нас будзе пры сабе і галава і ўсё астатняе. Гэта надзвычай важна, каб усё тваё было пры табе. Дзякую ўсім за ўдзел у працы, пасяджэнне кафедры закрываецца.

Заслона.

**1986**

НАЧНЫЯ НАТАТКІ

# ВЕРА І АДВАГА

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

З траўня Уладзімір Мікалаевіч Сіўчыкаў адзначыў сваё 55-годдзе. Віншуем нашага аўтара – і жадаем яму здароўя, веры і адвагі!

## Два медалі

Дазнаўся з інтэрнэта, што пад Каляды трох свецкіх вернікаўбеларусаў узнагародзілі папскімі медалямі «Benemerenti» — «Асабліва заслужаным». Высокую адзнаку Ватыкана ўпершыню атрымалі нашы суайчыннікі, якіх ушанавалі за вялікую працу на карысць Касцёла, а значыць, і хрысціянскіх каштоўнасцей на Беларусі. Атрымалі іх лаўрэаты ў сталічным касцёле Святога Сымона і Святой Алены з рук Апостальскага Нунцыя арцыбіскупа Клаўдыё Гуджароці ў прысутнасці Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча. Сам медаль белага італьянскага золата надзвычай прыгожы, мае форму стылізаванага крыжа з выявау Хрыста. На адваротным баку выбіты надпіс Benemerenti на фоне герба Ватыкана — тыяры і скрыжаваных ключоў. Стужка да медаля ў традыцыйных папскіх, бела-залатых колерах. Надзвычай эфектна і ўрачыста выглядае і была з пячаткай і ўласнаручнай сігнатурай Наступніка святога Пятра, Папы Бенядыкта XVI.

Найболей парадаваўся за двух лаўрэатаў, а дакладней — лаўрэатак. За калегу, дырэктара выдавецтва «Pro Christo» Аліну Новікаву і за даўнюю знаёмую, пісьменніцу і перакладчыцу, галоўнага рэдактара часопісаў «Ave Maria» і «Наша Вера» Крысціну Лялько, якую з задавальненнем павіншаваў.

Але з прыкрасцю прыгадаў і надаўнюю тэлефонную размову, у якой папікнулі мяне: «Ну дык што, сябрук твой атрымаў калядны падарунак, узяў медалька з рук дыктатара!?»

Прагучаў той папрок з вуснаў Аляксея М., чалавека, які, мабыць, меў на тое маральнае права. У свой час адмовіўся ён ад звання «Заслужаны мастак Беларусі», стварыў дзясяткі нонканфармісцкіх палотнаў і інсталяцый, пабыў паводле крывадушнага прысуду і сядзельцам на Акрэсціна.

Напачатку з ягонай падачы меў і я спакусу асудзіць, але ўспомнілася біблійнае «Не судзіце, і вас не асудзяць!», і таму ўстрымаўся. Зусім не хацелася быць суддзёю ягонаму калегу Рыгору С., не хацелася б нават выслухоўваць тлумачэнні або апраўданні, чаму прыняў ён медаль імя Францішка Скарыны. Напэўна ж, прывёў бы той з паўдзясятка аргументаў на сваю карысць: і што сапраўды заслужыў пачэсную ўзнагароду сваёй творчасцю, і што не меў права адмовіцца і тым самым падставіць творчы саюз, які цяпер кіруе… Дый ці мала было на тое прычын!? Напэўна, лепш парадавацца і за яго: калі прыняў дзяржаўную ўзнагароду, значыць, меў радцю, бачыў у тым сэнс, значыць, яму тое было патрэбна і павінна пайсці на карысць.

Скарынаўскі медаль амаль у дзесяць разоў «маладзейшы»за «Benemerenti». Гэта круг з рэльефнай выявау гуманіста і надпісам «Францішак Скарына», а на адваротным баку ўзнагароды выбіты знакаміты сігнет «Сонца маладзіковае». Шкада толькі, што бляск медаля нашага слаўнага асветніка і першадрукара, як і аднайменнага ордэна, стаўся апошнімі гадамі не такім яскравым, бо ўганараваныя імі не толькі сумнеўныя асобы, але і зацятыя ворагі Беларушчыны.

Весткі пра абедзве ўзнагароды прыйшлі амаль што адначасна, і само сабою напрошвалася параўноўваць іх важкасць.

Напраўду, адно — атрымаць медаль ад аднаго з найвышэйшых у цывілізаваным свеце аўтарытэтаў, ад Папы Рымскага. Зусім іншае — прыняць узнагароду ад уладара, які ўсяляк нішчыць нацыянальную адукацыю, літаратуру і культуру.

Як кажуць, адчуйце розніцу…

13 лютага 2013 года

## Вера і адвага




Фота Алесі Сіўчыкавай

Помнік Тадэвушу Касцюшку ў горадзе Скрэнтан, штат Пенсільванія, ЗША

Даўней дачка Алеся дасылала мне фотаздымкі нью-ёркскай вуліцы Тадэвуша Касцюшкі (Kosciuszko street), а цяпер падарожнічала па Пенсільваніі і ў горадзе Скрэнтан (Scranton) сфатаграфавала і помнік Тадэвушу Касцюшку (1746–1817) — нацыянальнаму герою Беларусі, Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, ганароваму грамадзяніну Францыі.

Крыху здзівіўся, бо ведаў, што помнікі вялікаму сыну беларускае зямлі стаяць у некалькіх амерыканскіх гарадах, але пра гэты пачую ўпершыню.

У 1910 годзе быў усталяваны манумент польскага скульптара Антона Папела ў цяперашняй сталіцы Вашынгтоне, у Лафайетпарку перад Белым домам, поруч з выявамі іншых герояў вайны за незалежнасць ЗША: французаў маркіза Жыльбера Лафайета, адмірала Франсуа дэ Граса, генерал-лейтэнанта Жана-Батыста дэ Рашамбо і прускага барона Фрыдрыха фон Сцюбена. У 1913 годзе пастаўлены помнік ў Вест-Пойнце, але не ў маленечкім, на 164 жыхары, гарадку ў Арканзасе, а ў аднайменным горадзе-кампусе ў штаце Нью-Ёрк пры знакамітай вайсковай акадэміі, якую заснаваў згаданы ўжо фон Сцюбен, а будаваў наш зямляк. У 1927 годзе ўзведзены помнік (скульптар Тэа Руглес Кітсан) на Паблік Гардэнс у Бостане, у штаце Масачусетс, на атлантычным узбярэжжы, на паўночным усходзе ЗША. Стаіць помнік у парку імя Тадэвуша Касцюшкі горада Мілуокі ў штаце Вісконсін. У горадзе-мільянеры Чыкага, што ў штаце Ілінойс, на Салідарыці-драйв, з перспектываю на возера Мічыган, высіцца конны помнік. Ёсць манумент і ў Уільямс парку, у адным з трох Санкт-Пецярбургаў, назвы якіх прамаўляюцца як Сэнт Пітэрсберг, што на поўдні краіны ў штаце Фларыда.

Ёсць меркаванне, што амерыканцы — адносна маладая нацыя, а таму ахвотна дублявалі еўрапейскія найменні, старанна «навёрствалі» і старылі сваю гісторыю. Дбайна рэстауруюць яны гістарычныя будынкі, штосьці прывозяць з іншых кантынентаў або робяць дакладныя копіі, рупліва ўсталёўваюць помнікі і манументы, ахвотна прымаюць іх у дар як знакамітую статую Свабоды.

Заканамерна, што і ў Філадэльфіі (Philadelphia), у колішняй сталіцы паўночнаамерыканскіх штатаў, у калысцы амерыканскай дзяржаўнасці і амерыканскай дэмакратыі, у горадзе, дзе былі абвешчаны Дэкларацыя незалежнасці, а потым і Канстытуцыя, дзе быў падпісаны Біль аб правах, да 200-годдзя незалежнасці Злучаных Штатаў на перакрыжаванні Бенджамін Франклін Парквэй і 18-й стрыт быў усталяваны помнік Тадэвушу Касцюшку скульптара Мар'яна Канечнага як дар польскага народа народу амерыканскаму.

Аказваецца, і гэтага мала! Пенсільванія ўшанавала змагара за амерыканскую незалежнасць і дэмакратыю помнікам і ў горадзе Скрэнтан!

На жаль, звестак пра яго і самой выявы не здолеў адшукаць я ні ў даведніках, ні ў свабоднай энцыклапедыі «Вікіпедыя», ні на сайтах «Бацькаўшчыны» і «Спадчыны». Затое штосьці ўведала на маю просьбу Алеся.

Помнік стаіць на плошчы Картхаўс (Courthouse Square), а на пастаменце выбіты надпіс: «General Thaddeus Kosciuszko Born Feb. 4. 1746 Died Oct 15. 1817.»

Астатні тэкст падаю ў перакладзе з англійскай:

«Гэтым помнікам у 1998 годзе ўганараваны польскі эмігрант, генерал Касцюшка, вядомы як бацька амерыканскай вайсковай інжынерыі пасля праектавання шматлікіх фартэцый падчас Амерыканскай рэвалюцыі.

Помнік Касцюшку ўганароўвае першага замежнага вайсковага афіцэра, які прыйшоў на дапамогу ЗША падчас рэвалюцыі. Брыгадны генерал Касцюшка праявіў вайсковае інжынернае геройства поруч з умельствам планаваць і вызначаць ход бітвы пад Саратогаю, якая вызначыла яму імя «Бацькі амерыканскай артылерыі».

Ён таксама знаны праектаваннем фартэцый у Вест-Пойнце».

Часам праслізгвае інфармацыя пра помнікі нібыта ў Кліўлендзе, штат Агайё, на паўднёвым беразе возера Эры, і ў Дэтройце (дарэчы, пабрацімe Мінска!), штат Мічыган, але, зноў жа, інфармацыя тая вельмі няпэўная.

Большасць з названых манументаў пастаўлены намаганнямі і коштам польскай дыяспары і ўзвышаюцца ў вельмі выйгрышных, даступных шырокай публіцы месцах.

Амерыканцы не супыняюцца — усталёўваюць усё новыя манументы. І калі вашынгтонскаму ўжо больш за сто гадоў, дык скрэнтанаўскаму — усяго пятнаццаць.

А як ушаноўвае помнікамі свайго слаўнага сына, які лічыў і называў сябе літвінам, Беларусь?

Біёграфы дагэтуль спрачаюцца, дзе нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка з сёмага калена Касцюшкаў Сяхновіцкіх, герба «Рох-III», сын каталіка Людвіка Тадэвуша Касцюшкі і уніяткі Тэклі з Ратомскіх. Адны аддаюць права першародства маёнтку Мерачоўшчына колішняга Слонімскага павета, другія — вёсачцы Сяхновічы Малыя, што ў трох кіламетрах ад Косава.

З адносна нядаўняга часу, з 1988 года, перад будынкам Сяхновіцкай школкі стаяў адзіны помнік, пагрудная бетонная выява вышынёю 1,2 метра, выробленая яшчэ ў 1932 годзе скульптаркай Бальбінай (Альбінай) Свіціч-Відацкай і ўсталяваная ў Кобрыне. Аднак твор той цяжка аднесці да высокамастацкіх, дый хто яго бачыў у маленькай вёсачцы! Жорсткая іронія лёсу і ў тым, што доўгі час помнік той захоўваўся ў запасніках музея… Аляксандра Суворава, заўсёднага антаганіста Касцюшкі, вернага служкі імперыі, карніка, які выразаў палову Кобрынскага павету! (Мабыць, ніводная краіна, акрамя Беларусі, так шырока не ўшаноўвае сваіх акупантаў! Цяжка ўявіць, каб у суседняй Польшчы высіўся манумент душыцеля вызвольных паўстанняў!) Паспеў ён пабыць, як і ягоны правобраз, і ў вязніцы — у казематах Брэсцкай крэпасці, бо быў перададзены на захоўванне ў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей.

Вельмі хораша, што ў 2005 годзе ў нашай сталіцы з'явіўся масянжовы бюст Тадэвуша Касцюшкі, які вырабіў Алесь Шатэрнік. Але і яго пабачыць няпроста — дзеля гэтага трэба патрапіць за мураваны паркан, на тэрыторыю амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі, што на рагу вуліц Камуністычная і Старавіленская з афіцыйным адрасам: Старавіленская, 46. А як файна было б вынесці помнік на вуліцу на агляд люду паспалітаму дый перайменаваць вуліцу тую з Камуністычнай у вуліцу Тадэвуша Касцюшкі! Польская амбасада пазалетась адмовілася ад выгоднага, прапанаванага ёй будынка толькі таму, што мясціўся ён на вуліцы Камуністычнай!

Каб пабачыць пласкасную скульптуру, усталяваную да 190-годдзя з дня смерці героя, спатрэбіцца выправіцца ў Старыя Дарогі, на панадворак прыватнага мастацкага музея. Яе аўтары Алесь Цыркуноў і Анатоль Крывенка, а кіраўнік праекта Анатоль, на вялікі жаль, ужо нябожчык, і Міхаіл Белыя.

Аддаць даніну памяці генералу можна таксама каля памятнага знака ў Мерачоўшчыне ці пры валуне з выбітым на ім надпісе «Cieniom Kosciuszki» на сядзібе Агінскіх у Залессі, што на Маладзечаншчыне.

Але хочацца верыць, што прычакаем часу, калі зможам сфатаграфавацца, скажам, у Брэсце, пры паўнавартасным — у поўны рост ці нават пры конным — помніку нашаму славутаму суайчынніку дый адасласць тыя здымкі праз акіян сваякам і прыяцелям.

4 лютага 2013 года,
у дзень нараджэння
Тадэвуша Касцюшкі

ПОВЯЗЬ

# «ПЕСНЯ БЕЛАРУСКІХ ЖАЎНЕРАЎ 1794 ГОДА»: ПРАБЛЕМА РЭЦЭПЦЫІ

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Касцюшкаўскі паэтычны цыкл канца XVIII–пачатку XIX стагоддзяў узбагачаецца такім каларытным і загадкавым творам, як «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года». Гэта — ананімны тэкст, які, паводле каментарыяў да «Анталогіі беларускай паэзіі» (1993), мае ўкраінскі і польскі аналагі.**

Складаны яго лёс. Прафесар Адам Мальдзіс сведчыў: «У верасні 1935 года, у сувязі з VI з'ездам польскіх гісторыкаў, бібліятэка Віленскага ўніверсітэта арганізавала выстаўку, прысвечаную мінуламу літоўска-беларускіх земляў. Адзін з арганізатараў выстаўкі, вядомы калекцыянер Міхал Бранштэйн, у якасці аднаго з найбольш рэдкіх экспанатаў назваў рукапіс невядомай «Песні беларускіх жаўнераў» з 1794 года. Аднак сам тэкст твора ні тады, ні пазней апублікаваны не быў, а сляды яго згубіліся» («З літаратуразнаўчых вандраванняў», 1987). А. Мальдзісу з дапамогай Генадзя Кісялёва ўдалося патрапіць на след і адшукаць рукапіс «Песні...» у 21-м фондзе аддзела рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР. Гэта чатыры старонкі створанага лацінскай графікай рукапіснага тэксту, як вызначыў А. Мальдзіс, з яўнымі арфаграфічнымі прыкметамі XVIII ст.

Ідэалагемы савецкага часу, тагачасная метадалогія абумовілі некаторыя моманты тэндэнцыйнасці пры аналізе паважанага даследчыка. Нягледзячы на сцвярджэнне аб патрыятычным і антыімперыялістычным характары песні, А. Мальдзіс, падвяргаючы крытыцы і недарэчным з пазіцый сённяшняга дня нараканням, указвае на шляхецкую абмежаванасць невядомага аўтара са Слонімшчыны, які «яшчэ ўскладае вялікія спадзяванні на боскую дапамогу, на тое, што «вольнасць» беларусам дадуць паны», і «не зусім разумее розніцу паміж рускім народам і царызмам». А. Мальдзіс, ведаючы, што «прыгонным, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, Тадэвуш Касцюшка абяцаў значныя палёгкі», у другой сваёй рабоце, тым не менш, не прыдае значэння таму, што Касцюшка, аўтарытэт якога быў бясспрэчны ва ўсіх колах, у тым ліку сярод ворагаў, лічыў неабходным адмяніць прыгоннае права, стварыць грамадства вольных людзей, што знайшло адлюстраванне і ў песні:

*Вольнасць для нас паны даюць*
*І за людзей нас прызнаюць.*

Гэта адпавядае пазіцыі будучага кіраўніка паўстання: «Толькі за шляхту ваяваць не буду. Жадаю свабоды для ўсяго народа і толькі для яго гатовы ахвяраваць жыццё». А падчас абвяшчэння і разгортвання паўстання Т. Касцюшка ўрачыста прысягнуў, што нададзеную яму ўладу ён выкарыстае для «абароны нашых межаў, для аднаўлення народнага самаўладдзя і ўмацавання ўсеагульнай свабоды»: «Хачу знішчыць непрыяцеля і выканаць справядлівую волю народа. Няхай ён установіць такі ўрад, які будзе яму падабацца». Больш таго, сама шляхта не была аднaзначнай у сваіх адносінах да паўстання, бо многія лічылі Т. Касцюшку ледзь ні за рабаўніка, які прыйшоў пазбавіць іх шляхецкіх вольнасцяў.

Прысутнасць у песні яскравейшых контраргументаў тэзе аб братэрстве беларускага і расійскага народаў не дазволіла апублікаваць яе цалкам (і без цэнзурных купюр) за савецкім часам. Насамрэч песня мае перадусім выразны нацыянальна-патрыятычны беларускі пафас («Няхай Маскаль уступае, / Няхай Беларусаў знае. <...> Дамо сабе рукі ўзаем, / Бацькаўшчыну адзыскаем».) і з'яўляецца палымяным заклікам адстаяць незалежнасць Айчыны перад прускай і маскоўскай навалай («Атаманы і Казакі, / Біймы Маскву і Прусакі»). Прычым у тэксце падкрэсліваецца антырасійскасць паўстання, ачоленага Т. Касцюшкам («Пойдзем жыва да Касцюшкі, / Рубаць будзем Маскалюшкі»).

Прафесар Аляксей Пяткевіч бачыць у «Песні...» пэўны момант знакавасці і паказальнасці для станаўлення нацыянальнай ідэі беларусаў у агульным кантэксце паўстання 1794 г., галоўнай мэтай якога, як даволі зладжана (на погляд названага даследчыка) сцвярджаюць гісторыкі, з'яўлялася адраджэнне Рэчы Паспалітай нібыта без якіх-кольвек сепаратысцкіх імкненняў. «Аднак беларуская мова паўстанцкіх песень — вельмі важны паказчык таго, што нараджалася ў гэтым асяродку (шляхецкай інтэлегенцыі. — А. Т.) менавіта беларуская свядомасць. <...> [У «Песні...»] адлюстраваны, такім чынам, не дробныя, побытавага ўзроўню клопаты, а кардынальныя пытанні быцця беларускага народу. Ці ж не дзейнічае тут беларуская звышзадача аўтара? Пэўна, што так» (гл.: Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2005, Z. 23. S. 133-134).

Паколькі твор мае ўкраінскую ды польскую версію таксама, невядомы аўтар у дадзеным выпадку свядома выкарыстоўвае беларускую (не ліцвінскую і тым больш не летувіскую паводле сённяшняга катэгарыяльнага разумення) мову, дакладна ідэнтыфікуючыся на фоне суседзяў, ужо тады ўсведамляючы нацыянальную дыферэнцыяцыю ў катэгорыях Новага часу, хоць станаўленне мадэрных польскай, украінскай і беларускай нацый адбывалася не сінхронна. Беларусы ў сваім нацыянальным развіцці адставалі ад заходніх і паўднёвых суседзяў, таму так важна, што адзін з варыянтаў песні мае, кажучы словамі А. Пяткевіча, беларускую звышзадачу, — гэта паказчык мінімізацыі разрыву ў развіцці паміж суседнімі народамі, якія ў той гістарычны момант сталі пад сцягі паўстанцаў на чале з Т. Касцюшкам — прадстаўніком народа, калі можна так сказаць, будучых беларусаў.


Nuże Chłopcy, nuże żywa
Pahulaiem, maiem żniwa!
Pahulaymo! pahulaymo!
Dy Maskala waz prahnaymo


Piesnia
bielaruskich żaunierou
1794 hoda.

Woźmiem kosy dy ianczarki
Poydziem kordycę hnuć karki.
Niechay Maskal ustupaie,
Niechay Biłarusou znaie.
Uźo Mazury ich pabili
Z swaiey ziamli wyhanili
Poydziem z imi i złuczymsia
Maskwie, Niemcam niedamymsia.
Nuże Chłopcy! nuże żywa
Ciapier maiem dla nas żniwa.
Haspodź Boh nam u pomoc staieć
Naszu sławu nam wiertaieć.
Nuże żywa wy Sotniki
Wy Małoycy Dziesiatniki
Damo sabie ruki uzaiem
Baćkouszczynu adzyskaiem.



Адбітак рукапіса «Песні...» 1794 г.

Наяўнасць украінскай і польскай версій патрабуе іх дэталёвага і шматаспектнага гісторыка-кампаратывісцкага вывучэння, што дазволіла б паглыбіць усебаковы аналіз усіх трох тэкстаў. На думку польскіх даследчыкаў, «Śpiew włościan krakowiaków» складзеная кімсьці з Касцюшкавага акружэння, каб праводзіць сярод мужыкоў прапаганду з заклікамі да ўдзелу ў паўстанні; яна стала улюбёнай песенькай аддзелаў кракаўскіх касінераў. Паміж ёю і «Песняй беларускіх жаўнераў 1794 года» можна правесці паралелі. Перадусім звяртае ўвагу тоеснасць у рытміцы: абедзве песні напісаны чатырохстопным харэем, прычым кожны радок заканчваецца мужчынскай клаўзалай (характэрнай для польскамоўнай паэзіі). Не дзіўна, што цалкам супадае і лейтматыў твораў.

Відавочную зместавую пераклічку маюць многія радкі песень, што ўпершыню заўважана А. Мальдзісам. Даследчык адзначае, што «беларускі твор мае самастойны, больш абагульнены характар. У «Спеўцы кракаўскіх сялян» прыгадваюцца канкрэтныя факты і прозвішчы: бітва пры Сломніках (Рацлавіцах), яе герой Барташ Главацкі. Беларускаму селяніну гэтыя назвы і прозвішчы нічога не гаварылі б. Таму ў «Песні» месца канкрэтных рэалій занялі абагульненні» («На скрыжаванні славянскіх традыцый», 1980. С. 290). Такое адрозненне, думаецца, якраз і з'яўляецца сведчаннем стварэння беларускага варыянта «Песні» на аснове польскага.

Што датычыцца ўкраінскага варыянта, то А. Мальдзіс схіляецца да меркавання, што «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года» паслужыла ўзорам для ўкраінскай «Пісні украінців-козаків», выдадзенай асобнай лістоўкай лацінскімі літарамі і знойдзенай ім у вроцлаўскай бібліятэцы «Асалінэум». Паводле вызначэння даследчыка, паміж беларускім і ўкраінскім творамі значна большая тэкстуальная залежнасць, чым паміж беларускім і польскім; часам узнікае ўражанне, што зроблены непасрэдны пераклад (А. Мальдзіс, аднак, не бярэцца спрагназаваць, які — беларускі ці ўкраінскі тэкст «Песні...» лёг у аснову перакладу). Праўда, як дадае даследчык, у «Пісні украінців-козаків» «замест ксяндза з'яўляецца поп, упамінаюцца некаторыя ўкраінскія рэаліі» (між тым у гэтай фразе — «замест ксяндза з'яўляецца поп» — завуалявана меркаванне А. Мальдзіса, што беларускі варыянт паўстаў раней украінскага).

Такім чынам, феномен «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» дае магчымасць зрабіць пэўныя высновы і выказаць некаторыя меркаванні. Нягледзячы на тое, што паўстанне 1794 г. было агульным на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ, інсургенты выразна бачылі сваю этнічную аўтэнтычнасць і праяўлялі нацыянальную самаідэнтыфікацыю. Паказальна, што выдзялялася беларуская пасіянарная плынь, у якой бачыцца запачаткаванне ідэі беларускай нацыі. Узровень той самаідэнтыфікацыі, напэўна, не быў высокім, аднак дастатковым, каб не ігнараваць яе высокапісьменнаму аўтару «Песні...»: яна не з'яўлялася літаратурна-музычным творам з разраду «Kunst für Kunst», а мела практычны характар, а значыць, была разлічана на зусім пэўную аўдыторыю.

Паводле «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года», мэты паўстання патрыятычныя: інсургенты выступаюць супраць захопнікаў іх радзімы, разам з тым пры агульнасці падзей на польскіх і беларускіх землях няма «падладжвання» пад агульны патрыятызм у святле польскай нацыянальнай ідэі таго часу. Кіраўнік паўстання ў «Песні...» — Тадэвуш Касцюшка — успрымаецца сваім, без намёку на адчужанасць ад беларускага этнасу.

Паколькі адбітак архіўнага дакумента з «Песняй беларускіх жаўнераў 1794 года» ў Беларусі не публікаваўся, прапануем усім зацікаўленым на сваe вочы ўбачыць (гл. ілюстрацыю) рэлікт айчыннай культуры, дасланы з Вільні шаноўнай Ліляй Плыгаўкай, за што ёй — нізкі паклон.

**P.S.** Гэтай публікацыяй імкнёмся таксама нагадаць, што ў наступным годзе Беларусь і яе суседзі будуць адзначаць 220-ыя ўгодкі паўстання пад кіраўніцтвам нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі.

▸ ВОДГУКІ

# У СВЕЦЕ ЗЯМНЫХ АНЁЛАЎ

**Грамадскасць устрывожана: моладзь мала чытае. Дый ці толькі моладзь? А чаму? Адказ — не сярод людзей, а сярод кніг: цяжка кнігам ісці да нас — нядбайных, своекарыслівых, хварабліва рацыянальных, хто не жадае адраджацца праз сустрэчу з літаратурнымі вобразамі.**

Напрыканцы 2012 года да нас прыйшла кніга Івана Сычыка «Крыж пакут і надзей». Прыйшла сама: пісьменніка сярод жывых ужо няма. Да гэтага прыходу шляхетна спрычыніліся тыя, для каго любоў да блізкага — не пустое красамоўе, а праца ў імя яго: укладальнік — Лявон Валасюк, рэдактар — Мікола Сянкевіч.

Пра аўтара ў кнізе чытаем: «Сычык Іван (25.04.1954. Вёска Здзітава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці). Празаік. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Служыў у Савецкай арміі. Працаваў мастаком у Брэсцкіх вытворча-мастацкіх майстэрнях. У 1984 годзе быў прыняты ў маладзёжнае аб'яднанне Саюза мастакоў СССР. Удзельнік рэспубліканскага семінара маладых літаратараў «Іслач–90». Аўтар адзінай кнігі «За брамай маўчання» (1994). Раптоўна памёр 28.09.2001 г. Жыў у Берасці».

«Крыж пакут і надзей» пачынаецца раманам, які і даў назву кнізе. Ён паўставаў у 1983–1984 гадах, а завершаны ў 1994-м. У творы апісваецца жыццё мастакоў Брэста ў 80–90-я гады мінулага стагоддзя. Іван Сычык разам са сваімі персанажамі сцвярджае еднасць мастацтва з духоўнай сутнасцю быцця — на ўзоры галоўнага героя рамана мастака Вадзіма Андраюка.

У творы ёсць такі эпізод: адзін з персанажаў — таленавіты скульптар Іван Томіч з дапамогаю сяброў стварыў скульптурную кампазіцыю «Памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія загінулі ў Афганістане». Кожны жыхар Брэста добра знаёмы з гэтым помнікам: юны салдат нібы вызваляецца са страшэнных абдымкаў смяротнага выбуху. Апошняе імгненне яго зямнога жыцця ператвараецца ў вечнасць. Гэтага салдата ў народзе назвалі «Узарваным анёлам». У кнізе — такое апісанне помніка: «...юнак нібыта вырываецца з вогненнай скалы на волю».

Згаданая воля — гэта тая свабода, якая дапамагае адухаўлёнаму чалавеку несці па дарозе жыцця свой крыж пакутаў і надзей. Крыж родпасны таму, які давялося калісьці несці Сыну Божаму. Творчая веліч даецца Івану Томічу, Вадзіму Андраюку, іншым прадстаўленым у рамане сапраўдным мастакам — зямным анёлам. Падкрэслім: сапраўдным. Бо ў сюжэце да таго ж дзейнічаюць і прайдзісветы ад мастацтва...

Далучэнне да таямніцаў Сусвету і Узарваны анёл... Ах, як хочацца назваць сябе пабрацімам юнага героя! Хочацца... Але можа быць, я — брат не гэтаму анёлу, а д'ябальскаму набрыдзі-полымю, якое ахутвае салдата-пакутніка? Іван Сычык... Яму ж, калі ён над раманам працаваў, было не намнога больш за трыццаць... Скуль у маладым сэрцы — такія глыбіні ўсясветнага болю за людскасць?

А глыбіні гэтыя ў Сычыка — насамрэч велічныя да трагічнасці. У наступным рамане




— «Покліч бездані» (1995) Боскі боль вядзе пісьменніка ў свет зусім да іншых анёлаў, пра якіх «Біблейская энцыклапедыя» распавядае: «Але апроч свету анёльскага ёсць таксама свет злых духаў. Гэта анёлы, якія не захавалі сваёй годнасці. Пра іх скажам: д'ябал, сатана, бес». Галоўны персанаж рамана «Покліч бездані» — таксама мастак: малады чалавек (яму дваццаць пяць гадоў) Алесь Касюк. На нашых вачах ад высакародных творчых задумак, ад чыстай любові Алесь саслізгвае ў апраметную карыслівасці і нахабства...

Бог пакараў анёла, які не захаваў сваёй годнасці, пеклам на зямлі — турмою. Не дзяржава, а менавіта Бог: таму і ўзносіць свае просьбы былы анёл зямны да Усявашняга. Не здолеў Алесь несці крыж пакут і надзей...

А я? А ты? А мы? Пытанні нараджаюцца ў душы, і нікуды ад іх нам не схавацца. «Узарваны Анёл» Івана Тоніча і яго аднадумцаў не маўчыць, пытаецца, чакае...

Алесь апынаецца сярод прапойцаў і злачынцаў. І заўважае: кожная з сённяшніх пачвараў бездані была калісь носьбітам анёльскай чысціні. Бездань прыйшла потым... Што ні чалавек — то свая гісторыя (не заўсёды пераможная!) змагання з грахом. Жыццё... Адчуваю з трывогаю, нават са страхам: не я чытаю раман Івана Сычыка, а раман чытае мяне. Вядзе да маіх рэальных знаёмых...

Дык якая ж моца дапамагае чалавеку берагчы годнасць? У кнізе яна выразна сябе праяўляе: гэта — каханне. Пра гэтую моцу — аповесць Івана Сычыка з пранізлівай назваю «Бацькаўшчына» (1991 год). Як часта гучыць каханне — слова, ды як зрэдку дастаецца чалавеку ажыццявіць любоў — справу! Велічная драматургія кахання ў адных душах нараджае святло, у другіх — цемру. Шмат малітваў узносім мы, закаханыя, да Бога, але ці ўсе з іх прасякнуты міласэрнасцю?

Вось малітва сялянская жанчына Пелагея з «Бацькаўшчыны»:

– Пакарай іх, Божа! Пакарай!!! — яна нешта шаптала. І момантамі спынялася, зноў хрысцілася. Алеся глядзела на колкія мокрыя матчыны вочы і думала: «Што ў душы яе?.. Ад якой нелюбові пакутуе яна? За што злавацца так на суседзяў?».

«Ключы» ад Пелагеінай нядобрай малітвы ў аповесці выказаныя. Старыя яны, як гэты свет: Ігнат калісьці стаў мужам Хрысціны, а не Пелагеі. «Трохкутнік». З таго і пайшла варажнеча суседак. А тут з часам узаемнае каханне аб'яднала іх дзяцей. Ды не бываць таму! Пелагеіна гора разбіла шчаслівыя надзеі маладых: разышліся Алеся і Андрэй назаўсёды.

У аповесці Івана Сычыка агульная аснова канфліктаў, у якіх сутыкаюцца паміж сабою вяскоўцы, узнімаецца над паўсядзённасцю. Аснова гэтая — прынцыпова духоўная: узыходзіць да Боскага «палюбі блізкага свайго». Яна — здольнасць адных і нездольнасць іншых годна несці крыж пакуты і надзеі. Бацькаўшчына ў аповесці — не толькі родныя мясціны, але перш за ўсё — усясветная гармонія быцця, якой нам так не стае: Бацькаўшчына духу.

Творы Івана Сычыка — гэта ўвасобленая ў таленавітым мастацкім слове барацьба «зямных» анёлаў — годных і нягодных. Хто ж у гэтай барацьбе атрымае (ці ўжо атрымлівае) перамогу? Завяршае кнігу апавяданне «Спрадвечнае» (1990). У ім пажылы селянін Антось вырашыў узяць зямлю ў арэнду, стаць фермерам. Не ўсім такі чын даспадобы. Круціцца каля Антося хітраваты сусед Ніканор — як нячысцік. Хоча перашкодзіць. Ды спакойна бярэцца Антось працягваць спрадвечную працу сваіх дзядоў-прадзедаў на зямлі...

Не, нездарма з'явілася кніга Івана Сычыка з крыжом пакутаў і надзей. Каму ж — апроч нас — гэты крыж несці? Дык паклонімся ж выдатнаму берасцейцу, які ў сваім мастацкім слове данёс да нас трывожныя перажыванні спрадвечнага...

**Юрый ПАТАЛКОЎ**

# «СУПЛЁТ ГІСТОРЫЙ З ЖЫЦЦЯ»

**Севярын Квяткоўскі. ПАДАРУНАК ДЛЯ АДЭЛІ: проза. — Менск: Логвінаў, 2012. — 96 с.**

Персанаж і збіральнік сучаснага фальклёру, аўтар знакамітых «Фрашак да пляшкі», якія атрымалі ў 2007 годзе прэмію «Залатая літара» і ўзбагацілі не разбэшчаную ўвагай беларускую тусоўку байкамі пра сябе любімую, вытрываўшы пяцігадовы перапынак, выдаў новы літаратурны прадукт сваёй вытворчасці — кнігу апавяданняў «Падарунак для Адэлі».

Калі «Фрашкі» Севярына Квяткоўскага былі зборнікам мініапавяданняў, міні-імпрэсій і анекдотаў з жыцця, нанізаных на эсэ, то новая кніга мае класічную форму. Паводле яе гэта зборнік апавяданняў, створаных аўтарам у 1996–2006 гадах і часткова прадстаўленых публіцы на старонках блогаў і друкаваных перыёдыкі. А вось паводле зместу «Падарунак для Адэлі» цяжка ахарактарызаваць адназначна. То бок адназначна гэта не «Фрашкі-2», як меркавалі ў калялітаратурных кулуарах, хаця фірмовы іранічны тон захаваўся ў тэкстах аўтара напоўніцу. Па словах са-




мога стваральніка, кніга ўяўляе сабой «суплёт іранічных, крыху жудкаватых, але часцей забаўных гісторый з жыцця людзей, якія атачалі аўтара ці мроіліся яму на мяжы другога і трэццяга тысячагоддзяў». Менавіта гэтая трапная характарыстыка страхуе пісьменніка і засцерагае чытача ад падсвядомага імкнення да строгай ідэнтыфікацыі прататыпаў і падзей, якія сустракаюцца на старонках «Падарунка для Адэлі».

Героі і сюжэты новых апавяданняў спадара Квяткоўскага на гэты раз у значна меншай ступені патрабуюць распазнавання, бо яны найперш вынік прыгожага мастацтва, а не дасціпнай журналістыкі. Журналіст Квяткоўскі, які пісаў літаратурныя мініяцюры, ператварыўся ў медыя-пісьменніка і прапанаваў якасна новы твор, які будзе цікавы не толькі знаўцам падрабязнасцяў-акалічнасцяў, але і незаангажаванай публіцы.

Калі больш падрабязна і прадметна падыходзіць да зместу, варта адзначыць, што расповеды ў кнізе наўмысна размешчаныя аўтарам без унутранай логікі ці храналогіі, не звязаныя яны, таксама, і агульнымі героямі, але ўсё ж кніга выглядае даволі цэльнай праз тое, што манера пісьма С. Квяткоўскага шчырая і па-свойску даверальная. Чытаючы яе, складваецца ўражанне, што прысутнічаеш на сяброўскай бяседзе недзе пры святочным стале, за стойкай у бары ці ля вогнішча ў вандроўцы. І гэтая адкрытая манера наратыву аднолькава тычыцца і лірыкі кахання, і роздумаў аб невыноснай лёгкасці быцця, і «чорных» баек з «жоўтымі» разынкамі. Спадар Квяткоўскі не толькі не саромеецца, але і, цынічна перакрэсліваючы ўсе кананічныя правілы цноты, адкрываецца перад чытачом ва ўсіх сваіх праявах: і закаханым, і п'яным, і шчаслівым, і небаракам, вартым спачування. І ўсё выглядае арганічна. Напэўна таму, што галоўным героем большыні апавяданняў з'яўляецца сам аўтар і яго відавочна нясціплае, але несумненна пазітыўна-прывабнае «я».

Наогул, кніга нечым падобная на выпадкова ўзгаданыя гісторыі ці ўспаміны з нядаўняга мінулага, якое большасць чытачоў бачыла на свае вочы і някепска памятае — і гэта дадае даверу. Асабліва дакладна і тонка аўтару ўдаецца апісваць атмасферу горада — яго ходнікаў і двароў, пад'ездаў і кавярняў. Карэнны жыхар места, С. Квяткоўскі апісвае Горад з той нязмушанай шчырай любоўю і фрывольнай лёгкасцю, на якую здольныя толькі нешматлікія аўтахтоны.

Так, у аповедзе «Вільня ў канцы тунэлю» паўстае абсалютна пазнавальнай колішняя сталіца ВКЛ, а цяпер літоўскі Вільнюс, з яго вакзалам, вулкамі, дзе выпадковаму мінаку мроіцца прывідна-містычныя духі места — «скарыны, ластоўскія, луцкевічы, міцкевічы, луцэвічы, гарэцкія, тарашкевічы», якія «шпацыруюць, працуюць, ядуць, танчаць і выпіваюць». Яшчэ больш знаёмым і родным на старонках кнігі атрымліваецца Менск: хоць працяглых апісанняў яго няма, подых горада адчуваецца ці не ў кожным радку.

Імпануе і тое, што на старонках «Падарунка для Адэлі» няма ніякага маралізму, спробы навучыць, расказаць — як трэба, і таму падобных пасажаў. За тое ёсць філасофская іронія, як у апавяданні «Сяброўка прэзідэнта», містыка, як у «Сінім вакне», фантасмагарычная галавакрутная псеўдагістарычнасць, як у прыпавесці пра Міларада Павіча, і непаўторная хуліганская бессаромнасць, як у «Майскай сазе».

Цікава, што пры ўсім рэалізме апісання людзей і дэкарацыяў важным так бы мовіць архетыпам у аўтара выступае «сон». Месцамі ён сапраўдны — як у «Патаемным жаданні», а месцамі прывідны — як у «Страчанай старонцы» ці ў «Сінім вакне». Менавіта спалучэнне шэрай паўсядзённасці і рознакаляровых сноў робіць «Падарунак для Адэлі» цікавай кніжкай, якая прачытваецца хутка і пакідае хіба невялічкі прысмак шкадавання: чаму «падарунак», створаны шэсць гадоў таму, так доўга ішоў да адрасата і чаму ён не таўсцейшы ўдвая?

**Усевалад СЦЕБУРАКА**

ДРУК

# САМАІЛЮСТРАЦЫЯ: «ДЗЕЯСЛОЎ», № 63

ЛеГАЛ

**Доўгае чаканне вясны адабрала даволі шмат душэўных сіл. У звязку з гэтым чамусьці часта прыгадваўся ранні апавед Уладзіміра Караткевіча «У снягах драмае вясна»… І вось, здаецца, нарэшце (ужо звычны нам і нязводны) — «зялёны ліст, чырвоны цвет»… Альбо, як пісаў другі паэт: «дацвілі пялёсткі нечае тугі»…**




Будзем спадзявацца, што чарговая вясна ўсё ж прынясе беларусам цяпло, яснасць і сонечны настрой. А лепш бы гэта сталася дзякуючы волевыяўленню саміх беларусаў. У адрозненне ад грамадскага жыцця, у літаратуры асаблівай лютай зімнасці як бы і не назіралася. Шмат што фестывалілася, прэзентавалася, намінавалася і прэміравалася… Хоць значных і знакавых твораў, на мой погляд, так і не з'явілася з добрага дзясятка заяўленых. Зрэшты, пра тое будзе вядома з часам, ён галоўны суддзя.

Між тым выйшаў другі нумар «Дзеяслова» за гэта год. Перадтравеньскі, хоць ужо і затравела… Таму, шаноўныя творцы, — «На прастор! На шырокі прастор…»

На ўсіх хопіць паперы, чарніла, уражанняў, перажыванняў, драмаў і, хай Бог крые, канечне, трагедый зямнога жыцця… Рэдакцыя часопіса будзе чакаць вашага таленавітага плёну.

А 63-ы нумар пачынаецца публікацыяй сівамудрага нашага паэта **Рыгора Барадуліна.** Вершы, у якіх праз смутак нажытага досведу праступае аптымізм, прыперчаны душэўным гумарам ды іроніяй. Словам, чалавек ловіць сонечныя зайчыкі высокай паэзіі ў такім пашанотным узросце, і, галоўнае, гэта яму ўдаецца:

*Вецер спрабуе голас.*
*Думкай цяжэе колас.*
*Ціхае шалее асцё.*
*Смела хмялее жыццё.*
*Сціплая, маладая*
*Ісціна галадае…*

Апошнія два радкі — неўміручая класіка. Уласна мне карціць хоць калі займець ВЫБРАНАЕ Рыгора Іванавіча з усяго ім створанага. Гэткі ёмкі томік вершаў на сто — самае-самае. Думаю, гэта было б нешта кшталту сучаснага «Вянка». Але то — мае жаданні.

Далей. Калі шчыра (не для галачкі, адпіскі і агіткі), то з найбольшым задавальненнем чыталіся запісы і нататкі, якія з пэўным правам можна аднесці і да эсэістыкі, У. Някляева і А. Лукашука. Здавалася б, не проза і не паэзія, а — мастацтва. Раскатурхалі розум і ўзварухнулі душу асобныя вершы А. Спрынчан і А. Івашчанкі, падаўся вартым апавед К. Травеня і, безумоўна, заінтрыгаваў сваім пачаткам раман А. Усені…

Аднак пойдзем па парадку. Спярша пра паэзію. Яна прадстаўлена паэтамі яшчэ адносна маладога пакалення і пераважна тымі, хто практыкуе ў форматворчасці. Спробы пошукаў новага заўважныя, хоць, як для мяне, адкрыццяў там няшмат…

**Андрэй Хадановіч** шмат вандруе і не менш піша і публікуе. Што да яго выбітной вершатворчасці, то, як кажуць, звыкшы піць адмысловы напой, паступова прывыкаеш і да яго хмелю… Але, думаю, нават гурманам у гэтай справе са шматгадовым вопытам усё ж часам хочацца нечага новага, да прыкладу, апячыся якой-небудзь паленай ці першаком жытняй самагонкі… Пагадзіцеся, што вось гэткі метафарычны фразеалагізм не новы ў сучаснай і нават далёка не сучаснай паэзіі (прынамсі, помны па творчасці знаных маскоўскіх шасцідзесятнікаў, А. Вазнясенскага ў прыватнасці):

*Яна была чорнай,*
*спартыўнай,*
*халоднай,*
*як дыетычная кола з мёдам.*
*А я, бы малочны кактэйль,*
*быў белым і тлустым уродам.*
*Яна страляла вачыма цыгары*
*і падпальвала іх вачыма.*
*Што ёй ува мне спадабалася,*
*уявіць немагчыма.*
*Яна мне сказала,*
*што замужам,*
*пачаставала вішняй,*
*спыталася: «Трэцім будзеш?»*
*Я адказаў: «Трэці лішні».*

Аднак у аб'ёмнай публікацыі паэта досыць яркіх і запамінальных узораў паэзіі.

Вершы **Сержа Мінскевіча** непрыхавана фармалістычна-рацыяналізатарскага складу і ў той жа час з візуальна непрыкрытым рацыянальным адценнем. Большасць з іх, на жаль, патэнта на мастацкую вартасць па гамбургскім рахунку пакуль не заслугоўваюць. Як і гэты аднастрофны верш, прысвечаны чамусьці ўсім (?! — *ЛеГАЛ*) паэтам:

*Збіўся з тропу я, кружыць*
*прастор, —*
*Што спакмень майго верша —*
*прас? Тор?*
*Альбо слон і пагоркі, піраміды*
*і зоркі?*
*Можа, скласці тугую мне*
*на сто «Р…»*

У гэтым плане (форматворчасці) найбольшыя ўдачы спасціглі **Аксану Спрынчан** (у яе і запазычыў я назоў для свайго агляду. — *ЛеГАЛ*). За кожным яе пошукавым рашэннем прасочваецца думка і духоўна-душэўнае пачуццё. Яна не толькі будуе-творыць (для некага), але і абжывае збудаванае-створанае (сама). Таму клапоціцца як пра знешнюю прыгажосць, так і пра ўнутраную ўтульнасць твора. І жыццё там пульсуе…

*Лісце лаўлю*
*ў паветры —*
*вершы.*
*А тое,*
*што зямлі*
*кранулася —*
*проза…*

**Анатоль Івашчанка** ў сваіх вершах таксама стараецца надаць класічнай традыцыі свой дызайн і ўласную стылістыку, а заадно і пісаць сурова-негатыўную характарыстыку нашаму часу, грамадству і літаратурнаму атачэнню:

*у кожным слове тайны знак*
*краіна патанае ў снах*
*эпоха пох эпоха нах*
*эпоха плагіяту*

Напрыканцы, праўда, удакладняючы свае сумненні і перасцярогі — не пэўным адказам, а ўзмоцненым пытаннем:

*мае дарагія*
*сябры па няшчасці*
*браты па жж*
*і сёстры па асьцы*
*завіслыя ў часе*
*над прорваю ў жыцэ*
*у гэтым бяздарным*
*бязрадасным часе*
*у гэтым дасюль не закончаным*
*джазе*
*у творчым экстазе*
*лытдыбравым сказе*
*вы сёстры і брацці скажыце:*
*нашто вы марнуеце гэтыя жыцці?!*

На гэты выпад спрабуе пярэчыць яму малады паэт з Наваполацка **Уладзімір Шыпіла:**

*І ўсё ж, не на ўсё надаецца*
*спасылка,*
*Не ўсё падуладна шаблонам.*
*І рвецца знутры пламяністым*
*урыўкам*
*Імкненне парываў шалёных.*

Агулам цікавыя творчыя натуры брат і сястра **(Наталля Шыпіла)**, якія друкуюцца ў рубрыцы «Дэбют», надта ж яны падобныя, як знешне так і ўнутрана. Нейк трэба ім адстароньвацца і шукаць на глыбіні, а таксама даводзіць да большай вытанчанасці мову, стылістыку і сэнсавыя фразеалагічныя канструкцыі… Зычу ім поспеху.

Нейкім чынам, калі не да паэзіі, то да вершаванага жанру можна дадаць і напісаны адвольным верлібрам чарнагорскі дзённік **Сяргея Астраўцова** «Вайна ў Дуброўніку». Адметная рэч, са сваёй стылістыкай і няўстойлівым сюжэтам, якая змушае да роздуму і суперажывання.

Проза пачынаецца публікацыяй хрысціянска-гістарычнага рамана «Грэх» **Алеся Усені** (з далейшым працягам). Запеўка і ўступная ненавязліва-тлумачальная запіска аўтара спакушаюць да чытання і чакання глыбока-духоўных мастацкіх адкрыццяў. Рэч у першай кнізе твора вядзецца пра ідэйна-рэлігійную барацьбу іудзеяў з заваёўнікамі-рымлянамі, а заадно і з тымі сваімі супляменнікамі, якія засталіся вернымі Хрысту і хрысціянству. Ажно да сілавога ўсенароднага супрацьву… Месца дзеяння — Іудзея і Палясціна другога стагоддзя нашай эры. З суплёту інтрыг, кахання, здрады і месіянства першай часткі публікацыі рамана прабіваюцца парасткі веры, надзеі і любові, якія, відаць, ужо больш пэўна выявяцца ў наступнай кнізе. Вельмі дакладна і каларытна выпісвае аўтар побыт і культуру яўрэяў і рымлянаў, а таксама вобразы і характары асобных герояў. Адчуваецца, што пісьменніку давялося шмат перачытаць архіўнай і гістарычнай літаратуры і пераасэнсаваць Стары Запавет Бібліі, хоць, як ён загадзя і перастрахаваўся ў прадмове, палемічныя моманты для гісторыкаў-прафесіяналаў у мастацкім творы заўжды знойдуцца (вунь, раман Някляева, можна сказаць, на сучасную тэму, як прасеялі-пералапацілі!). Аднак у чым наўрад ці ўдасца папракнуць аўтара, дык гэта ў чытэльнасці твора, яго спелай мове і даступна-прывабнай стылістыцы. Ну, а наконт мастацкага пэндзля, дык вось вам лірычная цытата: «У Вірсавіі вочы, паўсходняму крыху звужаныя, былі не чорныя, не шэрыя, не зялёныя і не блакітныя. Ейныя зрэнкі, нібы выкладзеныя з рознакаляровых шкельцаў, нагадвалі старажытныя мазаікі, пасярэдзіне якіх — сонейкамі падчас зацямнення! — праменіліся бяздонныя чорныя кропачкі. Паверсе настольнікавымі мохрамі, як дзве тлустыя коскі, выгіналіся бархатныя веі... А вянец усяму — маленькі пунсовы роцік з прыпухлаю ніжняю губкаю — ну чым не бутончык ружы, гэткі ж юны, пяшчотны і злёгку вільготны ад ранішняй расы — так і хочацца прыкласціся да яго вуснамі.» Далей — цікавей, чытайце самі.

Да 80-годдзя **Уладзіміра Дамашэвіча** друкуецца яго апавяданне «Старэйшы брат», дзе прататыпам галоўнага героя прачытваецца вядомы палітык нашай найноўшай гісторыі, жыццё якога трагічна абарвалася на самым пад'ёме. Таямніцу гэтай трагедыі і спрабуе раскрыць аўтар як адну з верагодных…

Тры эскізныя навэлы **Уладзіміра Сцяпана** — заўжды з тонка прыхаваным маральным падтэкстам, лапідарнай, але дакладнай мовай — прачытваюцца натуральна і лёгка, як само наша жыццё…

Адмысловы навукова-мастацкі погляд на драматычны вырак нацыянальнай творчай інтэлігенцыі падчас няпростага выбару паміж матэрыяльным і духоўным — у апавяданні **Кастуся Травеня** «Дзень, калі загінуў Апалон».

У рубрыцы «Тэатр» публікуецца камедыя ў двух дзеях «Прывітанне ад Агрыпіны» (1999) народнага паэта Беларусі **Ніла Гілевіча.**

Эсэістыка нумара — найбольшая ўдача рэдактарскага калектыва і, вядома, саміх аўтараў, людзей вядомых у літаратуры і грамадстве, шмат у чым абазнаных, з накопленым неардынарным лёсам. Добра вядома, што шчырасць выдае аўтара, а сапраўднага творцу тым больш. **Уладзімір Някляеў** піша «Знакі прыпынку» — своеасаблівыя зноскі-спасылкі да ўласнай творчасці. Удакладняе сябе і пашырае далягляд свайго літаратурнага плёну.«Інтэлект у чалавеку для чаго заўгодна, толькі не для разумення мастацтва. Мастацтва ўвогуле не трэба разумець. Яно не для таго.» Спрэчнае выказванне ці, скажам так, пагранічнае — на мяжы сэнсу і інтуіцыі. Але менавіта такія (у піку неаспрэчным) подумкі аўтара і цікава чытаць, бо ты ўцягваешся ў іх ужо як субяседнік у дыялог.

Непадробную цікавасць выклікаюць і заўчасныя ўспаміны **Аляксандра Лукашука** «Люстрацыі наадварот». Гэта панарама партрэтаў тых людзей, на фоне якіх прайшла частка жыцця самога аўтара (людзі пакінулі гэты свет, а фон (след у душы) застаўся)…

Сюды пэўным чынам можна аднесці і афарыстычныя запісы Нобелеўскага лаўрэата **Іва Андрыча** «Знакі ўздоўж дарогі» (пераклад з сербскай Г. Навумавай). З перакладаў яшчэ адзначым навэлу 60-х гадоў літоўскага пісьменніка **Юозаса Грушаса** «Голыя выглядаюць непрыгожа» (у выдатным перакладзе **Сюзаны Паўкштэлы**) — гэткую парадыйную, абсурдную карціну савецкага ладу жыцця. Нешта тут ёсць напамінкам Оруэлавай «Фермы».

Шырока і аб'ёмна прадстаўлена літаратурная крытыка. **Эмануіл Іофе** друкуе артыкул да 110-годдзя грамадскага дзеяча і пісьменніка Платона Галавача. **Рыгор Сітніца** з болем і душэўнай шчырасцю распавядае пра нядаўна адышоўшага выбітнага мастака Сяржука Цімохава. Вельмі сур'ёзны і грунтоўны артыкул «Добры дзень, Франц Іванавіч!» (штрыхі да творчага партрэта Франца Сіўко) напісаў гамяльчанін **Іван Штэйнер.** Больш бы падобных (аргументаваных, чытэльных і нязмушаных) публікацый пра нашых сучасных паэтаў і празаікаў. Прыцягне ўвагу прыхільнікаў сучаснай літаратуры і аналітычны (з элементамі палемікі) артыкул крытыка **Сяргея Кавалёва** «Прэпараванне міфа» пра адметную з'яву канца 80-х таварыства «Тутэйшыя». Здзіўляе моцай свайго характару і сілай духу палітычны вязень беларускага рэжыму вядомы грамадскі дзеяч **Алесь Бяляцкі.** Гэтым разам ён даслаў з Бабруйскага астрогу рэцэнзію на кніжку прозы Паліны Качатковай «Матылі». Называецца яна «Роднае гняздо» (менавіта роднае і ніякае не разбуранае). Цёпла, гожа з літаратурным густам адгукаецца аўтар на дэбютную кніжку ўжо сталай пісьменніцы. Вядомы крытык **Ірына Шаўлякова** разглядае праз свае суперсучасныя літаратуразнаўчыя «прыборы начнога бачання» даўно чаканую чытачамі кніжку малой прозы Уладзіміра Сцяпана «Адна капейка» ў рэцэнзіі «Капаэйра ў сутонні». **Леанід Галубовіч** выказвае сваё меркаванне («Пра гоблінаў і халопаў»), рэцэнзуючы кнігазбораўскі том «Выбранага» Валерыя Казакова. **Ганна Навумава** рэцэнзуе («Супярэчнасці Балкан у літаратурным увасабленні») арыгінальную кнігу апавяданняў баснійца Міленкі Ергавіча «Іншала, мадонна, іншала» (пераклад С. Шупы).

Завяршае публікацыі рубрыка **«Дзеяпіс»** з анатацыяй і фотавыявамі вокладак новых кніжных выданняў.

На мой погляд, нумар атрымаўся даволі разнастайны і цікавы. Пачытаўшы, не пашкадуеце.

## ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

### ШЭКСПІР — ШКОЛЬНЫ НАСТАЎНІК?

Перад тым, як пачаць сваю тэатральную кар'еру, Уільям Шэкспір выкладаў у школе ў вёсцы Цітчфілд на поўдні Вялікабрытаніі. З такой заявай выступілі мясцовыя гісторыкі, паведамляе «The Times».

Жыхар дома, які ў часы Шэкспіра быў школай, Кен Гроўз заявіў, што многія факты ўскосна паказваюць на знаходжанне драматурга ў Цітчфілдзе. У якасці доказу ён прыводзіць вядомыя радкі пісьменніка Джона Обры, які адзначаў, што Шэкспір выкладаў у вясковай школе.

Імя Шэкспіра звязана з вёскай Цітчфілд праз прыхільніка вялікага аўтара — трэцяга графа Саўтгемптана Генры Рызлі. Яму прысвечаны дзве паэмы драматурга. У валадарства Рызлі ўваходзіла абацтва Цітчфілд, якое размешчана насупраць будынка школы.

Дырэктар Шэкспіраўскага інстытута прафесар Майкл Добсан лічыць, што Шэкспір наўрад ці правёў значны час у вёсцы. Паводле яго слоў, у Лондане брытанскі пісьменнік з'явіўся ўжо як перспектыўны драматург, а значыць, не мог доўга займацца выкладаннем у сельскай школе.

«Страчанымі гадамі» называюць перыяд жыцця Шэкспіра непасрэдна перад пачаткам яго тэатральнай кар'еры ў Лондане ў 1592 годзе. Да гэтага апошні згадкі пра жыццё пісьменніка датаваныя 1585 годам, калі ў яго нарадзіліся двайняты. Існуе мноства тэорый адносна таго, чым драматург займаўся на працягу гэтых сямі гадоў. Адны лічаць, што ён мог хавацца ад пераследу за браканьерства, іншыя — што ён працаваў у лонданскім тэатры конюхам.

Разам з тым, вёска Цітчфілд ужо прапанавала сябе ў спашукальнікі гранта Фонда латарэі для аховы культурнай спадчыны. Памер гранта складае 600 тысячаў фунтаў стэрлінгаў (920 тысячаў даляраў ЗША). На гэтыя грошы ў вёсцы плануюць арганізаваць экскурсіі па шэкспіраўскіх мясцінах, елізавецінскі тэатр, а таксама інтэрактыўную выставу.

### КНІГІ НЕ ГАРАЦЬ...

Больш за чатыры тысячы нямецкіх школ атрымалі рэпрынтныя выданні кніг, знішчаных па загадзе нацысцкага кіраўніцтва 80 гадоў назад.

«Ідэалагічна шкодная літаратура» публічна спальвалася ў масавым парадку на пляцах універсітэцкіх гарадкоў Нямеччыны 14 траўня 1933 года. У спіс выданняў, аўтары якіх «трэцім рэйхам» былі абвешчаны па-за законам, патрапілі дзясяткі тысячаў найменняў, у тым ліку творы Генрыха Мана і Бертольда Брэхта, Эрыха Марыі Рэмарка і Генрыха Гейнэ, Эрнэста Хэмінгуэя і Франца Кафкі, Джэка Лондана і Яраслава Гашака, Максіма Горкага і Уладзіміра Маякоўскага.

Правядзенне акцыі было даручана «гітлерюгенду» і Нямецкаму студэнцкаму саюзу; яе падтрымалі многія нямецкія бібліятэкі і кнігарні. Каб вогнішчы не згасалі пад даждом, а кнігі згаралі дашчэнту, іх на вачах у тысячаў людзей аблівалі бензінам. Зрэшты, знайшлася ў акцыі і «апазіцыя»: так, супрацоўнікі Нямецкай бібліятэкі ў Лейпцыгу, якая пасля былаператворана ў Нямецкую нацыянальную бібліятэку, употай ад міністэрства прапаганды «трэцяга рэйха» хавалі ў запасніках «асуджаныя» на спаленне кнігі.

Рэпрынты знішчаных нацыстамі выданняў у 2008 годзе сталі выпускацца Цэнтрам Мозэса Мендэльсона ў Патсдаме ў рамках адмысловай серыі «Бібліятэка спаленых кніг». З 120 як тамоў ужо выдадзена каля ста. Кнігі бясплатна рассылаюцца ў бібліятэкі школаў Нямеччыны; многія з твораў уваходзяць у праграму абавязковага вывучэння. Фінансавую падтрымку выпуску рэпрынтаў забяспечваюць найбуйнейшыя нямецкія выдавецтвы, міністэрствы культуры і асветы федэральных земляў.

### У АБАРОНУ АСУДЖАНЫХ

Больш за 100 пісьменнікаў, а таксама іншых дзеячаў культуры з усяго свету падпісаліся пад адкрытым лістом, адрасаваным уладам Кітая, у якім яны выступілі ў абарону свабоды слова ў КНР. Тэкст ліста апублікаваны на сайце PEN International.

Сярод аўтараў, якія падпісалі зварот, — Салман Рушдзі, Аўраам Бэн Ігешуа, Ніл Гейман, Іэн Мак'юэн, Джон Эшбэры, Маргарэт Этвуд, Пол Остэр, Андрэй Бітаў, Віктар Ерафееў, Дон Дэліла, а таксама лаўрэаты Нобелеўскай прэміі Воле Шойінка, Марыё Варгас Льёса, Надзін Гордымер, Джон Максвэл Кутзээ, Тумас Транстрэмер.

Падпісанты патрабуюць вызваліць лаўрэата Нобелеўскай прэміі міра, праваабаронцу Лю Сяобо, а таксама іншых калегаў на тэрыторыі КНР, якія знаходзяцца ў зняволенні. Ухваліўшы пашырэнне культурнага ўзаемадзеяння паміж Кітаем і іншымі краінамі, пісьменнікі адзначылі ў якасці станоўчай прыкметы прысуджэнне Нобелеўскай прэміі па літаратуры пісьменніку Мо Яню, якога, зрэшты, шраг кітайскіх дысідэнтаў вінавацію ва ўслаўленні кампартыі Кітая.

Аўтары зварота выказалі меркаванне, што «новыя галасы адных аўтараў не адмяняюць маўчанні тых, чые раты заткнуты сілай»: «Нашае патрабаванне да новых кітайскіх лідараў гучыць проста, — гаворыцца ў лісце. — Паважайце і абараняйце правы нашых калегаў і простых кітайскіх грамадзянаў на свабоду самавыяўлення. Адпусціце на волю тых, каго пасадзілі за спробу скарыстацца гэтым правам».

Зварот быў апублікаваны адначасова з 64-старонкавай справаздачай PEN International пра свабоду слова ў Кітаі, аўтары якога заклікалі кітайскія ўлады адпусціць асуджаных пісьменнікаў, журналістаў і блогераў, а таксама адмяніць цэнзуру на розных узроўнях. Да справаздачы прыкладаюцца эсэ 10 кітайскіх пісьменнікаў-дысідэнтаў.

ПРЭМІІ

## РАМАН-РЭКАРДСМЭН

**Кніга брытанскай пісьменніцы Хілары Мэнтэл «Заносце целы» (Bring Up the Bodies), якая расказвае пра Томаса Кромвеля, увайшла ў шорт-ліст Жаночай літаратурнай прэміі (Women's Prize for Fiction) — адной з самых прэстыжных літаратурных прэмій у Вялікабрытаніі.**

У 2012 годзе Мэнтэл стала лаўрэатам брытанскага «Букера» (The Man Booker Prize) і Costa Book Award. Калі яе ўзнагародзяць і Women's Prize for Fiction, яна стане першым аўтарам, які атрымаў усе тры галоўныя брытанскія літаратурныя прэміі.

Раман «Заносце целы» — другая кніга ў трылогіі Мэнтэл пра Томаса Кромвеля, царадворца Генрыха VIII. За абедзьве часткі трылогіі Мэнтэл атрымала Букераўскую прэмію, стаўшы першай жанчынай, якая была двойчы ўганаравана гэтай прэстыжнай прэміяй.

Прэмія Women's Prize for Fiction уручаецца з 1996 года за найлепшы раман, напісаны жанчынай. Намінаванай можа быць любая пісьменніца, якая напісала кнігу па-ангельску, незалежна ад яе грамадзянства, месца пражывання і ўзросту.

Цырымонія ўзнагароджання пройдзе ў Лондане 5 чэрвеня.

## ПРЭМІЯ СЕРВАНТЭСА

**Гішпанскі пісьменнік Хасэ Мануэль Кабальера Бональд атрымаў прэмію Мігеля дэ Сервантэса з рук спадчыннага прынца Гішпаніі Феліпэ ў аўдыторыі ўніверсітэта Алькала-дэ-Энарэс.**



Прэмію, грашовы эквівалент якой складае 125 тысячаў еўра, традыцыйна ўручаюць аўтару, які жыве і піша на гішпанскай мове, а цырымонія ўручэння праходзіць 23 красавіка, у дзень смерці Сервантэса. Узнагароду Бональду ўручыў прынц Гішпаніі Феліпэ ў прысутнасці прэм'ер-міністра краіны Марыяна Рахоя, міністра адукацыі, культуры і спорту Хасэ Ігнасіё Верта і іншых высокапастаўленых асобаў.

86-гадовы Бональд быў уганараваны прэміяй Сервантэса ў лістападзе мінулага года «за майстэрскае валоданне мовай, за плённую і паспяховую кар'еру, у якой ён змог раскрыцца ў розных жанрах, нягледзячы на тое, што асноўнай для яго была паэзія».

Кабальера Бональд нарадзіўся ў 1926 годзе. За жыццё напісаў мноства твораў і быў адзначаны шэрагам прэстыжных узнагародаў і прэмій, сярод якіх Нацыянальная прэмія ў галіне літаратуры, Нацыянальная прэмія ў галіне паэзіі, Прэмія каралевы Сафіі, а таксама Прэмія імя Федэрыка Гарсія Лоркі.

Прэмія Сервантэса, заснаваная ў 1976 годзе, лічыцца гішпанскім эквівалентам літаратурнага Нобеля. Яна прысуджаецца не за канкрэтныя творы, а за сукупнасць літаратурных дасягненняў. Сярод яе лаўрэатаў былі Борхес, Варгас Льёса, Карлас Фуэнтэс і іншыя.

## РУСКАЯ ПРЭМІЯ

**Пісьменнік з Беларусі Міхаіл Шэлехаў стаў адным з лаўрэатаў літаратурнага конкурса «Руская прэмія».**

Міхаіл Шэлехаў уганараваны трэцяй прэміяй у намінацыі «Малая проза» за зборнік «Колодец потопа. Ориентальные новеллы». У катэгорыі «Малая проза» пераможцам стаў аўтар з Украіны — журы ўзнагародзіла журналістку і перакладчыцу Мар'яну Ганчарову за аповесць «Дракон из Перкалаба». Другой прэміяй уганаравалі Кацю Каповіч з ЗША за зборнік апавяданняў «Вдвоем веселее».

Першую прэмію ў намінацыі «Буйная проза» атрымаў Уладзімір Рафеенка з Украіны за кнігу «Демон Декарта. Роман-сновиденье».

У намінацыі «Паэзія» лаўрэатам «Рускай прэміі» стаў Алег Дразмораў з Вялікабрытаніі за зборнік «Смотреть на бегемота», другое месца дасталося Вячаславу Шапавалаву з Кыргызстана (зборнік «Евроазис»), а трэцяе — Ганне Глазавай за зборнік вершаў «Для землеройки».

Міжнародны літаратурны конкурс «Руская прэмія» заснаваны ў 2005 годзе пры падтрымцы Прэзідэнцкага цэнтра Б. М. Ельцына. «Руская прэмія» прысуджаецца штогод аўтарам літаратурных твораў, напісаных на расійскай мове. У конкурсе могуць браць удзел пісьменнікі і паэты, якія жывуць у любой краіне за межамі Расійскай Федэрацыі.

## ПРЭМІЯ ІМЯ СТРУГАЦКІХ

Расійская літаратурная прэмія ў галіне фантастыкі імя братоў Стругацкіх («АБС-прэмія») змяняе статут, але працягне сваё існаванне.

«АБС-прэмія» была заснавана ў 1999 годзе. Яна ўручаецца ў двух намінацыях: за лепшы мастацкі твор у галіне фантастыкі і за лепшы крытыка-публіцыстычны твор пра фантастыку. Раней шорт-ліст узнагароды рыхтаваў Барыс Стругацкі, а лаўрэата вызначала журы. Пасля смерці Барыса Стругацкага ў 2012 годзе лёс прэміі аказаўся пад пытаннем.

Члены журы вырашылі Захаваць прэмію. Цяпер усё будзе вырашаць журы ў два этапы: шорт-ліст і выбар лаўрэата. Чакаецца, што «АБС-прэмія» будзе ўручана, як і раней, 21 чэрвеня — у дзень, роўнааддалены ад дзён нараджэння Аркадзя і Барыса Стругацкіх.

## АЎСТРЫЙСКАЯ ПРЭМІЯ

**Ірландскаму пісьменніку Джону Бэнвілу ўручылі Аўстрыйскую дзяржаўную прэмію па еўрапейскай літаратуры.**



Як паведаміла «Agence France-Presse» са спасылкай на аўстрыйскі ўрад, прэмія будзе ўручана пісьменніку ў ліпені 2013 года. Цырымонія пройдзе ў Зальцбургэ. Бэнвіл атрымае грашовы прыз у памеры 25 тысячаў еўра.

Па словах міністра культуры Аўстрыі Клаўдзії Шмід, Бэнвіл піша ў «нетрадыцыйным» стылі і «заўсёды здзіўляе сваімі тэмамі і складанымі характарамі», а таксама ўпісваецца ў традыцыю вялікіх еўрапейскіх аўтараў, узнімаючы глыбокія жыццёвыя пытанні.

67-гадовы Джон Бэнвіл з'яўляецца лаўрэатам Букераўскай прэміі, якую ён атрымаў у 2005 годзе за раман «Мора» («The Sea»).

Аўстрыйская дзяржаўная прэмія ўручаецца з 1965 года. У розныя часы яе лаўрэатамі станавіліся Станіслаў Лем, Салман Рушдзі, Мілан Кундэра, Чынгіз Айтматаў, Умбэрта Эка і іншыя.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваныя паводле інфармацыі The Times, РИА-Новости, vsiknygy.net.ua, lenta.ru, Agence France-Presse і Reuters.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 7 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Выпускныя экзамены па рускай мове і матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**11.00** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналіцкае расследаванні.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 22.00** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.30** Прыгодніцкая меладрама «Казанова» (ЗША).
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Шалапутныя нататкі».
**12.25** «Час абедаць!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Павадыр».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».
**23.00** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі. Фінал.
**00.30** Фантастычная камедыя «Дзень незалежнасці».
**02.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Дабрыдзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Эфект даміно». Расія, 2009 г.
**15.40** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Няўдачлівыя». Францыя, 2003 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Колькі ты каштуеш?». Італія - Францыя, 2005 г.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 3-я серыя.
**10.15** Час футболу.
**11.10** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.45** «Уся каралеўская рась» (Беларусь). 3-я серыя, заключная.
**13.10** Спартова-біяграфічны серыял «Хакейныя гульні» (Расія). 3-я і 4-я серыі, заключныя.
**15.05** Камедыйная меладрама (Расія).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Адборачны матч Чэмпіянату свету-2014. Фінляндыя - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Меладрама «Анёл праляцеў» (Расія).
**23.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.20** Арэна.
**00.45** Фактар сілы.
**01.15** Бокс. Чэмпіянат Еўропы. Паўфіналы.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**11.45** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Загадка для Веры».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Бацькі і дзеці».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі - спорт.
**17.40** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.45** «Крывое люстэрка».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Патруль».
**21.15** Прэм'ера. «Жыццё як песня».
**22.50** Фільм «Міраж».
**00.20** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Рускія амазонкі».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Д/ф «Скандальныя разводы».
**10.00, 23.05** М/ф «Вар'яцкі дзень».
**11.30** «На шашлыкі».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** «Сардэчна запрашаем».
**12.55, 00.15** М/ф «Сумленне».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Ганна».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф «Добры дзень, я прыехаў!».
**01.55** М/ф «Брацэнік Муна. Прадавец шчасця».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 5 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Заўчасны падарунак», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**09.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 2 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 1 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 1 серыя.
**18.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.15** Невядомая Беларусь: «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** Форум (ток-шоу).
**20.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**22.55** «Зажмурся», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**00.25** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 1 серыя.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.35** Студыя «Белсат».

## 8 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.00** Музычная прыпавесць-казка «Звычайны цуд» (СССР). 1-я і 2-я серы.
**08.25** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.35** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Камедыйная меладрама «Афоня» (СССР).
**14.00** Адмысловы рэпартаж АТН.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Вострасюжэтная меладрама «Кахаць па-руску-3. Губернатар» (Расія).
**17.30** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прыгодніцкая камедыя «Шэсць дзён, сем начэй» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Вострасюжэтны баявік «Скала» (ЗША).
**00.05** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** Прэм'ера. «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Прэм'ера. «Пра добрае старое кіно».
**13.50** «Абракадабра».
**15.00** Прэм'ера. «Папенькіны дочкі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.40** «Куб».
**18.40** «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**23.55** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм «Чалавек, які любіў заставацца сабой».

### СТВ

**06.15** «Салдаты». Серыял.
**08.00** Міс - Мінск 2013.
**08.05** Фільм «Няўдачлівыя». Францыя, 2003 г.
**09.45** «Чыстая праца».
**10.35** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Міс - Мінск 2013.
**13.45** Фільм «Белае сонца пустэльні». СССР, 1970 г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Міс - Мінск 2013.
**17.45** «Увявіце сабе».
**18.10** «Дзіўная справа».
**19.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Ілюзіяніст». ЗША - Чэхія, 2006 г.
**22.15** Міс - Мінск 2013.
**22.20** «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.35** Фільм «Дама з камеліямі». Францыя - Італія - Іспанія, 1962 г.
**01.25** «Глядзець усім!».

### 2 Беларусь

**07.10** «Неверагодныя прыгоды Дзяніса Караблёва» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**09.25** Тэлебарометр.
**09.30** Меладрама «Анёл праляцеў» (Расія).
**11.25** Наперад у мінулае.
**12.00** Тэніс. Ралан Гарос. Жанчыны.Фінал. Прамая трансляцыя.
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Рамантычная камедыя «Няня» (ЗША-Вугоршчына).
**16.40** Фантастычная камедыя «Кін-дза-дза»» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Імперыя песні. Суперфінал.
**22.10** Эксцэнтрычная камедыя «Ромі і Мішэль на сустрэчы выпускнікоў» (ЗША).
**23.55** Бокс. Чэмпіянат Еўропы. Фіналы.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Арэлі».
**08.40** Фільм «Маша» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.25** Фільм «Чужая».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Джэнтльмены поспеху». 40 гадоў пасля».
**15.15** «Па слядах таямніцы».
**16.10** Фільм «Бабіна лета» (2011 г.). 1-я серыя.
**18.00** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Белая варона».
**00.00** 1/8 фіналу Першай лігі МС КВЗ.

### НТВ

**06.35** Серыял «Злачынствы будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Бывае ж такое!».
**13.50** Вострасюжэтны серыял «Мент у законе».
**17.15** Фільм «Белы чалавек».
**19.00** Сёння.
**19.25** Фільм «Белы чалавек».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.10** Вострасюжэтны фільм «З каханнем з пекла».
**00.50** «Прамень Святла».
**01.20** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** М/ф «Волга-Волга».
**06.50** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 22.35** М/ф «Таямніца «Чорных драздоў».
**11.55** М/ф «Ганна».
**13.45** Д/ф «Зорныя трагедыі».
**15.10** Т/с «Сёстры».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.50** М/ф «Аўрора».
**00.20** М/ф «Падкідыш».
**01.30** М/ф «Брацэнік Муна 2».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, busламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 1 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 1 серыя.
**09.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**10.25** Форум (ток-шоу).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.40** «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 5 серыя.
**13.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.15** «Час гонару», серыял: 37 серыя.
**14.00** «Зажмурся», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**15.30** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Чырвоная капэла».
**16.20** «Кароль-вінароб», серыял: 6 серыя.
**17.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 23 серыя.
**17.35** «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**18.00** «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**18.45** «Малая Масква», серыял: 1 серыя.
**19.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**20.20** «Чатыры сімвалы», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Палкоўнік Кваткоўскі», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**23.20** Невядомая Беларусь: «Двое на Лысай гары», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**23.50** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 1 серыя.
**00.40** Аб'ектыў.
**00.55** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»: ч. 2.
**01.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 9 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Камедыйная меладрама «Афоня» (СССР).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.15** Музычная прыпавесць- казка «Звычайны цуд» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Анімацыйны фільм «Вольт» (ЗША).
**17.15** Заўтра - гэта мы!
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.00** Камедыйная меладрама «Шапаголік» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Трылер «Цёмная вада» (ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**12.25** Фільм «Вакзал для дваіх».
**15.00** «Як я стала багіняй».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення.
**17.20** «Форд Баярд».
**18.45** «Эстрадны кактэйль».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм’ера. Фільм «Лары Краун».
**22.50** Рамантычная камедыя «Адзін цудоўны дзень».

### ТВ

**06.10** «Салдаты». Серыял.
**07.55** Міс - Мінск 2013.
**08.00** Фільм «Ілюзіяніст». ЗША - Чэхія, 2006 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Міс - Мінск 2013.
**12.50** Фільм «Ты - мне, я - табе». СССР, 1976 г.



**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Міс - Мінск 2013.
**17.25** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Мой лепшы сябар». Францыя, 2006 г.
**22.30** Міс - Мінск 2013.
**22.35** «Якія людзі!».
**23.35** Фільм «Таямніца Обервальда». Італія - Германія(ФРГ), 1981 г.
**01.50** Дакументальны праект: «Уся праўда пра Апакаліпсіс».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Прыгодніцкі фільм «Буслянё» (Беларусь).
**08.30** Мультфільмы.
**09.20** Пазакласная гадзіна.
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Пра мастацтва.
**10.15** Фантастычная камедыя «Кін-дза-дза» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**12.40** Іранічная меладрама «З каханнем, Ліля» (Расія).
**14.40** Рамантычная камедыя «Няня-2» (ЗША-Францыя).
**16.40** Прыгодніцкі фільм «Зялёны фургон» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** Суперлата.
**20.25** Навіны надвор’я.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Псіхалагічны трылер «У цемры» (Канада).
**22.55** Спорт-кадр.
**23.35** Імперыя песні. Суперфінал.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Белая варона».
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Я цябе ніколі не забудуся».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.20** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.15** Фільм «Бабіна лета» (2011 г.). 2-я серыя.
**18.00** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Мой тата лётчык» (2013 г.).
**23.20** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі.».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.05** «Судовы дэтэктыў».
**16.10** «Выратавальнікі».
**16.40** Дэтэктыўны серыял «Масква. Цэнтральная акруга».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.45** «Жалезныя лэдзі».
**22.30** Серыял «Ліцейны».
**01.00** «Школа зласлоўя» Ток-шоў.

### МИР

**05.00** М/ф «Трактарысты».
**06.30** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Д/ф «Прыцягненне полюса».
**10.05** М/ф «Чырвоны намёт».
**12.45** М/ф «Тонкія ніткі кахання».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Т/с «Вочы Вольгі Корж».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.30** М/ф «Дэльфійскі эфект».
**23.05** М/ф «Чырвоны намёт».
**01.45** М/ф «Тонкія ніткі кахання».
**04.00** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб’ектыў.
**07.15** «Свіцязь, горад на дне возера», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**07.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.05** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.30** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм.
**09.00** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 2 серыя.
**09.30** «Эміль з Лённэбэр’і», серыял: 1 серыя.
**09.55** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 1 серыя.
**10.20** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**10.45** «Малая Масква», серыял: 1 серыя.
**11.35** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 1 серыя.
**12.00** «Палкоўнік Квяткоўскі», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**14.05** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 1 серыя.
**14.55** «Зямля абяцаная»: 4 серыя.
**15.50** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 1 серыя.
**16.30** «Праведнікі», тэлесерыял: 1 серыя.
**17.15** Без рэтушы: «Непамілаваны», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.40** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**19.25** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.50** «Бяссонная плынь», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.30** Побач з намі.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.20** Фільматэка майстроў: «Персона нон-грата», маст. фільм, 2005 г., Польшча–Расія–Італія.
**23.15** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**00.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ВЫБАРЫ

# КУДЫ ІДЗЕ БАЛГАРЫЯ?




Алег НОВІКАЎ

**Палітычны пат у Балгарыі, які склаўся пасля выбараў 13 мая, адчыняе перспектывы правым папулістам.**

Нашы штампы пра Балгарыю — балгарскія цыгарэты, ракія, танныя курорты, анекдоты пра габраўцаў — яўна патрабуюць пашырэння. У стэрэатыпны шэраг напрошваецца і перманентны палітычны крызіс, які набывае самыя фантастычныя нават на ўсходнееўрапейкія рэаліі знешнія праявы.

У Балгарыі людзі рэгулярна спальваюць сябе на знак пратэсту супраць палітыкі ўраду. За мінулую вясну было зафіксавана аж чатыры такія выпадкі. Упершыню ў ход пайшлі такія метады палітычнай барацьбы, як друк фальшывых бюлетэняў. Напярэдадні парламенцкіх выбараў 13 мая ў доме аднаго з апаратчыкаў урадавай партыі ГЕРБ («Грамадзяне за еўрапейскае развіццё Балгарыі») была знойдзена партыя «самвыдату». Паводле падлікаў адмыслоўцаў, калі б тыя бюлетэні трапілі ў выбарчыя скрыні, ГЕРБ змагла б атрымаць па выніках галасавання на 10 працэнтаў больш. Яшчэ адзін зігзаг балгарскай палітыкі: кампрамат з бюлетэнямі дапамог ГЕРБ захаваць твар. Партыя Бойка Барысава (лідар ГЕРБ) не змагла сфармаваць урад і патрабавала правесці пазатэрміновыя выбары з-за таго, што нехта хацеў дыскрэдытаваць партыю, падкінуўшы тыя фальшывыя выбарчыя бюлетэні.

Праўда, у выніку парламент не распусцілі, а ўрад Балгарыя атрымала. Проста права яго фармаваць перайшло да другой па колькасці дэпутацкай фракцыі — групы ад Балгарскай партыі сацыялістаў (БСП). Руліць краінай сацыялістам дапамогуць этнічныя туркі з партыі «Рух за правы і свабоды» (РПС). Аднак падобны фармат ураду сведчыць пра новую фазу палітычных непаразуменняў. З-за расчараваня ГЕРБ і наяўнасці ў складзе ўраду партыі туркаў лідарства ў апазіцыі пераходзіць да правай папуліцскай партыі «Атака», прапаганда якой будуецца ў тым ліку на антытурэцкіх фобіях.

Пра маштаб гэтых фобій сведчыць скандал у сакавіку, калі «Атака» патрабавала адстаўкі дырэктара балгарскага МЗС па прычыне таго, што ён слаба адрэагаваў на публікацыю ў адным з турэцкіх часопісаў карты Вялікай Турцыі. У межы той Турцыі, акрамя паўночнай Сірыі, Кіпру, Батумі, уваходзіў і поўдзень Балгарыі. Якім чынам Сафія магла перашкодзіць турэцкім нацыяналістам зрабіць тую мапу, цяжка сказаць.

Тым больш, што самі балгарскія нацыяналісты — таксама вялікія аматары гуляць у картаграфічныя фэнтэзі — маляваць мапы, на якіх Балгарыя ўключае ў сябе амаль усе Балканы: мае выхад да Эгейскага мора, кантралюе Македонію, частку румынскай Дабруджы. У прынцыпе, калісьці Балгарыя сапраўды нагадвала нешта падобнае. Пасля другой Балканскай вайны, калі сербы, грэкі і балгары разам перамаглі туркаў, Балгарыі дастаўся бераг Эгейскага мора і частка Македоніі. Аднак другая Балканская вайна і Першая сусветная паставілі крыж на праекце Вялікай Балгарыі. Адпаведна, узнікла калектыўная нацыянальная траўма, што ў 1920-я гады спарадзіла балгарскі правы радыкалізм, традыцыю якога па сутнасці працягвае «Атака». Штогод «Атака» праводзіць марш у памяць генерала Хрыста Лукава — фюрэра даваенных балгарскіх фашыстаў, якога ў 1943 годзе забілі невядомыя.

Акрамя ісламафобіі, насталгіі па Балгарыі ад Эгейскага да Чорнага мора, балгарскі нацыяналізм сілкуецца міфам пра асобную місію праваслаўных народаў. Лідар «Атакі» Воен Відэраў кажа: «Перад праваслаўным Усходам сёння стаіць фатальнае пытанне. У яго ёсць шанцы пайсці іншым шляхам, а не паводле навязанай МВФ каланіяльнай мадэлі. Адрадзіць праваслаўныя традыцыі кіравання накшталт балгарскага цара Івана ІІ, якія павінны быць звернутыя на карысць грамадства, не на заняволенне, а на паўнавартаснае развіццё кожнай асобы, якая захоўвае ў сабе вобраз і падабенства Божае».

Прыналежнасць балгараў да праваслаўя тлумачыць шматлікія актуальныя праблемы. Быццам, менавіта з-за праваслаўя на Захадзе не любяць Балгарыю. Карані такой нянавісці правадыр атакаўцаў тлумачыць так: «У праваслаўнай Расіі напрыканцы XIX стагоддзя выдаваліся законы, што апярэджвалі па сваёй дэмакратычнасці Германію і іншыя заходнія дзяржавы. І яшчэ ў 1886 годзе ўвайшоў у сілу закон аб адказнасці працадаўцаў і працоўных, у 1882 годзе забаронена дзіцячая праца, вялікія хрысціянскія святы абвешчаныя выходнымі днямі. Усё гэта, відаць, сур'ёзна напалохала еўрапейскую і амерыканскую фінансавую эліту».

Апошнімі кампанентамі ідэалогіі партыя «Атака» з'яўляецца цыганафобія, якую прынеслі ў Балгарыю скінхэды на мяжы стагоддзяў. Менавіта скінхэды і сталі першымі кадрамі створанай у 2005 годзе партыі, этымалогія назвы якой даволі цікавая.

На той момант Сідэраў — былы фатограф і журналіст (нарадзіўся ў 1956 годзе), быў уладальнікам тэлевізійнага каналу «Скат». Назва адной з праграм — «Атака» і стала назвай нованароджанай партыі. Гэта гісторыя дала падставу аматарам жартаў называць праект Сідэрава «Партыя тэлевізара». Аднак смяяліся яны нядоўга. Аказалася, што партыя з радыкальнай ксенафобскай рыторыкай сапраўды запатрабаваная ў грамадстве, якое расчаравалася ў традыцыйных палітычных сілах. Ужо на першых выбарах «Атака» атрымала 11 працэнтаў. У 2006 годзе Сідэраў змог выйсці ў другі тур выбараў прэзідэнта з 24 працэнтамі, дзе, аднак, прайграў кандыдату-сацыялісту. На выбарах 13 мая «Атака» атрымала рэкордную колькасць дэпутатаў у Народных Зборах: 23 — з 240.

Нянавісць да палітычнага істэблішменту у простых балгар сапраўды зашкальвае. Інакш бы яны наўрад ці абралі партыю, якая мае вельмі папуліцскую праграму.

Праграмны дакумент «Атакі» прапануе самыя незвычайныя дарожныя карты для выхаду з крызісу. Напрыклад, вядучы блок у праграме прысвечаны золатаздабычы. На думку аўтараў партыйнага маніфесту, калі перагледзець умовы канцэсіі руднікоў, бюджэт атрымае 3 мільярды долараў штогод. Таксама правыя выступаюць за ўстанаўленне кантролю над кантрабандай, што можа прынесці ў казну яшчэ 2 мільярды.

Гэтага, паводле калькуляцыі Сідэрава і яго партыйных эканамістаў, дастаткова, каб узняць мінімальную пенсію ў Балгарыі да 500 еўра, а мінімальны заробак — аж да тысячы. Сярод незвычайных пунктаў праграмы вызначым — «забарону на знеслаўленне Балгарыі», выхад з NATO, перагляд дамовы з Еўрасаюзам. Праўда, як было сказана вышэй, здаецца, ніхто асабліва праграмныя тэксты партый у Балгарыі не чытае. Людзі, калі галасуюць за «Атаку», кіруюцца галоўным чынам пратэстным інстынктам.

***Ці пагражае Балгарыі перспектыва стаць другой Венгрыяй, дзе пры ўладзе замацаваліся нацыянал-кансерватары? На гэта пытанне спецыяльна для НЧ адказвае балгарскі журналіст Аляксандр Тонеў:***

— Безумоўна, умовы для радыкальных правых настрояў у Балгарыі існуюць. Гэта звязана не толькі з тым, што палітычная культура фармуецца на фоне крызісу, калі людзі гатовыя ахвотна верыць якім заўгодна абяцанням палітыкаў. На маю думку, вялікую ролю тут таксама згуляў крах надзеяў, якія былі звязаныя з тым, што краіна ўступіць у Еўрасаюз — і ў нас усё будзе так, як у Еўропе. Аднак я не думаю, што «Атака» — сапраўды сур'ёзная пагроза. Самае важнае, што перад вачыма балгарскага грамадства стаіць вопыт суседняй Сербіі, дзе агрэсіўны нацыяналізм давёў краіну да шматгадовай вайны і страты Косава.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Нягледзячы на высокую даходнасць па ўкладах у нацыянальных банках, беларусы аддаюць перавагу трымаць грошы ў замежнай валюце. Насельніцтва мае вопыт, калі два гады таму яно практычна страціла свае зберажэнні з-за дэвальвацыі беларускага рубля. Плюс ёсць тэндэнцыя росту даходаў насельніцтва, тэндэнцыя актыўнай працы друкаванага станка. Тэндэнцыя на куплю замежнай валюты будзе ў бліжэйшыя месяцы ўзмацняцца. Гэта, вядома, прывядзе да пэўнай нагрузкі на валютны курс. Нацыянальны банк будзе вымушаны штучна падтрымліваць гэты курс. Альбо валютны курс будзе падаць, альбо банк яго будзе падтрымліваць.

**«Голос России» (Расія)**

Зніжэнне тавараабароту з Еўрасаюзам і Расіяй можа негатыўна адбіцца на эканоміцы краіны. Эксперты не выключаюць вяртання да крызісу 2011 года, калі беларускі рубель абясцэніўся ў тры разы. Пазбавіўшыся магчымасцяў бяспошліннага экспарту ў Еўропу растваральнікаў, Беларусь не далічыцца ў 2013 годзе мільярдаў долараў. Скараціліся таксама пастаўкі беларускай тэхнікі ў Расію. Падзенне экспарту ў сукупнасці з неабгрунтаваным павышэннем заробкаў можа балюча ўдарыць па беларускай эканоміцы, папярэджваюць эксперты.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Аб'яднанне МАЗа і КАМАЗа, пра якое вядуць перамовы кіраўнікі прадпрыемстваў, апынулася пад пагрозай з-за прэзідэнта Беларусі. Аляксандр Лукашэнка, імкнучыся паказаць, як ён клапоціцца пра краіну і народ, выгандлёўвае найлепшыя ўмовы, і такім чынам зацягвае справу. Акрамя палітычных бакаў, яго гульня мае на мэце атрыманне больш спрыяльных умоў па пастаўках нафты і газу. Як лічаць спецыялісты, для МАЗа зліццё значна важней. Калі час будзе страчаны, прадпрыемства можа проста збанкрутаваць. На ўсе роздумы застаўся максімум год.

**«MoneyJournal» (Расія)**

Калі ў залежнасці ад міжнароднай сітуацыі ЕС пачынае рознымі спосабамі ціснуць на Мінск, той заўсёды можа разлічваць на Расію. Масква ўмела гэтым карыстаецца: яна ператварыла Беларусь у сваю базу, прывозячы туды ўсё больш узбраенняў і ваеннай тэхнікі. Абедзве арміі рэгулярна адпрацоўваюць сцэнар нападу на Польшчу і краіны Балтыі. Хоць у апошні час адносіны паміж дзвюма дзяржавамі сталі халаднаватыя, Расія застаецца найважнейшым саюзнікам Беларусі, і тая, здаецца, не збіраецца адмаўляцца ад гэтага супрацоўніцтва.

**«WPolityce» (Польшча)**

Вядома, Беларусь не так важная для ЕС, як для Расіі, аднак краіны-суседкі зацікаўленыя прыцягнуць яе да еўрапейскай інтэграцыі і гатовыя на гэтым шляху зноў выпрабаваць варыянт дыялогу. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што папярэдні такі дыялог сапраўды прынёс некаторыя змены, нягледзячы на тое, што большая частка анансаваных рэформаў была імітацыяй. У дачыненні да новага дыялогу эксперты таксама кажуць, што ён будзе безвыніковы — улады Беларусі зноў толькі зробяць выгляд, што рэфармуюць эканамічную і палітычную сістэму, а на самай справе ўсё захаваюць у ранейшым выглядзе, пакольі рынак і дэмакратыя супярэчаць логіцы цяперашняй улады. У экспертным асяроддзі выказваецца меркаванне, што даклад Палецкіса — вынік дыпламатычных намаганняў афіцыйнага Мінска. Яны нагадваюць, што цяперашні дакладчык згадваецца ў плане лорда Бэла па выратаванні рэпутацыі Беларусі і прэзідэнта Лукашэнкі. Нагадаем, што ён на камерцыйнай аснове абяцаў аказаць PR-паслугі беларускім уладам.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. БУДЗЕ СВЯТА ВЫШЫВАНКІ

Група дэпутатаў ад украінскага нацыяналістычнага аб'яднання «Свабода» зарэгістравала ў Вярхоўнай радзе законапраект аб усталяванні агульнадзяржаўнага свята — «Дзень украінскай вышыванкі». Шанаваць кашулі нацыяналісты прапаноўваюць штогод у другую нядзелю мая. Дзень вышыванкі хочуць аб'яднаць з Днём маці. «У аб'яднанні двух святаў — Дня маці і Дня ўкраінскай вышыванкі — шмат сімвалічнага, — гаворыцца ў тлумачэнні да законапраекта. — Вышыванка ва ўкраінцаў заўсёды асацыюецца з маці. Менавіта маці майструе дзіцяці першую вышыванку, перадаючы яму разам з узорам украінскую душу, слова». Цяжка сказаць, як адрэагуе на прапанову парламент, большасць дэпутатаў якога складаюць прадстаўнікі Партыі рэгіёнаў. У бела-блакітных вышыванка асацыюецца хутчэй з апазіцыяй. Дэпутаты ад апазіцыйных партый, якія супрацьстаяць Партыі рэгіёнаў, часта калектыўна прыходзяць у залу пасяджэнняў апранутыя ў вышыванкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРАН. ЦЁТКА ЗАХРА ІДЗЕ Ў ПРЭЗІДЭНТЫ

21 мая ў Іране быў абвешчаны спіс кандыдатаў, дапушчаных да ўдзелу ў прызначаных на 14 чэрвеня прэзідэнцкіх выбарах. У спіс, які зацвердзіў Савет ахоўнікаў ісламскай рэвалюцыі, увайшлі 8 чалавек, хаця ўдзельнічаць у выбарах хацелі больш за 600. Аднак яны не прайшлі кастынг Савету ахоўнікаў, які вызначае ступень лаяльнасці кандыдатаў да ісламскай рэвалюцыі. Між тым, іранскае грамадства прыдумала свайго кандыдата — цётку Захру Парадыз (Zahra). Захра — герой коміксаў, які малюе адзін ананімны іранскі мастак. Паводле сюжэту, Захра Парадыз шукае свайго сына, які знік падчас антыўрадавых маніфестацый у Тэгеране ў 2009 годзе. Паралельна яна распавядае чытачам пра жыццё ў Іране. Ініцыятыва Зары пайсці ў прэзідэнты выклікала вялікі рэзананс у іранскім сектары інтэрнэту. Ужо створаны адпаведны сайт падтрымкі кандыдата http://vote4zahra.org/. Іранцы ў розных краінах актыўна выступаюць у падтрымку незвычайнага палітыка. Кампанія Захры таксама выклікала інтарэс у палітолагаў. Яны лічаць, што мадэль віртуальнага кандыдата можа быць запатрабаваная ўсімі дэмакратамі ў аўтарытарных краінах.

**Паводле французскай прэсы**

### КНДР. ЭМІГРАНТКА ВЯРНУЛАСЯ НА РАДЗІМУ



СМІ КНДР папросту шалеюць ад эмоцый. Калі верыць ім, у Паўночную Карэю добраахвотна вярнулася грамадзянка КНДР, якая раней збегла на Поўдзень. Завуць яе Ко Гён Хі. З апавядання ўцякачкі зразумела, што яна не так даўно пакінула радзіму, пакінуўшы дом, сям'ю і дзяцей. Аднак уладкавацца ў Паўднёвай Карэі ёй не ўдалося з-за ярлыка «ўцякачкі з Поўначы». Яшчэ больш, чым жудасныя норавы капіталізму, яе ўразіў побыт у Паўднёвай Карэі: «З-за велізарнай платы за навучанне паўднёвакарэйскія дзеці не ходзяць у школу, а блукаюць па вуліцах, прапаноўваючы прадаць свае органы. На вуліцах Паўднёвай Карэі поўна беспрацоўных, а ў грамадскіх месцах, уключаючы метрапалітэн, шмат бяздомных і бамжоў». Не вытрымаўшы падобных пейзажаў, Ко Гён Хі вярнулася да хаты. На радзіме ёй адразу далі кватэру (так, прынамсі, піша адзін з сайтаў КНДР). Выснова, якую зрабіла гераіня гісторыі: «Я вырашыла ўсім сэрцам падтрымліваць маршала Кім Чэн Ына, які адкрыў мне шлях новага жыцця, і прыкладаць усе свае намаганні дзеля будаўніцтва магутнай і квітнеючай сацыялістычнай дзяржавы». Цяжка сказаць, наколькі гісторыя сапраўдная, бо пасольства КНДР у Сеуле няма, а прайсці праз мяжу паміж Паўднёвай і Паўночнай Карэямі нелегальна папросту немагчыма.

**Паводле прэсы КНДР**

### ЧЭХІЯ. ЧССР МАГЛА СТАЦЬ МАНАРХІЯЙ

Чэшская грамадскасць святкуе незвычайны юбілей — 25 гадоў таму ўвесну 1988 года ў краіне, якая была сатэлітам СССР, паўстаў рух «Чэшскія дзеці». Яго заснавальнікамі былі маладыя артысты, студэнты, анархісты. Галоўнай мэтай руху было "аднаўленне ў краіне манархіі». Як гаварылася ў маніфесце руху «Вернем караля»: «Неабходна вяртанне да каралеўскага дзяржаўнага ладу, каб замацавалася поўная стабільнасць». У прынцыпе, манархія, на думку «Чэшскіх дзяцей», магла называцца «камуністычнай санархіяй». Безумоўна, гэты рух меў абсалютна іранічны характар, што выклікала ступар сярод спецслужбаў і сістэмы. Фрагменты маніфесту нават перадрукаваў цэнтральны партыйны орган «Rude Pravo» ў якасці прыколу. Гэта дало маладым апазіцыянерам магчымасць нейкі час вольна праводзіць свае сходы, якія па сутнасці былі агітацыяй за ўдзел у жнівеньскай маніфестацыі з нагоды 20-й гадавіны інтэрвенцыі войкаў Варшаўскай дамовы ў Чэхаславакію. Толькі напярэдадні акцыі пратэсту чэкісты зразумелі, што заклікі да рэстаўрацыі манархіі маюць сур'ёзную пагрозу для бяспекі. Прайшоў шэраг арыштаў «манархістаў», аднак сарваць дэманстрацыю пратэсту ў жніўні не ўдалося. Хутка «Чэшскія дзеці» падаліся ў больш сур'ёзныя праекты. Сёння яны паважныя чыноўнікі, дэпутаты або прадстаўнікі інтэлігенцыі. Між тым, усе гісторыкі прызнаюць, што без «дзяцей» не ўдалося б разварушыць грамадства і падрыхтаваць падмурак аксамітавай рэвалюцыі 1989-га.

**Паводле чэшскай прэсы**

СПАРТОВЫЯ СТРАСЦІ

# ТАТАРЫ І БАЙКОТ

*Алег НОВІКАЎ*

**Татарская грамадскасць раскалолася на прыхільнікаў і праціўнікаў байкоту правядзення сусветнай Універсіяды ў Казані.**




Сама ўніверсіяда пройдзе ў ліпені, аднак ужо зараз усе эксперты ўпэўненыя: спаборніцтвы студэнтаў стануць адной з самых знакавых падзей у гісторыі Татарстану. Па маштабнасці і значнасці Сусветная летняя Універсіяда параўнальная з Алімпійскімі гульнямі. Сусветныя летнія Універсіяды збіраюць да 10 тысяч спартсменаў са 150 краін, сярод якіх разыгрываецца больш за тры сотні медалёў.

Таму, напэўна, і сродкаў татарскія і федэральныя ўлады не шкадавалі. Для Універсіяды ў сталіцы Татарстану стварылі новую спартовую і транспартную інфраструктуры: новы футбольны стадыён, жылы раён для спартсменаў, водны палац, авіятэрмінал, чыгуначны вакзал. Нават адкрылі другую лінію метро.

Аднак стаўленне татарскай грамадскасці да ўніверсіяды неадназначнае. Адна фракцыя інтэлігенцыі вітае мерапрыемства. Другая — наадварот, заклікае да байкоту.

Групоўка актыўных прыхільнікаў байкоту знаходзіцца за мяжой. Яе лідар — Віл Мірзаянаў. У 2008 годзе яго абралі кіраўніком татарскага ўраду ў замежжы. Віл лічыць, што правядзенне ўніверсіяды ў Казані прыдумалі ў Маскве з мэтай давесці, што Татарстан легітымна належыць Расіі. Між тым, нагадвае Мірзаянаў у сваіх артыкулах, Казанскае ханства далучылі да Расіі гвалтоўна ў часы Івана Жахлівага. Таму, паводле Мірзаянава, татары падпадаюць пад існуючы ў амерыканскім праве тэрмін «зняволеныя народы». Спецыяльны закон ЗША забараняе амерыканскім грамадзянам удзел, якія могуць нанесці ўдар па незалежніцкаму руху зняволеных народаў. Калі спартовая дэлегацыя ЗША адправіцца на казанскую ўніверсіяду, усе зразумеюць гэта як прызнанне Штатамі легітымнасці расійскай акупацыі Татарстану, што, відавочна, сапсуе статус нацыяналістаў. Цяпер Мірзаянаў праводзіць бамбардзіроўку лістамі пратэсту высокапастаўленых спартовых чыноўнікаў у Вашынгтоне, заклікаючы іх трымацца духу закона пра зняволеныя народы.

Таксама за байкот выступае Мілі Меджліс Татарскага народа. Не так даўно ён распаўсюдзіў такі тэкст: «Мы звяртаемся да перадавых дэмакратычных краін, да міжнародных праваабарончых арганізацыяў не дасылаць спартсменаў і дэлегацый на наступныя студэнцкія гульні ў Казані, якія пройдуць у ліпені 2013 года. Прызнаўшы ўніверсіяду і прыняўшы ўдзел у ёй, вы надасце легітымнасць таталітарнаму рэжыму, які склаўся ў краіне. Татарстан ператвараецца ў антытэрарыстычны выпрабавальны палігон Расіі, у эксперыментальную пляцоўку дзяржаўнага тэрору ў адносінах да мусульман Расіі. Татарстан — месца, дзе груба парушаюцца правы чалавека, турмы перапоўненыя бязвінна зняволенымі людзьмі, тут праваахоўныя органы гвалцяць людзей, тут працягваецца 1937-ы год. У такім месцы павінна праводзіцца не Універсіяда, а Нюрнбергскі працэс супраць дзяржаўных злачынцаў!»

Такі эмацыйны тон выкліканы шэрагам хапуноў, якія мелі месца апошнім часам у аўтаноміі. Спецслужбы нейтралізуюць ісламскія асяродкі, якія не падпарадкоўваюцца праўладным ісламскім арганізацыям. Раней з'явілася інфармацыя, што назіраецца перадыслакацыя ісламскіх экстрэмістаў у накірунку Казані. Зразумела, што падчас падобных аперацый паліцыя асабліва не разбіраецца, хто сапраўды экстрэміст, а хто не.

Аднак большасць інтэлігентаў у Казані, здаецца, прытрымліваецца палярнай думкі адносна ідэі байкоту Універсіяды. Іх падыход добра ілюструе фрагмент з артыкулу аднаго з татарскіх культурных актывістаў. «Правядзенне Універсіяды–2013 у Казані дае шанец для татарскага народа скінуць з сябе, як старую скуру, векавыя пласты хлусні і падману пра сябе. Было б недаравальным праілкам не скарыстацца магчымасцю выступіць на сусветнай трыбуне, зафіксаваць у крыніцах масавай інфармацыі, у грамадскай свядомасці сапраўдную гісторыю татарскага народу».

З гэтым згодная самая буйная татарская нацыяналістычная арганізацыя Татарскі грамадскі цэнтр (ТГЦ). На інтэрнэт-старонцы ТГЦ можна прачытаць: «Яны (прыхільнікі байкоту) лічаць, што свята спорту не можа праводзіцца ў краіне, якая з'яўляецца па факту ўнітарнай таталітарнай дзяржавай. Апошнія патрабаванні выглядаюць дзіўнымі. Расія, вядома, не таталітарная дзяржава, якой быў СССР. Універсіяда ўжо дала велізарны штуршок для пазітыўнага іміджу Татарстана, для пазітыўнага ўспрымання татарскага народу ў свеце. Праўдзенне такога буйнога міжнароднага мерапрыемства рэзка ўмацавала пазіцыі Татарстана. І заклікі да байкоту Універсіяды ў Казані якраз вядуць да падрыву дзяржаўнасці Татарстана».

Брашура «Праўдзівая гісторыя татарскага народа», пад аўтарствам акадэміка Акадэміі навук Татарстана Мірфатыха Закіева, выдадзеная, як пазначана на тытульным лісце твору, адмыслова для "гасцей Універсіяды». Праўда, публікацыя Закіева выявіла новую праблему для аматараў прапагандаваць сапраўдную гісторыю татарскага народу і яго культуру ў рамках Універсіяды. Аказваецца, адзінай кампраміснай канцэпцыі гісторыі татарскага народу няма. Яблык разладу — удзел манголаў у этнагенезе татарскага народу. Адны лічаць, што старажытныя булгары (аўтахтонное насельніцтва тэрыторыі цяперашняга Татарстану да прыходу Батыя) далі адпор армадзе хана, захавалі ідэнтычнасць, хаця і пагадзіліся называцца татарамі. Іншыя пераканаными, што асіміляцыя булгар з боку мангола-татар мела месца, што, праўда, дае права разглядаць таго ж Батыя як татарскага героя.

Цэнтральныя і мясцовыя ўлады на гістарычныя тэксты вочы заплюшчваюць, аднак іх лаяльнасць яўна часовая. Усё сведчыць пра тое, што на нацыяналістаў, якія выказваюцца супраць байкоту, напярэдадні спаборніцтваў будуць моцна ціснуць. Так, увесну атрымаў павестку ў войска лідар моладзевай нацыяналістычнай арганізацыі «Азатлык», якая, дарэчы, падтрымала Універсіяду. Вядома, што фактычна ўсяму актыву арганізацыі адпаведныя органы параілі на час Гульняў пакінуць Казань.

Самае незвычайнае, што галоўным рухам за байкот Універсіяды ў такой сітуацыі сталі не татарскія нацыяналісты, а эколагі. Яны пачалі кампанію «Стоп універсіядзе на крыві». Ініцыятыва ўзнікла пасля таго, як казанскі гарадскі камітэт ЖКГ вырашыў цалкам (!!!) пазбавіць горад ад бадзяжных сабак шляхам іх адлову і забойства. Пасля пратэстаў эколагаў улады пагадзіліся скараціць колькасць ахвяр — з 6958 да 3332. Памяншэнне колькасці не супакоіла абаронцаў братоў меншых. Калі меркаваць па інтэрнэце, іх кампанія працягваецца, і дастаткова актыўна. Так, напрыканцы красавіка ў Парыжы прайшоў пікет, удзельнікі якога заклікалі байкатаваць казанскую антыэкалагічную ўніверсіяду. Акцыя мела вялікі рэзананс у СМІ і яўна папсавала імідж уладам Казані.

МУЗЫКА І ПАЛІТЫКА

# РЭАБІЛІТАВАЦЬ ВАГНЕРА

Алег НОВІКАЎ



**Германія адзначае 200-ю гадавіну нараджэння Рыхарда Вагнера — любімага кампазітара Гітлера.**

Сказаць пра тое, што фашысты фанацелі ад Вагнера, значыць нічога не сказаць. У нацысцкай Германіі вакол аўтара славутага «Палёту Валькірый» быў створаны сапраўдны культ. «Рыхард Вагнер стварыў «Пярсцёнак Нібелунгаў», бо верыў у нямецкі дух, і ў тое, што сёння місія немцаў... заключаецца ва ўсведамленні ўласнай гістарычнай ролі і канчатковым фармаванні нямецкай нацыі», — сцвярджаў у 1930-я гады гітлераўскі афіцыёз. Існавала нават негалоснае правіла: суправаджаць усе публічныя мерапрыемствы нацыстаў музыкай Вагнера, у прыватнасці фрагментам з оперы «Рыенцы».

Тое, што сярод фанатаў Вангера былі такія маласімпатычныя людзі, як нацысты, — яшчэ палова праблемы. Сапраўдная праблема ў тым, што Гітлер пры жыцці на кожным кроку падкрэсліваў, што творы Рыхарда Вагнера і сама постаць кампазітара натхнялі яго. Сакратарка Гітлера пасля вайны распавядала, што яе бос 160 разоў глядзеў пастаноўку «Пярсцёнка Нібелунгаў». У размовах з партайгеносе лідар Трэцяга Рэйху загадкава казаў: «Ніхто на самай справе не ведае, кім быў Вагнер». Дарэчы, Вагнер памёр 13 лютага 1883 года. Амаль роўна праз пяцьдзясят гадоў, 30 студзеня 1933 года, Гітлер быў абраны канцлерам Германіі. У нацысцкай прапагандзе гэтае супадзенне датаў успрымалася як знак. На сваё 50-годдзе Гітлер атрымаў у падарунак арыгінальныя партытуры некалькіх опер Вагнера, і, нягледзячы на пратэсты сям'і Вагнера, узяў іх з сабой у апошні шлях у берлінскі бункер увесну 1945-га.

Дададзім, што музыка Вагнера выконвалася ў канцэнтрацыйных лагерах. Таму для тых, хто перажыў нацысцкі палон, яна назаўсёды звязаная са страшным часам нацызму.

Міф пра Вагнера як духоўнага настаўніка Гітлера добра прапісаўся ў сучаснай масавай культуры. Тут свой унёсак зрабіў Галівуд. У 1942 годзе Дысней выдаў прапагандысцкі мультфільм, у якім фашыст быў намаляваны як карыкатура на героя Вагнера. На фоне яго гучаў той самы «Палёт Валькірый». У адной з камедый Вудзі Алена яго герой (як заўсёды неўротык-інтэлектуал) прызнаецца: «Калі я слухаю Вагнера, я хачу захапіць Польшчу».

Цяперашняя 200-я гадавіна нараджэння самага вялікага кампазітара праходзіць у Германіі пад нефармальным лозунгам — разбурыць вышэй згаданыя забабоны, прадставіць юбіляра як больш складаную постаць, а не як уверцюру да Гітлера. Пачаць можна з таго, што нацысты не комплексна выкарыстоўвалі музыку Вагнера для сваіх мэтаў. Інтарэс быў толькі да той часткі, якая адпавядала нацысцкім задачам: затое такія творы кампазітара, як «Трыстан і Ізольда» ці «Парсіфаль» былі праігнараваныя.

Відавочна, што нацысцкія прапагандысты не звярнулі ўвагі на такі этап біяграфіі Вагнера, як удзел у майскім паўстанні ў Дрэздэне ў 1849 годзе, падчас якога ён змагаўся на барыкадах побач з Міхаілам Бакуніным — анархістам, адным з лідараў першага Інтэрнацыянала. Замоўчваўся інтарэс маладога Рыхарда да тэорый іншага анархіста — П'ера Прудона. Нацысты хавалі, што Вагнерам захапляліся шматлікія сюррэалісты, нямецкія прагрэсіўныя пісьменнікі накшталт Генрыха Мана і іншыя ідэйныя праціўнікі нацызму. Не вельмі пасуе вобразу Вагнера як нейкага ірацыянальнага нацыяналістычнага фанатыка яго ціхае апалітычнае жыццё пры двары баварскага караля Леапольда, які зрабіў яго прыдворным кампазітарам.

Галоўны тэзіс аўтараў цяперашніх публікацый пра Вагнера: Вагнер быў чалавекам сваёй эпохі. Яго ідэйныя пазіцыі і канцэпты твораў фармаваліся пад уплывам грамадскіх трэндаў. А ў Германіі ў XIX стагоддзі такім трэндам быў рух за адзінства краіны. Таму оперы Вагнера адлюстроўваюць нацыяналістычны светапогляд, хаця іх нельга адназначна закляйміць як «нацысцкую музыку», паколькі нацыянальны рух немцаў у XIX стагоддзі меў таксама прагрэсіўнае значэнне.

Ідэя адраджэння Германіі таксама выклікала тады вялікі інтарэс да эпасу старажытных германцаў. Узнік цэлы жанр патрыятычнай літаратуры, героямі якіх былі старажытныя германцы або іх багі. Вырашыў скарыстацца гэтым прыёмам і Вагнер.

Асноўным штуршком для Вагнера сесці за славутую трылогію «Пярсцёнак Нібелунгаў» стала рэпліка французскага міністра пра тое, што рака Рэйн — ёсць прыродная мяжа паміж Францыяй і Германіяй. Замах французаў на частку Рурскай вобласці, якая знаходзіцца па той бок Рэйна, выклікаў патрыятычны ўздым у нямецкім грамадстве. У такой атмасферы і нарадзілася ідэя твору. Палітыка аказвала і пазней ціск на вагнераўскую музыку. Сучаснікі адзначалі, што пазітыўныя героі яго опер чымсьці нагадваюць Бісмарка, які жалезам і крывёю праводзіў курс на аб'яднанне Германіі.

Ніхто з аўтараў артыкулаў пра Вагнера, натуральна, не адмаўляе тое, што кампазітар сапраўды быў антысемітам. Так, Вагнер быў катэгарычна супраць таго, каб прэм'ерай яго оперы «Парсіфаль» дырыжыраваў яўрэй Герман Леві, і патрабаваў, каб Леві перад выступам хрысціўся. Цікава, што антысеміцкі памфлет Вагнера «Яўрэйства і музыка» ў Расіі знаходзіцца ў спісе забароненай экстрэмісцкай літаратуры. Аднак наколькі сістэмнымі былі вагнераўскія антысеміцкія погляды? На старонках нямецкіх часопісаў сцвярджаюць, што нелюбоў да яўрэяў была выклікана асабістым канфліктам з адным яўрэем-суседам, якому Вагнер надаў глабальны маштаб.

Калі скласці ўсю атрыманую з нямецкай культуры інфармацыю, можна зрабіць наступнае рэзюмэ. Вагнер увабраў у сябе мноства ідэй, у тым ліку часам радыкальных, аднак антысістэмным чалавекам яго назваць цяжка. У выпадку, калі нацысты сапраўды б разглядалі кампазітара як свайго ідэйнага прарока, Трэці Рэйх выглядаў як нямецкая дзяржава часоў Бісмарка з папраўкай на тое, што фюрэр павінен быць патронам музычнага мастацтва.

Што тычыцца захаплення Гітлера Вагнерам, то, на думку нямецкіх газет, тут мы маем нейкі невядомы нам псіхалагічны бзік. Сапраўды, чаму і як у Гітлера ўзнікла ідэя атаясамліваць сябе з Вагнерам і шукаць у яго творах нейкае закадаванае пасланне, ды яшчэ на свой асабісты адрас? Гісторыкі лічаць, што адказ на загадку трэба шукаць у венскім этапе біяграфіі Адольфа, калі ён як маргінал швэндаўся па аўстрыйскай сталіцы. Нейкі матыў прымусіў яго ўстанавіць кантакт з арганізаваным антысеміцкім рухам, які пазнаёміў яго з паглядамі і творамі Вагнера. Аднак што гэта быў за матыў, пакуль не вядома.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### РЭДЖЭП ЭРДАГАН



Прэм'ер Турцыі, лідар мусульманскай памяркоўнай Партыя справядлівасці і развіцця (АКР) дабіўся прыняцця ў парламенце спрэчнага законапраекта аб абмежаванні рэкламы і продажу алкаголю. Новы закон вельмі жорсткі — бары і крамы, якія гандлююць алкагольнымі напоямі, павінны знаходзіцца на дыстанцыі больш за 100 метраў ад вучэбных установаў і царкоўных аб'ектаў. Забаронена ўсялякая рэклама алкаголю, у тым ліку ў кіно і на экранах тэлевізараў (ад каналаў патрабуецца выключыць з праграмы ўсе фільмы, героі якіх п'юць). Першай ахвярай стаў адзін з асманскіх султанаў, які ўвайшоў у гісторыю таксама як аматар алкагольных напояў. Серыял пра яго прыгоды прыбралі з паказу ў самалётах кампаніі Turkish Airlines, палова акцый якой належыць дзяржаве. Абмежаваны час продажу піва і гарэлкі — з 6 раніцы да 10 вечара. Эрдаган кажа, што закон прыняты для абароны здароўя моладзі. У сваю чаргу, левая і кемалісцкая апазіцыя бачыць тут спробу гвалтоўна навязаць грамадству ісламскія этычныя нормы. Статыстыка сведчыць, што ніякай пагрозы алкаголь для Турцыі не ўяўляе: за год сярэднестатыстычны турак выпівае прыкладна паўтара літры алкаголю (у Беларусі — каля 12 літраў), а 85 працэнтаў турэцкіх грамадзян увогуле, як кажуць, не бяруць у губу.

### БУЛАТ АБІЛАЎ



Казахскі апазіцыянер Абілаў і група блогераў разгарнулі ў Казахстане незвычайную кампанію. Яе мэта — замяніць назву «Казахстан» на Казахская Рэспубліка або Казахская Арда. Іншыя варыянты назвы дзяржавы — Казахскі Каганат, Казахская Дэмакратычная Рэспубліка, Казахія. Прыхільнікі рэформы ўпэўнены: новая назва краіны павысіць імідж дзяржавы, паколькі прадстаўнікі іншых краін перастануць блытаць Казахстан з Афганістанам або Пакістанам — краінамі, якія лічацца прыкладам палітычнай нестабільнасці і эканамічнага хаосу. У выніку кампаніі адзін з папулярнай інтэрнэт-парталаў пагадзіўся правесці апытанне сярод карыстальнікаў. Ідэю пераймянавання падтрымалі толькі 25% удзельнікаў апытання. На думку большасці аматараў старой назвы, «Казахстан — гучыць горда». Таксама шматлікія юзеры раяць не марнаваць бюджэтныя грошы на непатрэбныя мерапрыемствы. Яшчэ 10% рэспандэнтаў заявілі, што, магчыма, рэбрэндынг Казахстана і прынясе карысць, але час праводзіць яго яшчэ не прыйшоў.

### БЕПЕ ГРЫЛА



Грыла — лідар італьянскага Руху пяці зорак (M5S), які нарадзіўся як альтэрнатыва ўсім традыцыйным партыям. Рух будуецца праз інтэрнэт як гарызантальная сетка і мае задачу цалкам разбурыць палітычную сістэму Італіі для стварэння пляцоўкі пад новую больш дэмакратычную мадэль. У лютым грылісты атрымалі больш за ўсіх галасоў на парламенцкіх выбарах. Аднак цяпер у Грыла пачалася чорная паласа. На муніцыпальных выбарах 27 мая M5S панёс вялікія электаральныя страты. У сярэднім за спіс галасавалі на 20–30 працэнтаў менш, чым тры месяцы таму. Фіяска выклікала вялікія грамадскія дэбаты ў Італіі. Некаторыя бачаць тут пазітыў, паколькі M5S часта грашыць папулізмам (Грыла абяцаў усім беспрацоўным па 800 еўра ў якасці штомесячнай дапамогі). Другія лічаць, што рух Грыла даваў Італіі хоць нейкі шанс на палітычнае аднаўленне, на тое, што моладзь пачне цікавіцца палітыкай. Лідару M5S прапануюць пераглядзець структуру кіравання партыяй і пагадзіцца на тактычныя часовыя блокі з іншымі партструктурамі. Сам Грыла, як і раней, упарта заклікае займацца сабатажам усяго, што робяць традыцыйныя палітычныя сілы. У прынцыпе, маючы падтрымку 10–16 працэнтаў электарату, пакуль ён можна і далей працягваць свой незвычайны эксперымент.

ЦІКАВА


Артылерыя Войска Польскага

Фота з архіва аўтара. Публікуецца ўпершыню

# ПЛАН «W». АБАРАНІЦЬ «КРЭСЫ»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У сакавіку 1921 года паміж Польшчай і Савецкай Расіяй было заключана па сутнасці доўгачасовае перамір'е. Перамога ў польска-бальшавіцкай вайне дала магчымасць палякам уключыць у склад сваёй дзяржавы тэрыторыі Заходніх Беларусі і Украіны, аднак у Варшаве разумелі, што савецкі бок не змірыцца з такім становішчам і рана ці позна паспрабуе вярнуць страчаныя тэрыторыі.**


Прэзідэнт Польшчы Масціцкі падпісвае дакументы. Варшава, 1939

## Заходняя Беларусь — тэатр вайсковых дзеянняў

У пачатку 1930-х гадоў напружанне ў двухбаковых адносінах не знікла. Да таго ж пагрозліва выглядала і ўзрастанне вайсковага патэнцыялу краіны Саветаў. Калі ў 1924 годзе колькасны склад Чырвонай Арміі быў усяго 550 тысяч чалавек, то ў 1930 годзе Чырвоная Армія ўжо налічвала 940 тысяч, а ў 1936 годзе — каля 1 мільёна 100 тысяч чалавек.

Акрамя гэтага, савецкае кіраўніцтва ўзяло накірунак на мадэрнізацыю ўласнага войска, развіццё танкавых і авіяцыйных частак. Непакоіла польскае камандаванне і тое, што бальшавікі вельмі актыўна ўзяліся за развіццё транспартнай інфраструктуры ў сваіх заходніх ускраінах. Будаваліся дарогі, масты, чыгунчныя шляхі. Толькі сляпы не мог убачыць таго, што СССР рыхтуецца да вялікага кідку на Захад.

Магчымы тэатр вайсковых дзеянняў у Заходняй Беларусі меў свае асаблівасці. Па-першае, важную ролю для боку, што абараняецца, іграў багністы і бездарожны абшар Палесся. Па-другое, тэрыторыя заходнебеларускіх ваяводстваў была багатая на лясы і пушчы, што таксама накладала свой адбітак на характар магчымай вайны. Нарэшце, па-трэцяе, варта пазначыць неразвітасць дарожнай сеткі на «крэсах». Асфальтаваных дарог амаль не было, а грунтовыя моцна залежалі ад надвор'я.

## Хто падтрымае ў выпадку вайны?

Паводле меркавання польскіх вайскоўцаў, савецкі бок, у выпадку вайны з Польшчай, будзе імкнуцца нанесці два ўдары: у беларускім напрамку на Баранавічы—Беласток—Варшаву і ў украінскім — на Львоў—Кракаў. У сярэдзіне 1930-х гадоў вайсковае кіраўніцтва Польшчы зрабіла стаўку на развіццё супрацоўніцтва з заходнімі хаўруснікамі.


AMBASADA RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ W LONDYNIE
ATTACHÉ WOJSKOWY I LOTNICZY
EMBASSY OF THE REPUBLIC OF POLAND IN LONDON
MILITARY AND AIR ATTACHÉ
№ 142/39.

23 marca 1939.
47, Portland Place, London, W.1

ŚCIŚLE TAJNE

PAN SZEF ODDZIAŁU II SZTABU GŁÓWNEGO
w Warszawie.

W sprawie: sytuacji politycznej

Melduję Panu Pułkownikowi, że ostatnio byłem kilkakrotnie wzywany do tutejszego Ministerstwa Wojny. Na podstawie rozmów w Ministerstwie, melduję co następuje :

1. Stanowisko wobec niemieckiej agresji, jest obecnie niewspółmiernie bardziej zdecydowane niż było we wrześniu ub. roku. Nie ulega wątpliwości, że kierownicze sfery wojskowe /jak i polityczne/ są zdecydowane na akcję zbrojną, w razie kontynuowania przez Niemcy polityki faktów dokonanych.

Tendencje te wynikają z przeświadczenia, że jakiekolwiek układy z Niemcami dzisiejszymi są niemożliwe, ponieważ Niemcy nie dotrzymują przyjętych na siebie zobowiązań.

2. W stosunku do Polski zmieniły się nastroje bardzo i są w chwili obecnej nadzwyczaj przychylne. Sytuacja nasza i sposób rozgrywania sprawy z Niemcami znajduje tu duże zrozumienie. Panuje tu niewątpliwe przekonanie, że zaatakowani będziemy się bili, a wartość polskiej siły zbrojnej oceniana jest bardzo dodatnio.

3. Ze spraw dotyczących bezpośrednio Polski największe zainteresowanie budzi w chwili obecnej sprawa Gdańska.

. . . . . . . . . .

Архіўны дакумент, у якім выказваецца лаяльнасць брытанцаў да Польшчы напярэдадні вайны

Яшчэ з 1921 года ў Польшчы былі добрыя адносіны з Францыяй і Вялікабрытаніяй. Партнёрскія стасункі ў Польшчы былі і з Румыніяй. У 1936 годзе Варшава і Бухарэст падпісалі тайную вайсковую канвенцыю, па якой кожная з краін была абавязаная прыйсці на дапамогу ў выпадку агрэсіі на іх з боку СССР. Такім чынам, вайсковая дактрына II Рэчы Паспалітай прадугледжвала арганізацыю на ўсходзе добра ўмацаванай абароны з перспектывай стрымаць наступленне ворага да моманту, пакуль хаўруснікі не прыйдуць на дапамогу атакаванай бальшавікамі Польшчы.

## Пяхота першай сустракае ворага

У лістападзе 1935 года генеральны інспектар узброеных сіл Польшчы Эдвард Рыдз-Сміглы вызначыў галоўныя моманты аператыўнага плану «Усход». Паводле яго, Войска Польскае на «крэсах» павінна было арганізаваць аператыўную манеўраную абарону з мэтай скаваць сілы праціўніка. Асноўную ролю пры гэтым іграла пяхота, якая контрударамі скоўвала дзеянні Чырвонай Арміі.

У сваю чаргу, кавалерыя павінна была трымаць флангі польскай абароны, а артылерыя — прыкрываць пяхоту. Польская авіяцыя, у выпадку вайны з Савецкім Саюзам, забяспечвала транспартную падтрымку польскіх частак, што абараняліся, а ў задачу ВМФ уваходзіла абарона сваіх партоў і баз ад савецкіх караблёў.

Паводле плана «Усход», мабілізацыя павінна была праходзіць у два этапы: прыхаваная і ўсеагульная. Апошняя таксама падзялялася на дзве фазы: вайсковыя адзінкі першага кідка павінны былі быць гатовыя на працягу 6 дзён, а рэзервісты другога кідка павінны былі дасягнуць ступені гатоўнасці на 12-ы дзень мабілізацыі.

## Абараніць Віленскі калідор

Польскае камандаванне мела намер выставіць супраць Чырвонай Арміі пяць аператыўных злучэнняў: «Вільня», «Баранавічы», «Палессе», «Валынь», «Падолле». Першыя тры з іх павінны былі змагацца ў Заходняй Беларусі. У склад арміі «Вільня» ўваходзілі ўсе вайсковыя часткі III Корпуснай акругі (1-я пяхотная дывізія легіёнаў, 19 і 29 пяхотныя дывізіі, Віленская, Сувальская і Падляская брыгады кавалерыі, палкі Корпусу аховы памежжа «Глыбокае», «Вілейка» і «Валожын» і паўбрыгада нацыянальнай абароны «Дзісна»).

Гэтыя часткі павінны былі абараняць Віленскі ўмацаваны ўчастак — лінію пабудаваных яшчэ немцамі ў Першую сусветную вайну і мадэрнізаваных палякамі ўмацаванняў. Найбольш моцнай групоўкай Арміі «Вільня» павінна была стаць Аператыўная група кавалерыі №1 «Паставы». У яе задачу ўваходзіла затрымаць 5-ю савецкую армію ў накірунку Глыбокае—Паставы.

## У ДАКах пад Баранавічамі

У сваю чаргу, Армія «Баранавічы» павінна былі перашкодзіць Чырвонай Арміі сходу адрэзаць сканцэнтраваныя на Поўначы часткі Арміі «Вільня», і абараніць шляхі на Гродна, Беласток і Брэст. У склад гэтай групоўкі войскаў уваходзіла 9-я, 20-я, 8-я, 28-я пяхотныя дывізіі, Навагрудская і Мазавецкая брыгады кавалерыі і полк КАП. Цалкам мабілізаваная Армія «Баранавічы» налічвала каля 100 тысяч салдат, пры падтрымцы 48 цяжкіх, 256 лёгкіх, 154 супрацьтанкавых гармат і 102 мінамётаў. Галоўную ролю ў абароне павінны былі згуляць 127 доўгатэрміновых абаронччых кропак (ДАКаў) Баранавіцкага ўмацаванага ўчастка. У раёне Дарэва і Слуцкай шашы былі пабудаваны новыя польскія ўмацаванні, у задачу якіх уваходзіла затрыманне руху савецкіх механізаваных частак.

Гарнізон ДАКаў складаўся з палка 20-й дывізіі пяхоты, спецыяльна падрыхтаванай да вядзення баявых дзеянняў у фартыфікацыйных умацаваннях. У раёне мястэчка Цырын абаранялася Навагрудская брыгада кавалерыі, а дарогу са Стоўбцаў на Навагрудак «пільнавала» Мазавецкая брыгада кавалерыі. У выпадку неабходнасці польскае камандаванне дапускала магчымасць адступлення сваіх войскаў на гэтым участку да 50 кіламетраў на Захад. Пры гэтым, важную ролю павінны былі адыграць збудаваныя на Шчары і Сервечы шлюзы, якія давалі магчымасць хутка затапіць частку тэрыторыі і затрымаць наступленне праціўніка.

Што тычыцца авіяцыі, то польскае камандаванне на гэтым участку магло разлічваць на 64 самалёты знішчальнай і вывядоўчай авіяцыі. Значную праблему складаў недахоп сродкаў супрацьпаветранай абароны. Найбольш добра забяспечанай 75-міліметровымі зянітнымі гарматамі была толькі чыгуначная станцыя ў Ваўкавыску. Паводле меркавання польскіх генералаў, трэба было ўзмацніць супрацьпаветраную абарону баранавіцкага чыгуначнага вузла.

## Балота супраць танкаў

Палессе павінна была абараняць аднайменная самастойная аператыўная група (САГ). Падраздзяленні КАП і матросы Пінскай рачной флатыліі, што ўваходзілі ў яе склад, першымі ўступалі ў бой супраць агрэсара з Усходу. Пазней, у другім кідку, на дапамогу гэтым фарміраванням павінны былі прыйсці часткі 30-й пяхотнай дывізіі, а таксама яшчэ адной рэзервовай дывізіі.

У распараджэнні САГ «Палессе» было 16 цяжкіх гармат, 100 лёгкіх, 39 супрацьтанкавых гармат і 48 мінамётаў. Улічваючы, што наступаючая Чырвоная Армія не мела магчымасці манеўраваць на забалочаных тэрыторыях палескага рэгіёну, польскіх сіл павінна было хапіць дзеля таго, каб першапачаткова затрымаць армію ўварвання. У сваю чаргу, у задачу Пінскай рачной флатыліі ўваходзіла скоўванне дзеянняў савецкай Дняпроўскай флатыліі і забеспячэнне агнявой падтрымкі сухапутных частак Войска Польскага.

***

На пачатку 1939 года Варшава зразумела, што вайна прыйдзе з Захаду. Войска Польскае пачало рыхтавацца да баявых дзеянняў з нацысцкай Германіяй, і большасць баяздольных частак польскай арміі былі перакінуты з заходнебеларускіх ваяводстваў у цэнтральную Польшчу. 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і атакавала ў Заходняй Беларусі невялікія па колькасці падраздзяленні польскіх памежнікаў і зводныя атрады польскай арміі, адступіўшыя з Захаду. Аднак нават гэтыя «недабіткі» здолелі нанесці ўрон савецкім войскам у Гродна, пад Кадзёўцамі і Шацкам. Праблемы, якія войска «першай краіны працоўных і сялян» адчула падчас «польскага паходу», у поўным маштабе нагадалі пра сябе падчас вайны ў Фінляндыі. (S)


Парад у Варшаве 3 мая 1939 года

НА СКРЫЖАВАННЯХ ЛЁСУ

# БЕЛАРУСКІ ГІСТОРЫК З ВАРШАВЫ АЛЯКСАНДРА БЕРГМАН

Сяргей ЧЫГРЫН

**У 1990-х гадах, у пошуках слядоў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, я пазнаёміўся з беларускім гісторыкам з Варшавы Аляксандрай Рыгораўнай Бергман.**



Фота з архіва аўтара

Аляксандра Бергман (справа) з Янінай Юзэфовіч — роднай сястрой Леапольда Родзевіча, 1977

## Яе ўсё цікавіла да драбніц

Максім Бурсевіч — мой зямляк, якога 9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС асудзілі да вышэйшай меры пакарання. А гісторык Аляксандра Бергман усё сваё жыццё даследавала дзейнасць дзеячаў КПЗБ і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Веры Харужай, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Леапольда Родзевіча і іншых асоб.

Таму я і звярнуўся да Аляксандры Бергман дапамагчы мне ў пошуках звестак пра майго земляка Максіма Бурсевіча. Яна не любіла пісаць вялікіх пісем, як, напрыклад, Зоська Верас ці Ларыса Геніюш. Аляксандра Рыгораўна пісала мала, але канкрэтна і ясна.

Ды і аўтографы на яе кнігах складаліся з некалькіх слоў. На кнізе «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны», якую напісалі сумесна Аляксандр Баршчэўскі, Ежы Тамашэўскі і Аляксандра Бергман, і якую яна мне даслала з Варшавы, гісторык падпісала проста: «Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa, 24.09.1992».

А яе асабістую кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984) мне ў 1992 годзе падаравала гродзенская паэтка Данута Бічэль. «Я табе, Сяргей, хачу падараваць адну добрую кнігу. У цябе такой няма. Ды і гэта твая тэма...» — сказала Данута Янаўна і ўручыла мне кнігу Аляксандры Бергман. Яшчэ адно выданне слаўнага гісторыка — «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» — мне набыць так і не ўдалося. Кніжка выйшла на польскай мове ў Варшаве ў 1977 годзе і па-беларуску ў Мінску ў 1996 годзе.

Пішучы пра дзеячаў Заходняй Беларусі, Аляксандра Бергман шукала ў Беларусі, Літве і Польшчы іх сваякоў, ездзіла да іх, перапісвалася з імі. Нядаўна ўнучка Максіма Бурсевіча — Таццяна Ігараўна Бурсевіч з Магілёва — перадала мне некалькі лістоў Аляксандры Бергман да яе бацькі Ігара Максімавіча Бурсевіча.

Чытаючы гэтыя лісты, заўважаеш, як Аляксандру Рыгораўну да драбніц усё цікавіла, кожны месяц, год жыцця Максіма Бурсевіча: дзе і чаму там быў, што рабіў, калі вярнуўся і г.д.

Дарэчы, пра Максіма Бурсевіча Аляксандра Бергман напісала два артыкулы: адзін апублікавала ў беластоцкім «Беларускім календары», другі — у тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва». Вялікі артыкул пра Максіма Бурсевіча яна ўключыла і ў сваю кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984).

## Дзве постаці

У гэтую кнігу ўвайшлі яе даследаванні пра жыццё і дзейнасць Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, а таксама артыкулы пра кампартыю Заходняй Беларусі, пра дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады і іншыя.

Распавядаючы, напрыклад, пра Ігната Дварчаніна, Аляксандра Бергман параўноўвала яго з Браніславам Тарашкевічам. Гісторык пісала: «Абодва яны надта хацелі здабыць грунтоўную адукацыю. Ці гэтае імкненне паходзіла са свядомасці недахопу ўласнай беларускай інтэлігенцыі, ці з уласцівасцей характараў — прагі ведаў: у аднаго і другога гэтае імгненне было магутнае, і яны паддаваліся яму з захапленнем. Абодва паходзілі з вёскі, з сялянскіх сем'яў. Абодва прыйшлі ў рэвалюцыйны рух у сталым узросце, з вышэйшай адукацыяй, прыйшлі з нацыянальнага лагера і перажывалі працяглую эвалюцыю светапогляду. Абодва дружылі. Хоць, праўду кажучы, Тарашкевіч быў асобай больш выдатнай і таленавітай. Час спрыяў болей Тарашкевічу. Ён пачаў сваю сеймавую кар'еру тады, калі быў сам сабе і рулём, і ветразем. Эвалюцыя яго палітычных поглядаў праходзіла «на вачах» соцень людзей. І калі б пасля яго нічога іншага не засталося, апрача адных сеймавых прамоў і іншых тагачасных сеймавых дакументаў, можна было б поўнасцю аднавіць яго постаць як грамадска-палітычнага дзеяча. Дварчанін, у адрозненне ад Тарашкевіча, прайшоў сваю эвалюцыю на чужыне, у асяроддзі малой групы беларускіх псьменнікаў у чэшскай Празе (Ігнат Дварчанін у 1921–1925 гадах вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе — С.Ч.). Таму, відаць, выказванні тых, хто яшчэ памятаў Тарашкевіча, былі адназначныя, адносна ж Дварчаніна — не такія адназначныя: адны казалі — ён быў камуністам, другія — народнікам, а яшчэ іншыя — заўсёды быў нацыяналістам...»







## Два даследчыкі

Гісторык Аляксандра Бергман, як прыгадвае доктар філалагічных навук Арсень Ліс, дакументальна сведчыць, што якраз у адзіночцы № 45 Гродзенскай турмы, куды Браніслаў Тарашкевіч быў у свой час перавезены з Варшаўскай цытадэлі ў красавіку 1931 года, ён скончыў да студзеня 1932 года пераклад шэдэўра Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і прыступіў да напісання гістарычнай граматыкі беларускай мовы.

Нядаўна я запытаўся ў спадара Ліса, як і калі яны пазнаёміліся з Аляксандрай Бергман. «Як гісторык, сумленны і ўнікнёны даследчык беларушчыны, Аляксандра Бергман заслугоўвае ўдзячнай памяці, — сказаў Арсень Сяргеевіч. — Шкадую толькі, што ўводзячы Аляксандру Бергман у «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», назваў у асноўным галоўныя яе працы, абмінуў публікацыі ёю беларускіх персаналіяў у паважных польскіх перыядычных выданнях. Што да нашых узаемадачыненняў з паважаным гістарыёграфам, то былі яны працяглыя і насілі пераважна характар ліставання, хоць былі і асабістыя сустрэчы ў Мінску і ў Варшаве. Першай зачапіла мяне сама пані Аляксандра пасля маіх першых публікацый пра Тарашкевіча. Я выказаў меркаванне, што Б. Традыцыя — гэта псеўданім Тарашкевіча, за што быў рэзкавата пакрытыкаваны дасведчанай у гісторыі КПЗБ і ў цэлым вызваленчым руху беларусаў даследчыцай. Задаваных мне пытанняў, на жаль, не помню. Трэба было б добра пакорпацца ў сотні, не меней, адрасаваных мне яе лістоў. Не маю, выбачай, такой змогі. Моцна стаптаўся напрыканцы 8-га дзясятку. Помніцца яшчэ, Аляксандра Рыгораўна не верыла, што зусім страчаны беларускі пераклад «Іліяды» Гамера, падштурхоўвала і мяне шукаць яго. Але ж ты ведаеш, што інквізітарскія кастры XX стагоддзя былі значна большыя за сярэднявечныя. Маштабы іх не паддаюцца вымярэнню. Помню, што навёў паважаную пані даследчыцу на ўзнаўленне памяці Уладзіміра Самойлы. Напісала досыць паважны пра яго нарыс. Вельмі сімпатычным быў, дарэчы, і яе муж пан Стэфан. Не памятаю ўжо ў якім польскім часопісе апублікаваў ён «Пастулаты беларускія» Браніслава Тарашкевіча, якія я не здолеў даць пры выданні выбранага з твораў нашага славутага палітыка і вучонага. Да выдання манаграфіі А. Бергман на беларускую мову я напісаў прадмову...» — расказаў Арсень Ліс.

Сапраўды, пра даследаванні Арсенем Лісам жыцця і творчасці Браніслава Тарашкевіча — маецца на ўвазе яго кніга «Браніслаў Тарашкевіч» (Мн., 1966) — Аляксандра Бергман напісала цэлы артыкул, які так і называўся «Арсень Ліс аб Браніславу Тарашкевічу» і апублікавала ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» 19 снежня 1966 года. У ім гісторык выказала свае ўхвалы і заўвагі па кнізе тады яшчэ маладога 32-гадовага даследчыка Заходняй Беларусі.

## Амаль 100 гадоў

А цяпер некалькі біяграфічных звестак пра Аляксандру Бергман (дзявочае прозвішча Кучкоўская). Нарадзілася яна 1 мая 1906 года ў Гродне ў сям'і мяшчан. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. У 1923 годзе пачала працу ў кравецкай майстэрні. У 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акружны камітэт камуністычнага саюзу моладзі. Але за тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі «Сэцэсіі» ў мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знятая з пасады сакратара загадам ЦК КСМ Заходняй Беларусі. У 1925 годзе як інструктар камсамола Заходняй Беларусі выязджала з Гродна ў Вільню, затым у Брэст, Баранавічы.

У 1927 годзе вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску. У 1928 годзе была ўдзельніцай першага з'езда КПЗБ. У 1929–1931 гадах у Маскве працавала на электразаводзе і вучылася ў Міжнароднай «ленінскай» школе, потым у партшколе КПЗБ у Мінску.

У канцы 1935 года Аляксандра Бергман была рэпрэсаваная савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў канцлагерах у Кіраве, Комі АССР, Кемераўскай вобласці. Беларуска-польскі гісторык Алена Глагоўская на гэты конт выказвае сваю думку: «Яўрэям у мінулым стагоддзі прыйшлося перажыць халакост — амаль татальнае знішчэнне нацыі. Аляксандры і Стэфану Бергманам ды іхняй дачушцы Зосі шчаслівы, можна сказаць, лёс падараваў жыццё, хаця не ў райскім шчасці, толькі ў разлуцы. Калі сёння чытаю пра кашмар лагернага жыцця сталінскіх часоў і генацыд яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны, міжволі думаю: дзе тады лепш было быць яўрэю? Аляксандра Бергман у той час была ў сібірскіх лагерах. Так, яўрэйка ды камуністка была арыштаваная ў Гомелі ў снежні 1935 года. Раней, напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі, быў арыштаваны яе муж — Стэфан, таксама камуніст. Ніхто не зважаў на тое, што ў іх было маленькае дзіця — Зося, якой у ліпені гэтага ж года споўніўся ўсяго годзік жыцця. З верай у камуністычныя ідэалы абое трапілі ў «рай». Іхнія біяграфіі — доказ таго, што і яўрэі камуністычных поглядаў не пазбеглі сталінскіх лагераў». Гэта так. Вызвалілі Аляксандру Бергман у 1943 годзе, а ў 1945 годзе яна выехала ў Польшчу.

У 1945–1948 гадах працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі, а потым пераехала ў Варшаву. Там пэўны час працавала рэферэнткай, потым — кіраўніком аддзелу просьбаў, прашэнняў, паміляванняў і датэрміновых вызваленняў у канаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі, і завочна закончыла Партыйную школу пры ЦК ПАРП.

У 1956–1957 гадах гісторык працавала ў рэдакцыі часопісу «Życie partyi». А калі перайшла на пенсію, то пачала самастойна займацца навукова-даследчыцкай дзейнасцю.

Пражыла Аляксандра Рыгораўна Бергман амаль сто гадоў, яна памерла ў 2005 годзе, пакінуўшы нам у спадчыну звыш 40 артыкулаў і дзве фундаментальныя манаграфіі — пра беларускія справы Рэчы Паспалітай і пра Браніслава Тарашкевіча. Усё, што напісана ёй пра Беларусь і яе славутых сыноў, даўно просіцца пад адну вокладку самастойнага выдання. (S)




# ШТО ПРАДСТАВІЛІ БЕЛАРУСЫ НА КАНСКІМ РЫНКУ

Андрэй РАСІНСКІ

**Канскі фестываль знакаміты не толькі сваімі паказамі, але і кінарынкам. Сёлета на кінафестывалі беларусы мелі свой кінапавільён.**

21 мая ў спецыяльнай праграме фестывалю «Куток кароткага метру» паказалі беларускія дакументальныя стужкі «Пячнік» Алы Вольскай, «Адмысловы тэатр. У пошуках шчасця» Кацярыны Махавай, «Забраны край» Юрыя Цімафеева, «Аксана Волкава. A prima vista» Наталлі Жамойдзік.

Як паведамляе сайт кінастудыі, беларускімі дакументальнымі стужкамі зацікавіўся арганізатар міжнароднага фэсту ў Аўстраліі Эдзі Тамір.

Карціна сучаснага класіка беларускага дакументальнага кіно Віктара Аслюка «Драўляны народ» прыцягнула ўвагу фестывальнікаў з Нью-Ёрку. Гэты фільм пра мастака, які выразае драўляных людзей, якімі кіруе драўляны вусач, ужо ўзяў узнагароду на фэсце хрысціянскіх фільмаў «Магніфікат», што адбываўся ў Беларусі.

Прыгоды Несцеркі, вядомыя беларускім дзецям па серыі анімацыйных стужак, былі сабраныя ў аднайменны поўнаметражны фільм. На кінастудыі спадзяюцца, што стужка трапіць на французскія тэлеканалы. А вось ігравая дзіцячая казка Алены Туравай «Рыжык у Залюстроўі» (была ў мінскім пракаце) зацікавіла фінаў.

З наведнікамі павільёну гутарка ішла і пра фільм «У тумане» — адзначаны леташняю Канскай узнагародай — і пра новую стужку «Роля» Канстанціна Лапушанскага. Апошні фільм распавядае пра акцёра, які ў часы грамадзянскай вайны заняў месца чырвонага камандзіра — і выпрашыў сыграць ягоную ролю. Як і стужка «У тумане», гэта сумесная вытворчасць, гэтым разам расійска-беларуская, скіраваная да фестывальнай публікі. Фільм ужо прыкмецілі для Маскоўскага кінафэсту.

Сучасная беларуская кінавытворчасць яшчэ вельмі сціплая. Яна амаль не заўважная не толькі ў свеце, але і ва ўласнай краіне. Такі важны форум, як Канскі фэст, падштурхоўвае, каб сціпласці было меней.

▸ КІНО

# СКАНДАЛЬНЫ СЭКС У КАНАХ

Андрэй РАСІНСКІ

**Лесбійская стужка «Жыццё Адэлі» Абдэлаціфа Кешыша атрымала «Пальмавую галіну» Канскага кінафэсту.**



Рэжысёр фільма «Жыццё Адэлі» Абдэлаціф Кешыш з актрысамі Леа Сейду і Адэль Экзаркопулос

Крытыкі таксама вылучылі фільм: прэмія ФІПРЭСІ адышла карціне пра дзяўчынак з блакітнымі валасамі і гарачымі абдымкамі (іншая назва стужкі «Блакітны — сама цёплы колер»).

«Жыццё Адэлі» — не першы фільм Канскага кінафэсту, які знітоўвае скандал і сэксуальнасць. Галоўны кінафестываль свету мае ў гэтым старанную і доўгую кінагісторыю.

У далёкім 1951 годзе яшчэ магла лічыцца скандальнай апранутая «Фрэкен Юлія» Альфа Шэберга, дзякуючы атрутным рэплікам Аўгуста Стрындберга, па класічнай п'есе якога і пастаўлены фільм. Але ўжо ў 1954 годзе з'явілася не толькі вылітая ў золаце Пальмавая галіна, што пацясніла сабой Гран-Пры: малавядомая французская старлетка Сімона Сільва здзейсніла першую Канскую сэкс-правакацыю. Дзяўчына непрыстойна агалілася перад камерай; пакуль гэта адбылося на пляжы.

У 1959 годзе цнатлівая стужка Алена Рэнэ «Хірасіма, маё каханне», хаця і не атрымала галоўны прыз, казала не толькі пра каханне, але і пра ядзерны кашмар, што заставаўся траўматычнай і забароненай тэмай.

Студэнцкія закалоты сарвалі фэст 1968 года, а плады сэксуальнай рэвалюцыі прарваліся на экран у сярэдзіне сямідзесятых. Стужка Нагісы Асімы 1976 года «Карыда кахання» не трапіла ў асноўны конкурс, але прайшла на пазаконкурсных паказах і выклікала глыбокі шок. Некаторыя нават называлі яе «лепшай эратычнай карцінай усіх часоў». У гэтым фільме, дзе меліся сцэны, што раней былі адно ў парнаграфіі, жанчына душыла свайго палюбоўніка і адразала — на буйных планах — мужчынскае начынне. Праз два гады Канскія арганізатары ўключылі ў асноўны конкурс працяг — «Імперыю жарсці», і нават далі Асіме прыз за лепшую рэжысуру, але ў фільме ўжо не было такіх шокавых сцэнаў.

Тым не менш, скрыня Пандоры была адчыненая. «Вугар» Сёхэя Імамуры 1997 года з садыстычнай сцэнай ужо быў лірыкай.

Натуралістычныя сцэны з інтымнымі часткамі целаў ужо 15 гадоў як не навіна ў конкурсных Канскіх стужках. «Ідыёты» Ларса Трыера, знятыя ў 1998 годзе, уключалі сцэну оргіі, для якой рэжысёр запрасіў порнаакцёраў. А ў ягоным «Антыхрысце» 2009 года (намінаваўся на «Пальмавую галіну») гераіня жорстка нявечыла геніталіі свае дый мужа.

Карціна Карласа Рэйгадаса «Бітва на нябёсах» (58-ы Канскі кінафэст, 2005 год) пачынаецца непрыхаванай сцэнай аральнага сэксу (пры гэтым акцёр, які сыграў галоўную ролю, скардзіўся, што найскладаней яму было здымацца ў сцэне, дзе ён ідзе босым па вуліцы).

На сёлетнім кінафэсце была карціна «Хэлі» пра каханне 12-гадовай дзяўчынкі і прадажнага паліцэйскага (у якасці дадатковага шоку — кадры спалення мужчынскіх частак). На гэтым тле яшчэ адна конкурсная карціна — мазахісцкая «Венера ў футрах» Рамана Палянскага — акадэмічная класіка.

За 66 гадоў свайго існавання Канскі фэст прайшоў шлях ад лёгкіх сэксуальна-скандальных намёкаў да плоцевых кадраў як акадэмічнай нормы. Спачатку намёкі з'яўляюцца па-за экранам. Праз 20 гадоў яны ўвасабляюцца ў стужцы для абмежаванай публікі. Яшчэ праз 20 гадоў колішнія скандалы — у галоўным конкурсе, які пакуль прэтэндуе на навізну.

Цяпер адбываецца забранзаванне абвешчанай нормы. «Жыццё Адэлі» з палкім лесбійскім сэксам — гэта ўжо не скандал, а мэйнстрым.

Праз 20 гадоў пачакаем на новыя вынікі.

▸ «АРТ СЯДЗІБА» ПРАДСТАЎЛЯЕ

# САПРАЎДНЫ БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**«Арт Сядзіба» разам з партнёрскімі рукамі правяла ў клубе «Re:Public» «Сапраўдны беларускі канцэрт», каб прадставіць творчасць маладой генерацыі беларускамоўнай плыні айчыннага року.**




Спявае гурт ili-ili

Музычная частка «Сапраўднага беларускага канцэрта» распачалася прэм'ерай міні-альбома гурта «Green Pills» «Шызафрэнія». Гэты малады калектыў і іх хіты ўжо дастаткова вядомыя сярод слухачоў, сведчаннем чаго стала бурная іх рэакцыя на музычныя творы з новага аднайменнага альбому, які быў прадстаўлены выдаўцамі ў дзень канцэрта. Многія з тых, хто апладзіраваў такім песням «Green Pills», як «К.С.», «Што будзе заўтра», «Падарожжа ў вясну», адзначылі, што маладыя музыканты больш схільныя да альтэрнатыўнай музыкі і яскрава сацыяльных тэкстаў.

Своеасаблівым адкрыццём стала прэзентацыя кліпа «Шызафрэнія», які толькі што з'явіўся для прагляду ў інтэрнэце. Гэты відэатвор стаў рэальнасцю дзякуючы супрацоўнікам студыі «КАПКАНFilm». Новы кліп ад гурта «Green Pills» уразіў гледачоў экспрэсіяй, наватарствам у перадачы чалавечых эмоцый і якасцю запісу кампазіцыі.

Другім удзельнікам «Сапраўднага беларускага канцэрта» стаў гурт «ili-ili», некаторыя ўдзельнікі якога працуюць у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Музыкі-акторы прадставілі сваю першую беларускамоўную праграму, якую стварылі падчас гастроляў у Францыі.

Музыканты «ili-ili» ідуць ад рок-н-рола ў бок панка, выкарыстоўваючы яшчэ шмат стылістычных адгалінаванняў. Атрымліваецца даволі цікавы сплаў гітарнага гуку, лірычных, а часам і кабарэтных мелодый, а таксама шчырага шматгалоснага спеву, які захапляў слухачоў так, што тыя былі рады падпяваць артыстам.

Новы кліп гурта на песню «Танчыць» стаў яшчэ адным прыемным сюрпрызам ад выканаўцаў і арганізатараў канцэрта. Гэтая музычная стужка была створана на студыі «Ideas» і стала пераможцам конкурсу віда-кліпаў «КЛІПзаМОВА», які праводзіўся «Арт Сядзібай» і відэастудыяй «Ideas».

Гурт «Amaroka», які завяршаў «Сапраўдны беларускі канцэрт», быў мне вядомы па іх дэбютніку «PULS», выступленню гурта на «Амбасовішчы–2011». Тады гурт даваў больш надзей на будучыню, чым уражваў. Але прайшоў час і надзеі спраўдзіліся. Можна смела канстатаваць: гурт «Amaroka»ператвараўся ў моцны канцэртны калектыў аднадумцаў, якія гатовыя да штурму вялікіх канцэртных пляцовак.

Гэтым разам музыкі «Amaroka» прэзентавалі ў «Re:Public» свой апошні альбом «Pastka». І музыка гурта, і спевы надалі столькі імпэту слухачам, што многія з іх выйшлі на сцэну і разам з гуртом «Amaroka» заспявалі фінальную кампазіцыю канцэрта.

Карціна гэтай музычнай падзеі не была б поўнай, калі б арганізатары разам з праектам дабрачынных аўкцыёнаў «МаеСэнс» не абвясцілі супольную дабрачынную акцыю па збору сродкаў на будаўніцтва новага дзіцячага хоспісу. Музыканты і слухачы актыўна набывалі значкі суполкі «МаеСэнс», ахвяруючы сродкі на гэтую высакародную справу.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 623

Падпісана да друку 31.05.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. При выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча